П. ШВЭЙДЭЛЬ
М. БАЦЮШКОЎ
С. ШАЎЦОЎ
А. РОЗНА
С. МАЛАШЭНКА
С. ГУРВІЧ
С. НОРТМАН
Я. КАМЯНЕЦКІ





# УДАРНІКІ



ДРУГІ ЗБОРНІК



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК ЛІМ 1932

ОРГКАМІТЭТ САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ (ОКССП)



П. ШВЭЙДЭЛЬ
М. БАЦЮШКОЎ
С. ШАЎЦОЎ
А. РОЗНА
С. МАЛАШЭНКА
С. ГУРВІЧ
С. НОРТМАН
Я. КАМЯНЕЦКІ



# УДАРНІКІ

ДРУГІ ЗБОРНІК



ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ
МЕНСК — ЛІМ — 1932

## ПРАДМОВА

### да другога зборніку творчасьці рабочых-ударнікаў

Гістарычныя рашэньні ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б пра перабудову літаратурна-мастацкіх організацый адчыняюць новы вышэйшы этап у разьвіцьці літаратурнага пролетарскага руху і ўсёй савецкай літаратуры. Літаратурная справа становіцца агульна-пролетарскай справай. На фронт будаўніцтва соцыялістычнай культуры, літаратуры і мастацтва прышла маса рабочых і колгасьнікаў. Вырасьлі „новыя кадры пролетарскай літаратуры і мастацтва, вылучыліся новыя пісьменьнікі і мастакі з заводаў, фабрык, колгасаў, рамкі існуючых пролетарскіх організацый (ВОАПП, РАПП, РАМП ды інш.) становяцца ўжо вузкімі і тармозяць сур'ёзны размах мастацкай творчасьці" (ЦК УсеКП(б).

Пролетарская літаратура за апошнія гады, на базе агульных посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва на ўсіх франтох народнае гаспадаркі, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі вырасла (ня гледзячы на яшчэ значнае адставаньне ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва) у магутную зброю клясы пролетарыяту за ідэі соцыялізму. Пролетарская літаратура стала цьвёрда на ідэёва-творчы шлях ва ўсёй савецкай літаратуры.

Бязумоўна, вялікую ролю, у сэнсе ідэёвага творчага росту пролетарскай літаратуры, у сэнсе наданьня масавасьці пролетарскім літаратурна-мастацкім організацыям адыграў заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру, іх творчасьць.

Творчасьць рабочых-ударнікаў, пры ўсіх сваіх яшчэ значных зрывах, недахопах,—зьяўляецца фактам, які яскрава сьведчыць пра той вялікі процэс ленінскай культурнай рэволюцыі, якая ахапіла ўсю масу працоўных Савецкага саюзу, сьведчыць пра шпаркі культурны ўздым рабочае клясы нашае краіны, што зьяўляецца вынікам правільнага кіраўніцтва комуністычнай партыі ўсім нашым жыцьцём.

Бязумоўна, творчасьць рабочых-ударнікаў мае яшчэ значныя недахопы. Гэтыя недахопы галоўным чынам ідуць па лініі схэматызму, па лініі эмпірычнага падыходу да зьяў, да рэчаў. Часта маладыя пісьменьнікі ня ў сілах яшчэ падпарадкаваць тэорэтычнаму абагуленьню той матэрыял, над якім працуюць, часта ня ў сілах

выразіць ідэю праз мастацкія вобразы і зьбіваюцца на газэтную публіцыстыку і т. д.

Але-ж гэтыя недахопы маладой творчасьці, гэтыя зрывы не выцякаюць з якой-небудзь тэорэтычнай асновы (накшталт літфронтаўскай), а яны выцякаюць з яшчэ вузкага сьветапогляду маладых пісьменьнікаў, зьяўляюцца вынікам яшчэ слабага ауладаньня творчым мэтодам матэрыялістычнай дыялектыкі, тэорыяй Маркса-Леніна-Сталіна.

Другі зборнік творчасьці рабочых-ударнікаў, які ў свой час быў падрыхтаваны Менскай Асоцыяцыяй Пролетарскіх Пісьменьнікаў, агулам паказвае на бязумоўны ідэёва-творчы рост маладых пісьменьнікаў, у параўнаньні з першым зборнікам, паказвае на значнае перамаганьне ранейшых зрываў і недахопаў.

Творчасьць другога зборніку паказвае, што некаторыя маладыя пісьменьнікі, рабочыя-ўдарнікі, пачынаюць падымацца да тэорэтычнага ўсьведамленьня проблем нашай сучаснасьці, пачынаюць перамагаць той схэматызм, эмпірызм, тую вузасьць, у сэнсе падачы матэрыялу, што мела месца ў ранейшай іх творчасьці.

Другі зборнік творчасьці рабочых ударнікаў, як і першы, зьяўляецца перш за ўсё актуальным па сваёй тэматыцы. Тэмы ўсіх твораў другога зборніку самым шчыльным чынам увязаны з сучасным этапам соцыялістычнага будаўніцтва, цалкам зьвязаны з практыкай рабочае клясы, з мерапрыемствамі, якія праводзіць комуністычная партыя. Тэмы бяруцца маладымі пісьменьнікамі ў непасрэдным дачыненьні да таго ці іншага заводу, фабрыкі, у дачыненьні да сучасных сусьветных падзей,—яны накіроўваюцца на барацьбу з недахопамі на вытворчасьці, на барацьбу з бракам, прагуламі, на выкананьне прамфінпляну, на паход за ауладаньне тэхнікай, на паказ герояў соцыялістычнага будаўніцтва—ударнікаў фабрык і заводаў.

У гэтым кірунку конкрэтызуецца і ідэя твораў.

Ідэя твораў другога зборніку падаецца не як абстрагаванае разважаньне пра жыцьцё наогул, наогул пра чалавека, не як інтэлігенцкае пасыўнае сузіраньне, а цалкам накіроўваюцца на дапамогу вырашэньня праблем нашай сучаснасьці, на дапамогу пасьпяховаму соцыялістычнаму будаўніцтву на ўсіх фронтах, на ажыцьцяўленьне задач, якія ставяцца комуністычнай партыяй перад працоўным усяго Савецкага саюзу.

У аснове бадай усіх твораў пакладзена ідэя выкананьня плянаў пяцігодкі,—змаганьне, упартая праца рабочае клясы ў пабудове бясклясавага грамадзтва.

Праца ў творах паказваецца як пачэсная справа, як „справа гонару і геройства“.

Творы другога зборніку, якія яскрава сьведчаць пра ідэёва-творчы рост маладых пісьменьнікаў, якія паказваюць на поступ уперад маладых пісьменьнікаў у сэнсе ауладаньня творчым мэтодам дыялектычнага матэрыялізму,—гэта творы П. Швэйдэля, С. Шаўцова, С. Малашэнкі, М. Бацюшкова.

Гэтыя таварышы апошнімі сваімі творамі зрабілі значны крок уперад па шляху аўладаньня творчым мэтодам дыялектычнага матэрыялізму, ня гледзячы яшчэ на значныя недахопы.

У сваім апавяданьні „Расьце чалавек“ П. Швэйдэль паказвае, як комсамолец Крыс праз актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве вырастае ў моцную, стойкую асобу—перадавіка рабочае клясы—партыйца, як комсамол, партыя дапамагаюць чалавеку падымацца на вышэйшую ступень. У гэтым апавяданьні П. Швэйдэль змог ухапіцца за асноўнае ў нашым комсамоле (яго выхаваўчае значэньне), за асноўнае нашай сучаснасьці—гэта ідэёва-культурны рост чалавека, рост рабочае клясы на базе соцыялістычнага будаўніцтва, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Крыс—асноўны вобраз апавяданьня, комсамолец, зьяўляючыся адданым рабочым друкарні, сакратаром комсамольскай ячэйкі, мобілізуецца комсамолам ва флёт. Ва флёт Крыс ідзе з вялікай ахвотай. Ён добра разумее ўсю важнасьць флёту, Чырвонай арміі.

На прывітаньні таварышоў ён адказвае: „Вы перадаеце нас падшэфнаму Чырвонаму флёту, комсамол адпраўляе нас вучыцца абараняць рэволюцыю на моры, як многія з нас абаранялі дагэтуль на сушы. На гэта ў нас адзін адказ: наказ комсамолу выканаем. На караблёх Чырвонага флёту будзем вучыцца змагацца за рэволюцыю“.

Крыс ідзе ва флёт апраўдаць давер'е, імя комсамольца. Ён баіцца: „а, што калі адашлюць назад, вось сорамна перад ячэйкай будзе“.

Пры паказе комсамольца Крыса, як адданага барацьбіта на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва, як вытрыманага комсамольца, у апавяданьні ярка выступае цэлы комсамольскі колектыў, маса.

Асоба Крыса падаецца не ізолявана ад колектыву, а яна выступае з колектыву, колектыў характарызуе вобраз Крыса і, наадварот, вобраз Крыса азначае асноўнае ўсяго комсамольскага колектыву, вобраз Крыса выражае асноўныя рысы комсамолу,—гэта быць верным ідэі пролетарскай рэволюцыі на ўсіх фронтах.

Комсамол у апавяданьні адчуваецца як моцны спаяны колектыў, як адна сям'я, якая прасякнута аднэй ідэяй і мае перад сабой адну мэтаімкнёнасьць.

Аднак, ня гледзячы на значны поступ П. Швэйдэля ўперад па творчым шляху, па шляху аўладаньня творчым мэтодам дыялектычнага матэрыялізму,—апавяданьне не пазбаўлена і пэўных недахопаў. Вобраз комсамольца Крыса ў апавяданьні падан далёка ня поўна.

Крыс амаль зусім не паказан у дзеяньні.

Крыс паказваецца не праз дзеяньне, не праз яго непасрэдныя адносіны да рэчаў, да людзей, а апавядальным прыёмам аўтара. Мы ня бачым амаль у апавяданьні, як Крыс пераходзіць з адных абставін у другія, як ён непасрэдна перамагае жыцьцёвы шлях, як ён, перамагаючы гэты шлях, уздымаецца на вышэйшую ступень сьветапогляду,—аб гэтым усім толькі апавядаецца.

Аўтар вобраз Крыса пераносіць з адных абставін у другія, не конкрэтызуючы яго ў паступовасьці. Напрыклад, Крыс на вытворчасьці, затым ва флёце і зноў на вытворчасьці. Гэта праходзяць цэлыя гады. Але-ж у гэтым часе (напр., чатыры гады ва флёце) Крыс, як дзейны вобраз не адчуваецца.

У нарысе С. Шаўцова „Змагары“, які зьмешчан у гэты зборніку, мы маем паказ героя соцыялістычнага будаўніцтва рабочага-ўдарніка Пагоцкага. Характэрным для гэтага нарысу і для самаго Шаўцова зьяўляецца тое, што вобраз Пагоцкага выступае перад чытачом як тыповы ня толькі для аднаго заводу, аднаго рабочага колектыву, а тыповым у некаторых адносінах для ўсяе рабочае клясы, для сучаснага процэсу, які адбываецца ўнутры рабочай клясы на базе пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва.

У гэтым нарысе ідэю соцыялістычных мэтодаў працы, ідэю соцспаборніцтва і ўдарніцтва, вобраз Пагоцкага, як ударніка, як адданага рабочага соцыялістычнай вытворчасьці, С. Шаўцоў змог узьняць на належную вышыню.

Пагоцкі зьяўляецца ўдарнікам ня проста з-за якой-небудзь вузкай асабістай карысьці. Не. Пагоцкі-ўдарнік, ударны працаўнік соцыялістычнай вытворчасьці, па сваім ідэйным перакананьні, у інтарэсах дыктатуры пролетарыяту, сваёй клясы ў цэлым. Ім кіруе ідэя, што наша пасьпяховае соцбудаўніцтва, нашы тэмпы працы, наш кожны новы завод, фабрыка,—ёсьць моцны ўдар па сусьветнай буржуазіі, ёсьць зброя за вызваленьне ўсіх прыгнечаных. „Цяпер мы ваюем,— кажа Пагоцкі,—як і раней, за вызваленьне сваіх братоў рабочых і сялян, за вызваленьне саміх сябе. Ваюем не з аружжам, ня з бомбай, а будоўляй, робім дамавіну капіталістам. Кожнай машынай, новым заводам бяз промаху цаляем у ворага“.

Калі стварылася затрымка на заводзе з-за адсутнасьці дэталяй Пагоцкі гэта перажывае ўсёй сваёй істотай. Пагоцкаму ня спалася дома. Нікуды гуляць не хадзіў. Да таварыша рабочага з чыгункі і то радзей хадзіў. Размова з ім была аб сваёй машыне. Жаліўся ён, што многа непаладак. І малому гатоў пажаліцца, каб той зразумеў, як цяжка яму, Міхасю, што ў яго яшчэ не наладжана праца.

Як ляжа ў ложак, яму здаецца прад вачыма стаіць нязграбная машына. З трэскам развальваецца, выплаўляюцца падшыпнікі, узьдзетыя на абрубленыя шківы.

І Пагоцкі паказан на заводзе не адзін. Пагоцкі ўросшы ў колектыў. Навокал Пагоцкага-ўдарніка разгортваецца досыць поўны малюнак таго, як увесь завод, як у асноўным уся рабочая маса ахоплена соцыялістычнымі мэтодамі працы. Разгортваецца малюнак, як рабочы колектыў змагаецца за прамфінплян на сваім заводзе, як ударная, шчырая праца Пагоцкага зьяўляецца прыкладам для другіх. Як Пагоцкага любяць, шануюць, паважаюць рабочыя за яго адданасьць вытворчасьці і зварочваюцца да яго за парадамі, як да старэйшага таварыша па вытворчасьці. Як Пагоцкі ўважліва, чула адносіцца да запытаньняў і г. д.

На фоне заводу, паказваецца, як абрываюцца апошнія ніткі старога быту, як новае, вялікае перамагае ў псыхіцы чалавека рэшткі старога, як крысталізуецца, перарастае чалавек у члена соцыялістычнага грамадзтва.

Пагоцкі-ўдарнік, Пагоцкі зусім сьвядомы змагар за соцыялізм, але-ж аўтар не падае яго, як нешта выключнае, ідэальнае, ура-бальшавіка, не падае як схэму. Пагоцкі пададзен ва ўнутраных супярэчнасьцях, пададзен у процэсе перамаганьня старога, рэакцыйнага. На твары Пагоцкага яшчэ можна заўважыць рыскі мінулага, рыскі рэлігіі, якімі быў апавіт чалавек да Кастрычнікавай рэволюцыі.

Праўда, гэты нарыс мае і шмат недапрацаванасьці. У нарысе ня ўвесь матэрыял падпарадкаван аднэй ідэі, якая ляжыць у аснове твору. Адчуваецца пэўная расплывучатасьць матэрыялу, некаторая перагружанасьць, няўвязка зафіксаванага, успрынятага з асноўным, вядучым.

Таксама нельга не заўважыць С. Шаўцову і тое, што ў нарысе недастаткова паказана роля партыі, роля партыйнай заводзкай організацыі.

Ніяк нельга поўна паказаць на заводзе рух ударніцтва, рост сьвядомасьці рабочых, працу заводу наогул, не паказваючы кіруючую ролю партыйнага колектыву ўсім жыцьцём заводу.

І іменна таму, што ў нарысе партыйнае кіраўніцтва паказана, недастаткова, адчуваецца пэўная стыхійнасьць у працы, стыхійнасьць у самым ударніцкім руху.

Трэба сказаць, што недастаткова паказана партыйнае кіраўніцтва і ў апавяданьні С. Малашэнкі „На ўхабе“, якое зьмешчана ў гэтым зборніку. Партыйнае кіраўніцтва не адчуваецца на ўсіх вучастках заводзкага жыцьця. Партыйны колектыў у апавяданьні не паказан як галоўны організатар усіх мерапрыемстваў на заводзе і быту.

Само апавяданьне „На ўхабе“ вельмі цікавае ў сэнсе пастаноўкі проблемы, яно каштоўна і па сваёй ідэї і сьведчыць пра пэўную здольнасьць і рост аўтара.

С. Малашэнка ў гэтым апавяданьні паказвае выхаваўчую значымасьць комсамолу, паказвае тое здаровае асяродзьдзе, здаровы колектыў—завод, які перамагае ў самом сабе і навокал рэшткі гнілой мінуўшчыны: мяшчанства, індывідуалізм. Паказвае, як комсамол, завод выпраўляе людзей, выхоўваюць моцных, сьвядомых членаў нашага часу,—барацьбітоў за рэволюцыю, за соцыялістычную вытворчасьць.

Асноўным вобразам апавяданьня „На ўхабе“ зьяўляецца Аркадзь. Хто такі Аркадзь?

Аркадзь—комсамолец. Аркадзь вучыцца ў тэхнікуме, працуе на вытворчасьці, занят клапотамі над вынаходзтвамі.

Спачатку мы бачым Аркадзя як вытрыманага комсамольца, як сумленнага рабочага, які неадрыўна зьвязан з заводам і комсамолам. Пазьней Аркадзь пачынае парываць з заводам, комсамолам.

Аркадзь улюбляецца ў дачку тэхніка Ніну, якая ўяўляе з сябе тыповую мяшчанку, абывацельку. Ніна на Аркадзя робіць вялікі ўплыў Яна цягне яго на свой шлях і адрывае яго ў пэўнай меры ад заводу, ад комсамолу. Унутры Аркадзя скрыжоўваюцца два супярэчлівых пачаткі: з аднаго боку—колектыў, завод, з якім зьвязан Аркадзь, які паклаў на яго свой адбітак у сэнсе фармаваньня пролетарскага сьветапогляду (Аркадзь у мінулым—селянін) і з другога боку—мяшчанка Ніна. Аркадзь становіцца на раздарожжа. Дзьве пасмы супярэчлівых разваг не даюць магчымасьці знайсьці сталы адказ. Ці пайсьці насустрач Ніне, гэта значыць парваць на заўсёды з заводам, комсамолам (Ніна гэтага патрабуе), ці пераламаць у сябе тыя пачуцьці, якія абуджаны вобразам Ніны, і застацца верным комсамолу, заводу.

Спачатку мы бачым Аркадзь ідзе на шлях Ніны. Ён адыходзіць ад комсамолу, парывае на пэўны час і з заводам. Але калі толькі Аркадзь пачынае гэтыя крокі рабіць, перад ім усплывае завод, яго ахапляе страх разрыву з комсамолам. Ён ідзе да Ніны на спатканьне і ў яго галаве рой думак. „Няўжо-ж яно так і будзе няўжо-ж прыдзецца разьвітацца з комсамолам і тэхнікумам?“ І гэта больш за ўсё мучыць Аркадзя. Чым далей становіцца ад яго завод і комсамол, тым ён больш балюча гэта пераажывае, тым выразьней перад ім паўстае ўся чарната таго шляху, на які ён ступіў. Перад Аркадзем вобраз Ніны вырысоўваецца ў рэальнай яе сутнасьці.

Калі Ніна яго супакойвае, што няма чаго шкадаваць заводу, што гэта „глупства. Хіба ты ня знойдзеш другога месца“,—Аркадзь адказвае:—„Справа ня ў месцы, а комсамол і тэхнікум.“—„Я ня згодзен залазіць далей уперад.“

Завод і комсамол займаюць пераваргу ў сьвядомасьці Аркадзя. Аркадзь, пры дапамоге комсамольскай ячэйкі, грамадзкіх організацый заводу—прыходзіць да правільнага аналізу сваіх учынкаў, да аналізу таго, што ён не направільным шляху. У ім пачынае гаварыць комсамольскае сумленьне. Ён цалкам усьведамляе, што праробленыя ім учынкі—гэта ўчынкі не комсамольца, што такім, як ён—ў комсамоле ня месца.

Вобраз Аркадзя ў апавяданьні пададзен як складаны вобраз, глыбока разьвіты. Ён у меншай меры схэматычан.

Гэта апавяданьне С. Малашэнка яскрава сьведчыць пра перамаганьне маладымі пісьменьнікамі таго схэматызму, які ярка выступае ў ранейшых творах рабочых ударнікаў.

З паказам ролі комсамолу С. Малашэнка справіўся ня дрэнна. Але недастатковы паказ ролі партыйнага кіраўніцтва ўсім гэтым процэсам зьяўляецца вялікім недахопам апавяданьня. Амаль на працягу ўсяго апавяданьня перад чытачом выступае, з аднаго боку, завод і комсамол, а з другога боку—Аркадзь і Ніна. Організатар, кіраўнік вытворчасьці—партыйны колектыў адчуваецца як нейкі арбітар, які знаходзіцца недзе ў баку.

Бязумоўна, у гэтым апавяданьні С. Малашэнка не пазбавіўся шалкам і схэматызму. Ён яшчэ заметна выступае ў абрысоўцы хоць-бы вобраза Ніны.

Ніна характарызуецца аўтарам некалькімі сказамі. Яна зусім слаба паказана ў дзеяньні. Бадай, калі б аўтар не сказаў аб тым, што Ніна скончыла сямігодку, што яна дачка тэхніка, што яна дамаседка, якая капаецца ў сваім утулку, дык яе мабыць зусім нельга было б уявіць. А таму і такі мощны ўплыў яе на Аркадзя (ня гледзячы на магчымасьць факту) недастаткова мастацкі абгрунтаваны. Перад чытачом недастаткова ўскрываюцца ўсе тыя прычыны, якія хоць і на пэўны час зьвязалі Аркадзя-комсамольца з Нінай. І чаму менавіта Аркадзь, як комсамолец, як рабочы не зрабіў уплыву з свайго боку на Ніну, каб схіліць яе на свой бок.

Слабейшымі ў гэтым зборніку з празаічных твораў зьяўляецца „Снайпэр“ С. Нортмана і „Шлях да перамогі“ Я. Камянецкага.

Абодвы апавяданьні і „Снайпэр“ і „Шлях да перамогі“ не пазбаўлены яшчэ буйных недахопаў. І калі яшчэ можна гаварыць, што апавяданьне „Снайпэр“ выражае сабой пэўны, ідэёва-творчы рост С. Нортмана, у параўнаньні з ранейшай яго творчасьцю, дык гэта цяжка сказаць пра „Шлях да перамогі“ Я. Камянецкага.

У чым недахоп апавяданьня „Снайпэр“.

Гэты недахоп, перш за ўсё, выражаецца ў тым, што аўтар ня змог поўнакроўна паказаць той вобраз ударніка, які зьяўляецца мэтай паказу. Аўтар праз мастацкі вобраз ня змог адпаведна глыбока выразіць тую ідэю, якую паклаў у аснову твора,—менавіта ідэю ўдарніцтва, ідэю новых форм працы, якія (формы) выцякаюць з вышэйшай ступені сьвядомасьці рабочае клясы і выражаюць сабой вышэйшы этап соцыялістычнага будаўніцтва.

У апавяданьні „Снайпэр“ спачатку падаецца прарыў на заводзе. Прарыў, які здарыўся па прычыне адсутнасьці на заводзе сыравіны-чыгуну і нерацыяналізаванай працы ў цэху. У цэху непарадак, абязьлічка. „Як прыдзеш на работу, шукаеш патрон, падбіраеш ключ да яго, стаіш у чарзе каля інструментальнай, ды ці мала ў нас непарадкаў, якія перашкаджаюць рабоце“.

І вось аўтар, падаўшы такое становішча на заводзе, у цэху імкнецца паказаць, як з гэтым прарывам змагаюцца самі рабочыя, як гэты прарыў перамагаецца вышэйшай формай соцыялістычнай працы—комунай.

Аўтар імкнецца падаць вобраз рабочага-ўдарніка Лявона, які зьяўляецца застрэльшчыкам новых мэтодаў працы, зьяўляецца організатарам на заводзе вытворчай комуны, які знаходзіцца ўперадзе на ўсіх фронтах чалавечага жыцьця.

Трэба сказаць, што Лявон і організаваная ім комуна не паданы ў жыцьцёвым абліччы. Мы толькі бачым жаданьне Лявона організаваць комуну, толькі чуем, як ён гаворыць, што „трэба нам комуна, бо так працаваць далей немагчыма“, маем словы самаго аўтара, што „неўзабаве пачала комуна працаваць“. Але як адбываўся ўвесь гэты складаны процэс перарастаньня пэўнай часткі

рабочага колектыву ў комуну, як уздымаліся рабочыя і сам Лявон на вышэйшую ступень сьвядомасьці,—гэтага ў апавяданьні ня відаць. Таксама ня відаць і таго, як арганізованая комуна стала перавыжней ранейшых мэтодаў працы, наколькі яна апраўдала сябе.

Апавяданьне Я. Камянецкага „Шлях да перамогі“, ня гледзячы на тэматычную актуальнасьць, ня гледзячы на тое, што аўтар паставіў перад сабой мэту паказаць завод на даным этапе,—яно гаворыць пра буйныя зрывы, буйныя недахопы пачынаючага пісьменьніка.

У чым загана апавяданьня Я. Камянецкага „Шлях да перамогі“?

Загана гэтага апавяданьня ўся ў тым, што аўтар ня змог падняцца вышэй сырога матэрыялу, што аўтар не ўладаў акружаючым яго матэрыялам, а фактычна застаўся сам у палоне гэтага матэрыялу. Аўтар ня змог ва ўсім матэрыяле знайсьці асноўнае, ухапіцца за гэта асноўнае, узьняць яго на адпаведную вышыню.

Зусім нельга сказаць, якую ідэю аўтар хацеў выразіць у сваім апавяданьні. Ці аўтар хацеў у гэтым апавяданьні паказаць, як рабочыя змагаюцца за прамфінплян, ці хацеў паказаць ідэю соцспаборніцтва і ўдарніцтва, ці паказаць героя соцыялістычнай будоўлі, у данным выпадку Норда, ці перавыхаваньне бяспрытульнага Анатоля, ці выхаваўчае значэньне друку, ці як рабочыя авалодваюць тэхнікай,—усё гэта зьліваецца ў адно. Няма ў апавяданьні цэнтральнага, што-б зьвязвала твор у адно цэлае. Аўтар падышоў да матэрыялу, не падпарадкаваўшы яго глыбокаму аналізу.

Аўтар увесь час, груба гаворачы, плавае па матэрыяле. Яго водзяць факты.

Анатоль,—адзін з галоўных герояў апавяданьня, ня гледзячы на тое, што аўтар яго ня выпускае з поля зроку, пададзен ня поўна, у значнай меры схэматычна. А аўтар надзвычайна шмат кідае фарбы на абрысоўку гэтага героя. Мы, напрыклад, бачым Анатоля на заводзе, на сходзе, у кіно, на кватэры, зноў на заводзе, зноў на сходзе, за работай,—і ўсё-ж такі асноўных прычын процэсу перавыхаваньня Анатоля мы ня бачым, альбо бачым у схэме. Анатоль застаецца ня поўным.

Як падаецца процэс перавыхаваньня бяспрытульнага Анатоля?

Рашаючае, па аўтару, значэньне ў выпраўленьні, перавыхаваньні Анатоля мела завадзкая шматтыражка аднадзенка. Анатоль увесь час цягнуўся ў хвасьце выкананьня прамфінпляну і яго за гэта прапісалі ў газэту, намалявалі, што ён едзе на чарапасе. І вось гэта ставіць Анатоля ў рады перадавых рабочых(?).

Бязумоўна, нельга адмаўляць вялізарнага ўплыву на Анатоля ў даным выпадку, такога факту, як і наогул вялікай выхаваўчай ролі газэт. Але-ж нельга гэты факт уздымаць у абсалют, рабіць яго рашаючым, што фактычна атрымоўваецца ў Я. Камянецкага. Чарапаха ўвесь час не дае Анатолю пакою. Яна яго ўсюды прасьледуе, мярэшчыцца перад яго вачыма.

Гэта бязумоўна гучыць наіўна.

А вось асноўнае ў перавыхаваньні Анатоля,—гэта само асяродзьдзе, наша сучаснасьць, роля партыі і комсамолу, соцыялістычнае будаўніцтва і актыўны ўдзел Анатоля ў апошнім,—гэта з апавяданьня выпадае.

Тое-ж можна сказаць у адносінах Норда, ударніка, брыгадзіра.

Норд не паказаны як выразіцель волі перадавога колектыву, як выразіцель ідэй партыі, а ён адчуваецца толькі як шчыры і здольны рабочы. Інакш кажучы, аўтар ня змог праз Норда паказаць колектыў, паказаць праз прыватнае агульнае.

Гэта, бязумоўна, здарылася таму, што аўтар эмпірычна падышоў да матэрыялу, што ня змог ухапіцца за асноўную ідэю і падняць яе на адпаведную вышыню, ня змог выбрацца на паверхню матэрыялу.

З гэтай-жа прычыны няма ў апавяданьні шчыльнай увязкі і паміж паасобнымі зьявамі, фактамі, процэсамі.

Напрыклад, соцспаборніцтва паказана як нейкі стыхійны процэс, як стыхійнае дзеяньне, не адчуваецца адзінага кіраўніцтва, слаба ўвязана з агульным ходам падзей на вытворчасьці.

Поэзія гэтага зборніку таксама, як і ўвогуле проза, адзначае сабой поступ уперад маладых поэтаў у сэнсе аўладаньня тэхнікай вершу, у сэнсе аўладаньня тэхнікай мастацкага слова—поступ уперад у аўладаньні творчым мэтодам дыялектычнага матэрыялізму.

Поэзія М. Бацюшкова, якая зьмешчана ў гэтым зборніку, гаворыць пра тое, што аўтар значна вырас у параўнаньні з ранейшымі сваімі вершамі. Вершы гэтага зборніку паказваюць, што М. Бацюшкоў пачынае ўсё глыбей падыходзіць да зьяў рэчаіснасьці. У вершы „Пераплаўляецца жыцьцё“ малады поэта, з пафасам адзначаючы наш шпаркі рост у напрамку будаўніцтва соцыялізму, падкрэсьлівае вялікае значэньне рабочае клясы і працоўнага сялянства за час ад грамадзянскай вайны да нашых дзён

Аднак, ускрыць праз мастацкі вобраз усю супярэчнасьць гістарычнага процэсу, процэсу нашай сучаснасьці, выпукла конкрэтызаваць кожную зьяву, паказаць яе ўсебакова—у М. Бацюшкова не хапае сілы. Об'ект не разгортваецца ў поўны, дзейны вобраз, не паказваецца як самастойная частка цэлага, а гэты об'ект расплываецца ў агульным констатаваньні, пра яго аўтар гаворыць, але не выяўляе ва ўсебаковасьці.

Паказальным у гэтых адносінах зьяўляецца яго верш, зьмешчаны ў гэтым зборніку „Гутарка з рыдаючым лішэнцам“. Тэма вершу надзвычайна адказная і актуальная. Аўтар у гэтым вершы хоча падаць вобраз лішэнца — былога жандара, які пралез на вытворчасьць, у дачыненьні яго да ўсяго навакольнага заводзкага жыцьця. Аўтар бачыць гэтага лішэнца (і зусім правільна імкнецца паказаць) адарваным ад рабочага колектыву, ад заводзкага жыцьця, гаворыць аб ім як аб гультаі, для якога праца ня ідэя, для якога

завод толькі сродак пражыцьця, які (лішэнец) да працы адносіцца пастолькі-паколькі.

„Я бачу: што раз на гадзіньнік глядзіш,
Здаецца—гудок і бяз крыл паляціш.
Сябе адчуваеш сярод рабочых
Бы ў асэнізатарскай бочцы“.

Аўтар правільна ўказвае на кар'ерызм такіх асоб, якія ставяць мэтай:

„Пабыць на заводзе паўгода ці год,
Каб сыну даць поўны ўпэўнены ход“.

Але аўтар ня змог гэтага лішэнца—былога жандара—падаць ва ўсебаковым клясавым абліччы, падаць яго як вобраз пэўнай клясы, ускрыць ідэю гэтага вобразу, з якой выцякаюць усе яго паводзіны, яго адносіны да працы, да рабочага колектыву і т. д. Аўтар абмежаваўся агульным констатаваньнем фактаў.

Нельга таксама не заўважыць Н. Бацюшкову на некаторыя няправільныя небясьпечныя тэндэнцыі, якія праяўляюцца, маюць пэўнае месца ў яго поэзіі.

Гэтыя небясьпечныя тэндэнцыі ідуць па дзьвюх лініях. Па-першае, у аўтара заўважаюцца тэндэнцыі—стаўка на тэхніку вершу, пагоня за формай, за лік глыбіні зьместу вершу, а па другое, М. Бацюшкоў робіць крокі ў сваёй поэзіі на шлях адмаўленьня лірыкі, адмаўленьня выражаць праз мастацтва пачуцьці. Гэты струмень, гэта тендэнцыя, бязумоўна, зьяўляецца небясьпечнай для далейшай творчай практыкі пачынаючага поэта М. Бацюшкова. На гэта неабходна М. Бацюшкову паказаць. Тым больш гэта набясьпечна і неабходна папярэдзіць, што гэта адмаўленьне лірыкі, адмаўленьне выражаць пачуцьці праз мастацтва ідзе ад першых твораў маладога аўтара, нагадвае на нейкую пэўную лінію.

Ужо ў першым зборніку рабочых-ударнікаў М. Бацюшкоў выказвае гэтае адмаўленьне. У адным вершы ён проста заяўляе:

„Ну яго к чорту,
паказваць пачуцьцеў мастацтва,
Лепей вучыцца
валодаць нажом“.

А бо:

„Калі пачынае лірычная юшка ліцца—
Хопіць калупацца
ў грудзёх стогнучы“.

Гэта-ж думка, крыху толькі інакшым спосабам, выказана і ў вершы гэтага зборніку „Настаўніцы практыканцы“.

„Я за юнацтва,
за сэрца росквіт
Ў баявой завірусе дзён.
Толькі час
маладому сяброўству
Плянам працы
не адвядзён.
Дарагая,
з парыўнасьцю бравай
Разумей:
нясучы штурму сьцяг,
Не павінен,
ня *маю* права
*Слухаць*
*музыку* пачуцьця

(Курсіў мой.—С. К.).

Пролетарская літаратура, наша сучаснасьць не адмаўляюць лірыкі. Наадварот, мы ў процівагу лірыцы буржуазнай, лірыцы мяшчанскай—індывідуальнай—павінны ствараць лірыку соцыялістычнага будаўніцтва, лірыку героічнай барацьбы, лірыку пролетарскую. Мы павінны навучыцца праз поэзію, праз індывідыума выразіць пачуцьці колектыву, пачуцьці рабочае клясы ў процэсе яе росту. Але ні ў якім разе не адмаўляць пачуцьцяў, не адмаўляць пролетарскае лірыкі.

Бязумоўна, гэта не асноўнае ў поэзіі М. Бацюшкова. Гэта налёты, зрывы, але на гэтыя налёты, зрывы М. Бацюшкова трэба зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу. Асноўнае ў поэзіі М. Бацюшкова,—гэта клясавая завостранасьць, баявізм яго вершу, імкненьне паставіць кожную проблему ў роўніцу актыўнай барацьбы за соцыялістычнае будаўніцтва, у роўніцу барацьбы за выкананьне тых задач, якія ставяцца перад рабочай клясай нашай краіны комуністычнай партыяй.

М. Бацюшкоў імкнецца разглядаць кожную рэч, кожную зьяву з пункту погляду яе сувязі з нашай рэчаіснасьцю, з пункту погляду карыснасьці яе для соцыялістычнага будаўніцтва.

Верш С. Нортмана „Настане бой апошні“, які зьмешчан у гэтым зборніку, характарызуецца сваёй актуальнасьцю ў сэнсе пастаноўкі проблемы, у сэнсе політычнай завостранасьці. У гэтым вершы, хаця і без належнага паказу, аўтар ярка падкрэсьлівае ўсю жудасьць імпэрыялістычнай вайны, усю жудасьць надыходзячай сусьветнай бойні. Аўтар падкрэсьлівае, што гэтую сусьветную бойню—„паход“ супроць краіны саветаў—рыхтуюць імпэрыялістыя.

„Крывяжэрныя гарматы зноў
Наводзяць дзяржавы сусьвету,
Заключаючы шэрагі змоў
Супроць—
Краіны саветаў“.

Што зноў:

„Марыць Пілсудзкі-„маршалак“
Аб межах:—
„Ад мора да мора“.
Навісаюць вайны чорныя шалі
І зноў: папялішчы... руіны... гора“.

Тыя „мерапрыемствы“, захады капіталістычных дзяржаў „раззброіцца“—аўтар падае як неадпаведнасьць сапраўднасьці, як пярэчаньне рэчаіснасьці. Таму, што гэтыя „мерапрыемствы“, гэта „хаценьне“ раззброіцца адбываецца пад акомпанімэнт гармат, у чорным дыме вайны, якая адбываецца ў Кітаі.

„Раззбраеньнем“ заняты дзяржавы
... Над Кітаем пораху шызы дым“.

Гэтым капіталістычным намерам, прагнасьцю капіталістаў да вайны аўтар супроцьстаўляе сусьветную сілу пролетарыяту,—сілу, якая яднаецца пад сьцягам Комінтэрну. Аўтар добра разумее, што сіла сусьветнага пролетарыяту і ўсіх працоўных, пад кіраўніцтвам

комуністычнай партыі, пад сьцягам Комінтэрну—ператворыць сусьветную бойню ў „вольны—чырвоны сусьвет“. На гэты шлях, пад сьцяг Комінтэрну, аўтар і заклікае гэту сілу.

„За вольны—
Чырвоны сусьвет
У бой,
пад сьцягі
Комінтэрну!!!“

Вершы А. Розны і С. Гурвіча,—гэта вершы новых рабочых аўтараў, гэта іх першае зьяўленьне ў зборніку творчасьці рабочых-ударнікаў.

Як дадатнае ў вершы гэтых аўтараў,—гэта сама тэматыка вершаў, выразная пастаноўка пытаньня, імкненьне ўсё разглядаць у сувязі, бачыць ва ўсякай зьяве яе актыўнасьць, яе соцыяльную значымасьць. С. Гурвіч падкрэсьлівае партыйную ролю вясны, А. Розна цэлым вершам спыняецца на функцыянальнай ролі „Чорнай дошкі“,—паказвае, якую ролю яна адыгрываео ў выхаваньні колектыву. Аднак, ня гледзячы на правільны падыхд да об'ектыўнай рэчаіснасьці,—у гэтых таварышоў няма глыбокага раскрыцьця процэсу гэтае рэчаіснасьці, не хапае сілы ўскрыць гэты процэс з адпаведнай выразнасьцю. Напрыклад, С. Гурвіч піша спэцыяльна верш пра вясну, хоча паказаць, „ці можа быць прыкладна, сягоньня беспартыйная вясна?“ Паставіўшы перад сабой такое актуальнае пытаньне, С. Гурвіч вырашыць ня змог. Іменна ня змог паказаць, у чым-жа партыйнасьць вясны. Ён абмежаваўся агульным разважаньнем пра вясну, ня змог пранікнуць у глыбіню процэсу.

Гэтай-жа агульшчынай, павярхоўнасьцю характарызуецца і яго верш „Да вас“.

У вершах А. Розны гэты няглыбокі падыход да рэчаіснасьці, пэўная ідэёвая вузасьць таксама займае сваё месца. Асабліва гэта вузасьць, гэты няглыбокі падыход да процэсу рэчаіснасьці выяўляецца ў вершы „Інтэрв'ю“.

У вершы „Інтэрв'ю“ аўтар гаворыць пра сьмерць Брыяна, пра яго дзейнасьць, указвае зусім правільна на яго рэакцыйную сутнасьць, падкрэсьлівае яго, як былога натхніцеля новай вайны, натхніцеля нападу на СССР.

„Ты зграю расійскіх бандытаў зьбіраў,
Каб іх пусьціць на маю айчыну;
Ты іх карміў,
Ты іх абуваў,
Морду сваю падпіраў імі...“

Але аўтар, падаючы вобраз Брыяна як рэакцыянэра, як эксплёататара, як былога натхніцеля паходу на СССР,—ня змог у асобе Брыяна выразіць імкненьні і намеры той клясы, якую прадстаўляў сабой Брыян. Аўтар вырваў асобу з колектыву. Атрымоўваецца з вершу такое ўражаньне, нібы сьмерць Брыяна, яго ўход ад улады робіць грунтоўную палёгку для працоўных Францыі, нібы гэта вы-

ратоўвае становішча. У той час, калі галоўнае—гэта ня сьмерць Брыяна, а існаваньне сыстэмы капіталізму, панаваньне буржуазіі.

Няправільна пастаўлена і вырашана проблема і ў вершы „Слова пра чорную дошку".

„Чорная дошка" аўтарам фэцішызуецца. Аўтар, падаючы „чорную дошку", яе значэньне на вытворчасьці амаль даходзіць да таго, што ў ёй маецца нейкая фатальная сіла.

„І калі адзін чалавек,
занядужае—
Цела выпрастаўшы
папярок,
Яна прыходзіць
здаровая,
дужая.
Зьнішчыць мікробы
гэтых хвароб...
У яе вочы
такія чорныя.
У яе сэрца—
чулага поэты..." і г. д.

Не паказаў, як належыць, А. Розна і лірыкі брыгадзіра ў вершы „Лірыка брыгадзіра".

Гэтыя значныя зрывы ў вершах А. Розны выцякаюць з недастатковага яго пранікненьня ў глыбіню таго ці іншага процэсу, з недастатковага асмысьліваньня таго об'екту, які бярэцца ім для мастацкага адлюстраваньня, з вузасьці сьветапогляду.

У А. Розны маюцца ўсе дадзеныя, якія сьведчаць пра пэўнае разуменьне ім спэцыфікі творчасьці, ён ня дрэнна аўладае самой тэхнікай вершу, але бяз працы над сабой, бяз працы ў напрамку аўладаньня творчым мэтодам дыялектычнага матэрыялізму,—рост уперад немагчым.

Тое самае трэба сказаць і ў адносінах іншых аўтараў гэтага зборніку. Што праца над сабой, праца над аўладаньнем творчым мэтодам дыялектычнага матэрыялізму,—сур'ёзная праца над аўладаньнем тэорыяй Маркса—Леніна—Сталіна, ёсьць асноўная праца кожнага рабочага-ўдарніка, заклікэнага ў літаратуру, кожнага пісьменьніка. Гэта ёсьць тая задача, ад пасьпяховага вырашэньня якой залежыць пасьпяховы рост па шляху стварэньня буйнейшых мастацкіх твораў.

*С. Куніцкі.*

## РАСЬЦЕ ЧАЛАВЕК

### ПАД МЕСЯЦАМ НЕСПАКОЙНА

Значыць дамовіліся? На гэтым і скончым бюро. Пайшлі.

Над пляцам месяц быў нязвычайнай велічыні, круглы, пукаты, сьветлажоўтага колеру. Акенныя паясы, што падпаясвалі камяніцы, гарэлі каштоўнымі камнямі.

На бульвары месяц зваліўся на дрэвы і абломкі яго павісьлі на чорных галінах, асьвятляючы вузкія скрыжаваныя дарожкі.

На рэчцы месяц растварыўся ў вадзе, дзіўным мэталёвым стопам застынула яна між берагамі.

Рэдка які гук даносіўся сюды.

— Прыгожа, хлопцы,—ціха сказаў Лёўка, апускаючыся ў густую траву каля берагу.—Сядайце,—запрасіў ён астатніх.

Некаторы час маўчалі, мялі траву, каб ямчэй улегчыся на зямлі.

Цішыню зноў калыхнуў Лёўка.

— Ня ноч...—яму не хапіла слоў.

— Давайце, хлопцы, анэкдоты расказваць, ці што,—азваўся Каган. Слова мае Крыс. Выкладвай, Моцька.

— Да ну цябе... Ты-б лепш падумаў, як заўтра справіцца з даручэньнем бюро.

— Ну, ну,—пачаў вучыць. Да заўтра цэлая ноч уперадзе.

— Таму вось і забудзешся,—гультайна мармытнула нейчая, пакрытая ценьню куста, галава.

Спрэчкі пагасіў Мішка Кац:

— А ведаеце, хлопцы, на месяц людзі зьбіраюцца ляцець.

— Пра гэта ў Уэльса напісана.

— Ды не, сапраўды зьбіраюцца ляцець. Здаецца ў Амэрыцы прыдумалі такую ракету: пусьцяць яе з зямлі на месяц, а ў ёй жывыя людзі.

— Лоўка...

— А назад?

— Пра гэта ў журнале ня было.

— Які-ж інтэрас, калі вярнуцца нельга?

— А я-б паляцеў.

— Я таксама.

— За компанію і я-б не адмовіўся.

— А за якім чортам нясе іх туды?

— Мабыць не за цукеркамі.

— А я хлопцы, чытаў, што можна месяц скінуць на зямлю.

— Здорава! Як гэта скінуць?

— Дзе ты гэта вычытаў?

— У кніжцы—была ў мяне такая. Вучоны прымусіў месяц апусьціцца на Сахару, каб ліквідаваць паўстаньне плямён пустыні. Разумееце пад якім прэсам гэтыя плямёны апынуліся?

— Фантастыка.

— Не кажы. Сяньня—фантастыка, заўтра—не.

— Гэта што-ж?—Крыс задраў галаву на месяц. Апусьці гэтакі кусок на СССР—і гатова. І ваяваць доўга ня трэба.

— А то не!

— Нічога, паваюем яшчэ. Наогул, мы тут ліха ведае да чаго дагаворымся. Усё Кац са сваімі кніжкамі... А чорт!—Крыс правёў рукой каля сябе і, намацаўшы востры камень, што ўеўся яму ў бок, кінуў яго ў сярэдзіну ракі. Пляснула вада.

Хлопцы ўважліва прасачылі лёт каменя, выслухалі плёск патрывожанай вады.

— Заўтра а пятай гадзіне каб у ЧОН'е былі,—не спазьняцца. Вычысьцім вінтоўкі і айда купацца—пасьпеем у самы раз. А цяпер—дадому хлопцы. Паднімайся, братва!

Крыс ускочыў на ногі.

Сем доўгіх ценяй, налязаючы адзін на другі, размалявалі зямлю. Яны прапаўзьлі некалькі крокаў і спынілі рух.

Уноч нечакана ўварваліся гудкі. Прачышчаючы горла, сілу набіраючы, загаласіла электрастанцыя. Далучыліся да яе заводы. У хор уступілі цягнікі.

Хлопцы моўчкі беглі. Жывым клубком яны выкаціліся на цэнтральныя вуліцы. Пхнулі некалькі чалавек, аднаго павалілі.

Крыс з хрыпам выдыхнуў:

— Не адставай!—у ЧОН.

Да „Комінтэрну"—партыйнага клюбу—сьпяшаліся апошнія спазьніўшыяся чонаўцы. Над парожнімі, прытаіўшыміся вуліцамі гучэў трывожны сьпеў.






Каля брамы—варта. У вузкую калітку, затрымаўшыся ледзь, каб паказаць партыйны ці комсамольскі білет, працэджваліся людзі.

На прасторным двары варушылася шматлюдная маса, але было ціха. Цёмны кут двара выкідваў людзей з вінтоўкамі і месяц запальваў мэталь: вінтоўкі сьвяціліся змрочнымі аганькамі.

Атрымаўшы зброю, хлопцы адшукалі знаёмых і шопатам перагаварваліся. Толькі сабраліся запаліць цыгаркі, як:

— Па-ротна—стройся!

І:

Першая рота,—стройся!

— Другая рота!..

Людзі кінуліся па розных напрамках.

— Трэцяя!..

Двор нібы засеялі радкамі чалавечых постацяў.

— Рота—зважай!

Пальцы моцна сьціснулі ствол вінтоўкі, аж балюча стала. Вочы на камандзіра, а той, разьвярнуўшы імянны сьпіс роты, ловіць на ім сьвятло месяца. Крыс павярнуў галаву ледзь убок і запомніў жывы тын з пабліскваючай ломанай лініяй вачэй на ім.

— Крыс!

З шарэнгі выламаўся чалавек. Кароткая—ціхай гаворкай—інструкцыя. Два разы паўторан адрас. І троха галасьней—сярэдзіна першай шарэнгі ўчула:

— Прывесьці, што-б там ні было! Ідзі!

Разам з ім на вуліцу вышла некалькі чалавек з першай і трэцяй роты. Не затрымліваючыся каля брамы, разышліся хто куды.

Крыс ускінуў вінтоўку і вузкі рамень націснуў на плячо. Падумаў „Няхай там хоць сам чорт—прывалаку яго“.

... Шырокія брукаваныя вуліцы кончыліся хутка. Замест гулкага груку, па асфальце, ногі выбівалі—раз, два, тры,—па драўляным насьціле. Гук быў тупы, якісь няпрыемны, і Крыс, сышоўшы ўбок, заглушыў свае крокі мяккай зямлёй, паласа якой цягнулася побач.

Шырокім відовішчам раскінулася ўскраіна. У вузкіх крывых завулках, хаты, падабраўшыся пад стрэхі-капялюшы ·спалі. Рэдка дзе скрозь шчэліну акяніцы блішчыць тонкі бізунок сьвятла. Недзе далёка-далёка брэша сабака: чалавека чуе: ці месяцу яснаму на сваё сабачае жыцьцё жаліцца.

Адчуваньне сваёй самотнасьці апаноўвала Крыса. Ён ішоў усё павольней, і, нарэшце, калі адлегласьць паміж хатамі пачала павялічвацца да таго, што нескарыстаную плошчу занялі гароды, спыніўся.

— Вось і шукай яго ў полі,—ціха паскардзіўся ён няведама каму.

Рамень споўз з пляча і на вінтоўку абапёрся восемнаццаці-гадовы хлапчук. Сэрца білася неспакойна, як пасьля доўгай бегатні. Цішыня запаўзала ў вушы і ў атручаным ёю мазгу пачынала тлець думка:

„ ... Вярнуцца і сказаць, што не знайшоў...“

Доўгая чорная цень на зямлі заварушылася. Яна пацягнулася было за хлопцам у напрамку гораду, але прапаўзла толькі некалькі крокаў. Хлапец абярнуўся, высунуў уперад дула вінтоўкі і цень пад конвоем пайшла па ранейшым шляху. Яны мінулі некалькі хат. Каля кожнай затрымліваліся і запалка асьвятляла бляшаны нумар, калі на браме знаходзіўся такі.

Занепакоіліся сабакі. З-за парканаў гучэла на розныя лады сабачая брахня. Такое завялі, што хоць уцякай.

— Каб вам падавіцца,—злосна вылаяўся Крыс. Ён стаяў каля нізкай старой хаты і сьвяціў другой запалкай, шукаючы нумару, якога ня было. З-за брамы сабачыя галасы ўзьняліся на такія высокія ноты, што Крыс яшчэ раз праверыў вінтоўку: ці на баявым узводзе.

„Пападзешся на зубы, разьдзяруць“—падумаў ён, і па некаторых адзнаках упэўнены, што трапіў куды сьлед, стукнуў прыкладам у браму.

З правага боку, па высыпі, пранесься паштовы і прабуравіў ноч кароткім бадзёрым гудком. Машыніст высунуўся з будкі і, глянуўшы на сонную ўскраіну, пазайздросьціў людзям, якія ноччу спакойна сьпяць.

## У АВАНГАРДЗЕ

Сход партыйнай арганізацыі гораду адбываўся ў адзін з тых вясновых вечароў, калі паветра такога смаку, што ўбіраеш яго поўнымі грудзьмі; калі, сьпяшаючыся па вуліцы, раптам мімаволі спыняеш свае крокі і, павольна ідучы, нанізваеш ва зрок кожны сустрэчны твар, кожны камень бруку.

Даклад рабіў сакратар акругкому партыі. У гушчу людзей падалі словы, концэнтруючы іх думкі. Расчыненыя вокны не пасьпя-

пявалі падаваць сьвежае паветра ў залю. Людзі пазьнімалі шапкі, хапалі за каўнер сарочкі. На тварах блішчэў пот.

Ня гледзячы на тое, што даклад быў на самую вострую тэму дня—новай экономічнай політыцы—Крыс амаль праслухаў яго. Увесь час ён прастаяў на нагах, бо месца ўжо ня было. І калі дакладчык скончыў і заля ўхваліла прамову плёскам далоняй, Крыс, нібы жартуючы, шапнуў свайму суседу:

— Цяпер ужо хутка мяне на суд божы пацягнуць.

— Хвалюешся? Нічога—доўга трымаць не павінны,—сакратар парт'ячэйкі Савельяў—па-прыяцельску ўсьміхнуўся.

Але прайшло яшчэ гадзіны са дзьве, пакуль Крыс пачуў сваё прозьвішча.

Старшыня сходу, прачытаўшы анкету, стомленым голасам запытаўся:

— Крыс тут?

— Ёсьць!

— Хадзі сюды, таварыш Крыс!—І зноў старшыня зьвярнуўся да сходу:

— Пытаньні да таварыша Крыса ёсьць?

Паўза. А потым аднекуль з сярэдзіны залі:

— Што такое партыя?

Дрыжачым голасам, не запамінаючы што гаворыць, спыняючыся пасьля кожных двух-трох слоў, Крыс адказваў.

— Нічога нячутно!

— Мацней!

— Не пад'еў мусіць добра!

Заля жартавала. Крыс быў зусім зьбіўся і змоўк, як пачуў з прэзыдыуму голас.

— Сьмялей, таварыш. Што ты там сабе бурчыш пад нос? Сход нічога ня чуе.

І да сходу:

— Таварышы цішэй!

Апошняе, што запамятаў Крыс, гэта:

— Хто за тое, каб прыняць таварыша Крыса ў кандыдаты КП(б)?

Заля натапыралася накалькімі сотнямі рук.

— Віншую,—пацісную яму руку знаёмы партыец,—калі ён пасьля сходу прабіваўся ў натоўп да дзьвярэй. Крыс штосьці мармытнуў, усьміхнуўся і смачна глынуў паветра: ён быў ужо на вуліцы.

Чорнае неба лупцавалі вогненыя бізуны і яно, пагражаючы, рыкала, раняючы на зямлю скупыя сьлёзы. Вуліцу падмяталі парываньні халоднага ветру.

„Дадому, ці што“?—падумаў Крыс, але зарадка, атрыманая на сходзе, патрабавала выйсьця і ён вырашыў: „Пайду ў клюб“.

Толькі ён вышаў на Савецкую, як яго гукнулі:

— Крыс!

— Прэш, як паравоз—ледзь дагнаў.—Каган сапраўды дыхаў з хрыпам.—Ты куды?

— У клюб. З партыйнага сходу я,—нібы так сабе дадаў Крыс.

— А што?—Не здагадаўся Каган.

— Прынялі ў партыю.

— А-а! А ў мяне справа да цебе ёсьць,—крута зьмяніў ён гутарку.

Яны ішлі побач і Каган, горача даводзячы сваё, няпрыкметна адціскаў Крыса да сьцен камяніц, пакуль зусім ня прыжаў яго.

— Халера яго ведае, што робіцца. Быццам не пры савецкай уладзе жывуць людзі.

— Ты ніяк у камяніцу мяне ўпіхнуць хочаш,—Крыс засьмяяўся і, зайшоўшы з другога боку, узяў Кагана пад руку.—Што надумаў?

— Халера-б узяла гэтую ведзьму. Трэба яе выклікаць у саюз і аштрафаваць.

— Гэта сваім парадкам. Галоўнае—моладзь трэба зацягнуць да нас; на першы адчынены комсамольскі сход запрасі іх.

— Ужо запрасіў. Так што—пастанова бюро ячэйкі выканана, таварыш сакратар. Халера мяне бяры, калі я ня добры экономпрацаунік,—жартаўліва пахваліў сябе Каган.

— Нічога,—у тон яму адказаў Крыс.—А за эксплёатацыю падлеткаў Бранштэйн так ня пройдзе.—Пакажам ёй.

У гэты момант над вуліцай так ударыла, што хлопцы аж шарахнуліся ўбок. Асфальт тротуару заблішчэў пад дажджом.

У браме, дзе хлопцы знайшлі прытулак, Каган успомніў і запытаўся:

— Значыць, ты ўжо партыец?

— Прыблізна так.

— Пара і мне падаваць заяву. А ведаеш, Моцька, неяк дзіўна: учора, здаецца, бацька мяне лупцаваў, калі даведаўся, што я комсамолец. Паміраць буду, а на той дзень не забудуся. І вось ужо ў партыю...

— Што-ж, расьцем Ізя. Можна спадзявацца, што цяпер бацька цябе лупцаваць ня будзе.

У біткам набітай людзьмі браме прагучэў малады, радасны вызываючы сьмех.

### ПРА ШТО СХОД ГАВАРЫЎ

Яны прыйшлі ў нядзелю паўднём.

У клюбным садочку пахла распускаючыміся дрэвамі. Кучаравыя іх верхавіны зьмянілі зялёны колер на белы і парошай ападаючай сірэні была ўслана зямля. Грудзі работалі з поўнай нагрузкай, пасьля пыльных гарадзкіх вуліц.

На роялі, што стаяў у цёмным кутку сцэны, хлопцы ў шэсьць рук гралі ніто „яблычка", ніто „ваши пальцы пахнут ладоном". Абрашка Штэйн, абняўшы Муську—дзяўчыну з пераплётнага, комсамолку і бой бабу—намагаўся круціць вальс. „Танцмэйстар" Лёўка глядзеў на іх, глядзеў, і ўрэшце констатаваў:

— Ні храна не атрымліваецца!

На вэрандзе, якая займала адзін бок чатырохвугольніка саду, Крыс рыхтаваўся да сходу. Сумесна з тэхсакратаром ячэйкі праглядваў нейкія паперы.

Тут-жа ў баку некалькі чалавек гулялі ў шашкі. Праўду кажучы, дык гулялі толькі двое, астатнія раілі:

— Бі тры!

— Ня тры, а толькі дзьве.

— Затое ён папрэ ў дамкі.

— Ой, я бачу комбінацыю!..

— Ну і маўчы, калі бачыш!—Каган падняў расчырванеўшы твар ад дошкі і зьбіраўся яшчэ нешта казаць, як убачыў іх утраіх, якія зьдзіўлена пазіралі навокал.

— Фрыдман! Таварышы—сюды!—І, не чакаючы адказу, parac-кідаў шашкі і проста праз вэранду скінуўся да іх.

Крыс скончыў чытаць паперы і, стварыўшы з далоняй рупар, гукнуў на ўвесь сад:

— Таварышы, на сход!—Пачына-е-е-е-м!

І калі ўсе расьселіся тут-жа на вэрандзе:

— Сход комсамольскай ячэйкі пры саюзе друкароў лічу адкрытым.

Першым, коратка аб міжнародным становішчы, сказаў Палей. Яго амаль ня слухалі. Пякучае сонца ліло ў сад дрымоту, млявасьць... Кінуцца-б на траву, галаву пад куст і ляжаць, ні пра што ня думаючы.

Толькі трое, што паселі каля Кагана, глядзелі дакладчыку ў рот, пазіралі на камсамольцаў і аб нечым ціха пыталіся ў Кагана.

Палей скончыў. Адказаў на некалькі запытаньняў і, пакрыўджаны тым настроем, з якім яго слухалі, усеўся ў кутку.

— Па другім пытаньні слова мае таварыш Каган.—Крыс зірнуў убок траіх, і тыя зьбянтэжана заварушыліся.

— Таварышы,—загаварыў Каган з месца.—Мне было даручана абсьледваньне становішча моладзі ў дробных прыватных майстэрнях. Там горш чымся мы думалі. Васьмігадзінны дзень толькі на паперы. Працуюць за нішто. Пра комсамол мала хто ведае. У профсаюз ня ўцягнуты. Ды што: вось яны вам лепш раскажуць,—ён махнуў рукой убок траіх уважліва слухаўшых яго хлопцаў і сеў.

Трое палахліва азірнуліся. Уся ячэйка глядзела на іх, а яны адзін на аднаго.

— Ну, хлопцы,—Крыс, абапёршыся рукамі аб стол, падаўся ўперад.—Давайце! хіба няма аб чым гаварыць?

— Ды што гаварыць?—Ён ужо сказаў,—адзін з іх кіўнуў галавой на Кагана.

— А ты сам скажы,—параіў яму нехта.

Нечакана ўстаў самы меншы з іх.

— Дазвольце мне сказаць.

І ячэйка выслухала трохі блытаную, ад нязвычкі, першую прамову рабочага падлетка.

А тэхсакратар сходу ў протоколе коратка запісаў:

„Слухалі: Аб становішчы рабочай моладзі ў прыватных прадпрыемствах.

„Пастанавілі: Як комсамол ёсьць абаронца інтарэсаў рабочай моладзі, дык, выслухаўшы ад таварыша Волкава пра іх дрэннае жыцьцё ў гаспадара майстэрні, паставіць аб гэтым пытаньне ў профсаюзе. Комсамолу—разгарнуць эканамічна-палітычную работу сярод гэтых маладых рабочых“.

## ПАМЯТАЙ, ШТО ТЫ КОМСАМОЛЕЦ

Тое, пра што марыў у дзяцінстве, наблізілася проста і хутка. Крыса выклікалі ў комітэт комсамолу. За абшарпаным сталом, у кароткай гутарцы было ўсё выражана.

— Вось і ўсё. Паедзеш?

— Паеду.

— Добра, бывай,—і сакратар організацыі, аднэй рукой разьвітаўшыся з Крысам, другой узяўся за тэлефорную трубку.

А праз некалькі дзён у ячэйцы замітусіліся. Як-жа: комсамол мобілізаваў сакратара ячэйкі ў флёт. А тут яшчэ два комсамольцы павінны былі ісьці ў армію. Трэба было рыхтаваць провады.

Спэцыяльна вызначана для гэтага комісія рыхтавала традыцыйную вячорку.

А Крыс нечакана выявіў, што дні маюць дваццаць чатыры гадзіны, вялікую колькасьць хвілін, і яшчэ большую—сэкунд. Раніцаю прасынаючыся, ён перш за ўсё ўспамінаў, колькі дзён яшчэ засталося да ад'езду. Думкі аб ад'езьдзе перашкаджалі нормальна працаваць. „А што калі адашлюць назад“,—сэрца білася мацней.— „Вось сорамна перад ячэйкай будзе“,—і рукі замест орыгіналу набіралі ўласныя думкі: „Флёт... Петраград... Карабель... Ячэйка... „Корэктары зьдзіўляліся і выкрэсьлівалі з гранак непатрэбнае.

Дні хоць і павольна, паўзілі ўперад: і вось ужо падсунулася неадзначная чырвань у календары, дваццатае верасьня.

Вечарам у клюбе комсамольская організацыя гораду прышла разьвітацца са сваімі васьмю таварышамі. Оркестр накачваў у залі сьвятошны настрой. Кожнага з васьмі абкружыла яго ячэйка і пачэсным экскартам крочыла за ім па доўгім калідоры, па сьветлай залі.

А ў прэзыдыуме яны ссунуліся адзін да аднаго і даручылі Крысу адказаць на тыя прамовы, з якімі зьвярталіся да іх і да залі выступаючыя таварышы. І пасьля таго, як былі раздадзены небагатыя, але ўпрыгожаныя таварыскімі пачуцьцямі падарункі Крыс выйшаў з-за чырвонага стала і, перачакаўшы туш оркестру, сказаў:

— Таварышы! Доўга гаварыць ня буду. Скажу толькі ад імя восьмі: вы перадаеце нас падшэфнаму Чырвонаму флёту, комсамол адпраўляе нас вучыцца абараняць рэволюцыю на моры, як многія з нас дагэтуль абаранялі на сушы. На гэта ў нас адзін адказ: наказ комсамолу выканаем. На караблёх Чырвонага флёту будзем вучыцца змагацца за рэволюцыю. Няхай жывуць шэфы і падшэфныя—комсамол і Чырвоны флёт!

На гэтым вечар ня скончыўся, моладзь у парадку самадзейнасьці наладзіла гульні і ачысьціла клюб толькі а другой гадзіне ночы.

Астачу ночы Крыс правёў з таварышамі на вячорцы. У невялічкай каморцы было цесна, але весела. Песьня гучэла са стала, і з падаконьніна, з ложку... З песьняй давялі яго да вагона і не пакідалі пакуль колы не зрабілі першага абароту.

У вагоне было холадна. Хлопцы пазабіраліся на полкі і скрозь шыбы, па якіх пастукваў васеньні дождж, пазіралі на голыя палі, на чорную лінію лесу, які бег кудысьці ў бок.

З-забруджаных цёмных кутоў вагона паўзла журба. Там, на пустынным цяпер пэроне, засталіся таварышы... і ўспамінаюць „ад'-ехаўшых...

Шукаючы ў кішэні папяросы, Крыс намацаў і выцягнуў „устав и программу РКСМ“, якую кожны з іх атрымаў на вечары. На першай староңцы, там, дзе літары ня так густа ўсыпалі паперу, чырванеў надпіс:

ТАВАРЫШ КРЫС! ПАМЯТАЙ, ШТО ТЫ КОМСАМОЛЕЦ

На апошняе слова колам наехала выразная пячатка комсамольскага комітэту. Крыс глядзеў на яе пакуль яна не скацілася на падлогу і загрукацела:

— ра-та-та! ра-та-та!

Зморавы бяссоннай ночу, Крыс пад гэтыя гукі і заснуў.

## ПРАЗ ЧАТЫРЫ ГАДЫ

Чатыры гады—гэта ня толькі адцінье часу. Гэта напружаная вучоба, замацаваньне сваёй комсамольскай існасьці. Чатыры гады ў Чырвоным флёце—гэта іспыт на права быць комсамольцам.

Як і чатыры гады назад Крыс сустракаў раніцу зморавы бяссоннай ноччу.

Сонца толькі пачала фарбаваць воблака на небасхіле.

Насустрач вынырнуўшаму з мора сонцу поўным ходам ішоў „кингисэп“. Вось ужо частку палубы заліла чырвоная фарба.

Крыс, абхваціўшы мускулістымі пальцамі штурвал, углядаўся ў далячынь. Ня моцны, але настойлівы вецер калоў вочы, і час ад часу штурвальны сушыў чорным рукавом набягаючыя сьлёзы.

Вецер прычэсваў мора: яно то распускала свае чорна-сівыя лёканы, то зьбірала іх зноў і яны цяжкай хваляй уздымаліся на паверхню.

Вецер мацнеў: чорныя істужкі на бесказырцы ў штурвальнага закідвала ўверх, закладвала за вушы, то нацягвала з такой сілай, што яны здаваліся прыбітымі да галавы мэталёвымі лінейкамі. На палубе знаходзілася ня больш дзесятка чырвонафлётцаў, без якіх нельга было абыйсьціся. Уся-ж каманда знаходзілася ўнізе. Адтуль зьявілася і зьмена штурвальнаму.

Крыс, задаволены, здаў варту. Пачырванеўшы ад ветру, ён апусьціўся ўніз і ўвайшоў у ленінскі куток.

Некалькі чырвонафлётцаў, стаўпіўшыся каля географічнай, ва ўсю сьцяну, карты, шукалі нешта, перагаварваючыся між сабой. З боку—кампанія, чалавек у дзесяць, расьсеўшыся каля шахматнага століка, гутарыла.

Паціраючы рукі, каб сагрэцца, Крыс прысеў да іх.

—... Я на буйны завод у Маскву, ці Ленінград паеду. Эх, хлопцы, разьедземся хто куды. Праўда, Крыс?—і чарнявы чырвонафлёцец хлопнуў яго па плячы.

— Так, нядоўга ўжо асталося нам у флёце быць. І ведаеце, хлопцы, хоць і хочацца дадому, але і карабель шкода пакідаць. За чатыры гады неяк звыкся...

— Вось табе і на: сакратар комсамольскай ячэйкі карабля і сэнтымэнтальнічаць.—Рослы, здаровы дызэліст, які таксама толькі што здаў варту, сьмешна скурчыўшы твар—зарагатаў і ўжо пад рогат усёй кампаніі дасказаў.

— Захавай сабе трэску ад карабля на ўспамін.

— Ну вас,—Крыс устаў.—Хутка сьнедаць будзем, трэбаісьці памыцца.

Пасьля сьнеданьня ён дастаў з куфэрачка конвэрт з паперай і, вярнуўшыся ў ленкуток, заняў адзін з столікаў і сеў пісаць ліст. „Праз гадзіны дзьве ў Кранштадце будзем. Да тэй пары якраз і дапішу“,—падумаў ён між іншым.

Сіні аловак закрочыў па паперы, пакідаючы сьляды на сваім шляху. Радкі туліліся шчыльна адзін да аднаго і вось ужо яны занялі першую старонку. Крыс перавярнуў паперу і пісаў далей.

**„Праз тыдзень ці два еду дадому. Нават ня верыцца, што ўжо чатыры гады ў флёце. Думаю адразу на вытворчасьць. Пішуць мне, што не пазнаць цяпер нашу друкарню. Пабачым, ці сапраўды яна зьмянілася. Можа і самы горад не пазнаю. Пішуць, што і ён зьмяняецца ў лепшы бок**

**„Тут я выказаў думку, што шкада пакідаць карабель, дык таварышы рагочуць, праўду кажуць больш для віду ня шчыра. Памятаеш, як нас праводзілі? Я яшчэ не забыўся.**

**„Усе мы тут па пуцёўцы комсамолу. Шмат паклалі працы, каб зрабіць караблі баявымі, каб вырасьціць з сябе спэцыялістаў мора. Ня ўсе, вядома, апраўдалі сябе тут. Але**

такіх адзінкі. У асноўным комсамол дае тон ва флёце, на комсамольцаў глядзяць як на людзей, якія на любым пасьце: у матора, у штурвала ці на кухні—зробяць усё, як мага лепш. Ведаеш, у мяне нават нейкі асаблівы гонар зьяўляецца пры ўспамінах, што я пасланы сюды комсамолам і ня так ужо дрэнна справіўся за гэтыя чатыры гады, з даручанай мне работай.

„І гэтак кожны з нас. Пагутарыш з хлапцамі і комсамольская закваска хоць і не адразу (адкрыта пагаварыць—у нас чамусьці лічыцца інтэлігеншчынай) дае сябе адчуваць. З комсамолам кожны з нас зьвязан чымсьці такім, што мне цяжка выразіць. Праўда, дзіўнага тут няма: у дваццаць трэцім годзе ва флёт былі мобілізаваны не абы хто. Падшэфнаму давалі людзей ня горшых...“

Крыс прыслухаўся: роўны гул машыны зьмяніўся. Яна перайшла на другі тахт, не такі хуткі. Таварыш, які чытаў дагэтуль нейкую кніжку, устаў і сьцьвердзіў;

— Уваходзім у Кранштадт.

## БРЫГАДА

Брыгада імя Варашылава—гэта людзі:

Ударнікі.

Лепшыя.

Гэта сплаў, у якім на першы погляд усе часьціны аднолькавы. Каб сплаў быў належнай якасьці—у значнай ступені залежыць ад старшага па брыгадзе. Трэба мець на ўвазе асаблівасьці кожнага—каб эфэктыўней скарыстаць яго ў брыгадзе.

Вось Мірскі—наборшчык сярэдняй кваліфікацыі. Летам яго можна сустрэць спацыруючым па бульвары са сваімі двума дзецьмі—хлопчыкам і дзяўчынкай. У яго нейкая глыбокая прыхільнасьць да іх, якая кідаецца ў вочы нават мала знаёмаму чалавеку. Яго вечны матыў, гэта:

— Дзеці, дзеці...

Вось Рольбін—стары рабочы. Зажмурыўшы левае вока, ён адказвае:

— Як брыгада...

— Рольбін, даём сустрэчны?

— Як брыгада.

Хаўкін адзін з хутчэйшых наборшчыкаў брыгады. У мінулым ён праз жонку зьвязан з гандлем. У мінулым ён шэсьць дзён пра-

цаваў у наборным каля касы, а на сёмы наймаўся пецъ у сынагозе. Гэта чалавек памеру вышэй сярэдняга і сёньня ён цэлы дзень ня можа супакоіцца.

— Дзякуй богу,—атрымаў талён. Здаецца добра? Іду ў ЗРК, а там мне гаворацъ, што ў мяне не нага, а ліха ведае што, і што наогул такіх памераў абутку ў іх не сустракаецца. Як-жа мне быць?—пытаюся,—босым хадзіць? А яны ў адказ: нічым дапамагчы ня можам. Узьнікае пытаньне: на што з мяне пай бяруць, калі коопэрацыя ня шые абутку майго памеру?

— А сапраўды, чым коопэрацыя вінавата, калі ваш бацька ня думаў аб экономіі?—Умешываецца ў гутарку Гінзбург і падморгвае брыгадзе.

— Мой бацька табе нічога благога не зрабіў.

— Хаўкін!—годзе гаварыць. Рукамі махай!

— Язык рукам не перашкаджае. Але няхай будзе па твойму, Крыс.—Годзе языком трапаць.

Некаторы час маўчаць. Пальцы бегаюць па касе, і ў вярстатку сыплюцца літары, словы, думкі. Мірскі, ня спыняючы руху рук, гаворыць:

— У Манчжурыі, таварышы, што робіцца—дык адзін жах. Чыталі ва ўчарайшай газэце?

— А я зусім нічога не разумею, калі пачнуць аб Японіі ці аб Кітаі. Сколькі там провінцый, ды генэралаў, ды армій...

— Адкуль табе ведаць? На палітгурток ці ў партшколу цябе вяроўкамі цягнуць прыходзіцца.

— Ну, я за апошні час акуратна наведваю.

— ТАВАРЫШЫ!

Пасярод наборнага стаіць трохвугольнік цэху. Крыкнуў Турын—сакратар партыйнай ячэйкі,

— Таварышы! па мобілізацыі сродкаў наборны цэх не дадаў дзевяцьсот рублёў. Сёньня мы павінны ліквідаваць запазычанасьць. Я думаю, што ініцыятарам будзе брыгада Варашылава. Крыс, што брыгада скажа?

Адказ быў праз паўгадзіны. А да таго:

— Мірскі, колькі?

— Нікольki. У мяне так звыш сто процантаў падпіскі на трэці рашаючы.

— Сам ведаеш, што пабудовы, у якія ўкладзены мільярды рублёў, трэба скончыць.

— Не.

— Мірскі...

— Не!

— Дзесяць рублёў—па пяцьдзесят капеек у палучку. Цяжка гаворыш? А нам ня цяжка? На—падпісвайся.

На запэцканым кавалку паперы аловак нерашуча выпісаў прозьвішча чалавека.

— Хаўкін, ты што-ж гэта?

— Чаго яшчэ? Я-ж даў пяць рублёў.

— Колькі ты зарабляеш?

— А табе чаго? Ну—сто шэсьдзесят.

— Бачыш! Ды ў цябе яшчэ па падпісцы сто процантаў заробку няма.

— Што вы да мяне прычапіліся? А абутак коопэрацыя мне дае?

— Я табе гавару, што абутак будзе,—у голасе Крыса такая ўпэўненасьць, што нават Турын зьдзіўлена глядзіць на яго.

Крыса падтрымліваюць брыгадзіры.

— Трэба, трэба падпісацца.

— Дзеці...—Хаўкін ужо чухае патыліцу.

Рольбін, які да гэтага маўчаў, вырашае пытаньне.

— У кожнага з нас дзеці. У цябе трое, і ў мяне трое. Зарабляем аднолькава, а падпісаўся я больш за цябе на трыццаць рублёў. Ты што? Хочаш каб брыгада цябе выручыла на недаданую суму?

Ізноў па запэцканай паперы праспацываў аловак.

Адказ быў такі:

— Брыгада імя Варашылава падпісваецца дадаткова на сто дваццаць рублёў і выклікае брыгаду імя пяцьсот восемнаццаць.— Крыс выцірае рукавом мокры твар.— А цяпер, таварышы, тэмпы давай.

— Махай рукамі.

— Усё брыгада, а як у коопэрацыі...—Хаўкін матаецца над касай, ціха бурчыць, а на твары ўсьмешка. Ён паднімае галаву і ўсьмешка робіцца яшчэ большай.

На сьцяне чырвонымі літарамі па белай паперы:

**Брыгада імя Варашылава гадавы плян трэцяга рашаючага году пяцігодкі выканала за адзінаццаць месяцаў на 108,5 проц. Раўненьне на брыгаду імя Варашылава.**

Мітынг адбываўся ў пакоі корэктараў. На гэты раз доўга чакаць ня прышлося: пра дзесяць хвілін пасьля гудку рабочыя з цэху накіраваліся сюды. Некаторыі прышлі яшчэ з мокрымі рукамі. Выціралі іх тут. Хто рушніком, а хто белай паперай.

— Мітынг рабочых наборнага цэху, прысьвечаны сканчэньню трэцяга рашаючага году пяцігодкі, абвяшчаю адкрытым,—старшыня цэхкому Бурштэйн абвёў сход вачыма і, задаволены колькасьцю прысутных, даў слова сакратару партячэйкі Турыну.

Турын пачаў сваю прамову ціха, падбіраючы словы, каб выказаць імі патрэбнае.

— Учора мы скончылі рашаючы год пяцігодкі. Цяжкія моманты былі ў нашай працы, таварышы. Нечага іх хаваць. Але рабочы колектыў нашага цэху, як і ўсёй краіны, перамагаючы цяжкасьці, змагаўся за генэральную лінію партыі. Былі ў нас і дэзэртыры, якія, спалохаўшыся цяжкасьцяй, паляцелі ад нас шукаць шчасьця ў другіх мясцох. Колектыў-жа ў цэлым, пад кіраўніцтвам партыйнага колектыву, давёў справу да канца. Таварышы,—Турын вышаў з-за стала,—наборны цэх выканаў прамфінплян трэцяга рашаючага году пяцігодкі на 100,5 проц.

Ёсьць толькі адзін гук, у які больш-менш здавальняюча ўкладваецца масавыя пачуцьці:

— Ура-а-а-а!

Кожны ўспамінаў цяжкі год, калі прыходзілася звыш сямі гадзін аставацца ў цэху, каб ліквідаваць прарыў. Успаміналі дрэнную работу коопэрацыі і сталоўкі; дрэнную організацыю працы ў самым цэху.

— І ўсё-ткі выканалі!

— Перавыканалі, браток!

— Выцягнулі цэх з прарыву!

— Лоўка!

— Іванчэнка?

— Чаго?

— Іванчэнка, мы з табой працуем па трыццаць гадоў.

— Што я кажу—больш. Давай сёньня падамо заяву ў партыю.

— Давай, Голуб. Калі сёньня не падамо—прыдзецца беспартыйным паміраць.

І калі былі зачытаны заявы ад некалькіх дзесяткаў чалавек у партыю і комсамол, Турын казаў далей:

— Трэба адзначыць лепшыя комуны, брыгады, лепшых ударнікаў, дзякуючы якім цэх пры няспрыючых умовах перавыканаў програму. Гэта комуна журнальнага цэху—Антонаў, Рыльскі, Левін, Каранёў, Астапчык, Шукайла. Гэта брыгада імя Варашылава—Крыс, Мірскі, Рольбін...

— Матрос, дай руку!

— Цісьні!

— Брацішка!

А калі Турын змоўк, Крыс, прыставіўшы далоні рупарам да рота, крыкнуў:

— Няхай жыве непераможны рух ударніцтва!

І калі ўсе сьціхлі, упэўнена, поўным голасам дадаў;

— За соцыялізм!

Гэта прагучэла ня звычайным лёзунгам, а баявым клічам.

---

*МІКОЛА БАЦЮШКОЎ*

Рабочы-ўдарнік, закліканы
ў літаратуру.

## З ВАРШТАТАМ

У вачох
бродзіць цень клапотаў
За завод,
за цэх, варштат,
І вісіць схаладзелым потам,
потам вечнасьці
зорны град.

Агрызаюцца груба фрэзы,
Прухка чмыхаюць штурхачы,
Пашчапаўшы зацішша ў трэскі,
Хрыплым басам гудок кры-
чыць.

Я сьпяшаю на зьмену.
Зморан
мой таварыш,
аслаб яго ўдар
І зьляцелася зграя зорак,
Зорак поту на строгі твар.

Вось габлюю маленькім жа-
лезкам
На дэталях задзёрысты слой,
Каб вялікай Краіне савецкай
Ўсё да рэшты аддаць рамяство.
І ўспыхваюць жаркаю песьняй
Кудраватыя стружкі слоў:
„Я й варштат—слаўнай арміі
частка,
Нашы гэблі і піл зубы—
Зброя на баявых вучастках
Фронту клясавай барацьбы.

У дыханьні
турбінных соплаў,
Узьлёце нафтавых вышак
(расьцём!)
У аскаленых скалаў лопаньні,
У копах жыта—маё жыцьцё.
І затым так габлюю ярасна,
Так разьлічан, упэўнены ўдар,
Што краіны маёй разам—
І работнік і гаспадар.
Калі-ж,
дасьпяваючы ў жорлах
гадоў,
Гнеў працы
раструшча часу калені
І затарабаніць
крывавы дождж
Сусьветнага вызваленьня,
Калі
бразьне зброяй
баёў пара:
— Расквіт жыцьця
або
парахня сьмерці?
І ночы пачнуць зямлю араць,
Калючай штыкатай шэрсьцю—
— Кроўнай нянавісьцю сьцяў-
шы рот—
Бяз жалю пакіну рубанак,
І прыгалоплю ў ліхі эскадрон,
Надзейны і сьмелы рубака.
Пакуль-жа
бліжэе драпежны крок
ночы
шаволяць клыкам—
Я буду
узносіць
спляценьні крокваў,
Да працы вялікай
клікаць.

Я—будаўнік
    і вартаўнік
(Бо вораг прытоенасьць
                любіць!)...
З варштатам
    і ў песьнях,
        ў адзіны крык,
З варштатам,
    як з сябрам любым.

Менск, завод імя Молатава.

---

## НАСТАЎНІЦЫ-ПРАКТЫКАНТЦЫ

Ударніцы культфронту, актыўнай
комсомолцы Л. Зайцавай.

I

Я за юнацтва.
За сэрца расквіт
У баявой завірусе дзён.
Толькі час
маладому сяброўству
Ня ў пляне працы,
а—грудзёх.
Эх, з чупрынай,
з парыўнасьцю бравай,
Разумей:
нясучы штурму сьцяг,
Не павінен,
ня маю права
Слухаць
музыку пачуцьця.
І вясеньнім напоены токам,
І цьвітучым блакітам вачэй,
Я сьціскаю мацней вінтоўку
На зьмяіныя шыпы начэй.
Ударна дзень прапацець мне—
уцеха.
А як ляжа вячэрні туман,
Я выходжу
з мурзатага цэху
Зрубы сьвежыя вартаваць.
Я па краю
грымлю
сталі бразгам.

Ты льлеш сонца
з нямых кніжных кіп.
Я і ты...
Мы абодвы
разам
Вартавыя
і
будаўнікі.

II

Пад пяруновы ўдар
ніцам
Ня падалі мы ў гніль.,.
Я знаю:
будьеш ударніцай
На фронце штурму кніг.
Я помню:
тыфным годзікам
Нясьлі
жыцьця камлі,
Ї сёрбалі малодзіва
Ўскрываўленай зямлі.
Ды што казаць.
Сьпеў вольны
й сьцяг
прынёс ня птах...
Абодвы мы прасмолены
Прагоркласьцю атак.
Для нас усё,
што лепшае:
Жыцьцё
і барацьба.
Б'ем песьняй
— не алешынай—
У грудзі
барабан.
Хай ветрамі асьнежнымі
Кугакае сава,
Хай кепляй качарэжкамі
Чапляе рой зявак.

Ні ночы сьлепавокія,
Ні чорназубы смоўж
Праморанымі цмокамі
Ня зьліжуць помсты нож.
Школа
комсамолу
дасьць
Табе запал і гарт—
І выйдзе твая моладасьць
Цень цемрадзі змагаць.
І век нам ня сутуліцца,
Рассыплем зернем сьмех.
У ногу
з фізкультурніцай
Сігне
поэт-спортсмэн,
Прыбоі буйнай радасьці!
Праз буры,
праз агонь
Я поруч з табой рад ісьці
Да блізкіх берагоў.
І мне на век застанецца,
Што будзеш сеяць ты
Чырвоная настаўніца,
Зярняты яснаты.

---

## ПІОНЭР-ПЕСЬНЯ

Чаму чырвоным гальштук стаў?
Ты знай, раздум'е сьцяўшы бровы
Што сьцяг наш у крыві атак
Акроплен ленінскаю кроўю.
І гальштук твой—маленькі сьцяг
Вялікіх ленінскіх заветаў—
Вядзе у бой за сьпеў жыцьця
Дзяцей рабочых ўсяго сьвету.
Кіпі-ж і пеньcя,
Піонэр-песьня!
Дзяцям за межы
кліч
нясі
Хай чырвань-гальштукі
Уюцца, бы сьцяг, які
Віхурай сьнежнай
Ільліч
насіў.

*

Разбарабанім вуліцы:
Ўставай!
Выходзь!
Сьпявай!
Аж хмарам песьня муліцца.
Раз, два... Раз, два...
Мы—дзеці волі, боек,
Ня згорбяць нам плячэй.
Гарніст махне трубою...
Бяжым... Хутчэй, хутчэй!
Бі, барабан!

Да бою!
Сьцяг Леніна—наш сьцяг.
Мы мускалы, як збраю,
Нясем на фронт жыцьця.
Позыцыі будоўлі
Рабочым штурмам ўзяты.
Здаровыя, мы здольны
Быць старнавым варштатаў.
Грымім на плячох ломам,
Зграбаем ў кучу попел—
І гэтым сэрца ломім
Ксяндзом,
                рабінам,
                            папам.
За межамі рабочым
І піонэрам—турмы.
Крывавую цень ночы
Сусьветным асьвецім штурмам.
Дурань,
Раб
Прад плёткай моліцца,
Бо бог—багатых сын.
Мы будзем комсамольцы
Ударнікі, байцы.
І калі клікне бой, мы—
Атрадам —да акопаў
Набіваць абоймы,
Сьціраць з затвораў копаць.
Бі, барабан,
Да бою!
Нам—ленінцамі стаць.
Мы мускалы, як зброю,
Загатоўваем аб сталь.

ІІІ-31 г. Рагачэў.

---

## ГУТАРКА З ЛІШЭНЦАМ

„... Быў жандар,
а затым гандляр."
*З біографіі лішэнца.*

Ты сьлюнявіш
пра цяжкі лёс,
І сабачыя вочы паўнюткі сьлёз,
Як вязень ланцуг—цягаеш абрэзкі,
Здаецца вось бразьнешся зараз на трэскі.
Я бачу: што раз на гадзіньнік глядзіш,
Здаецца, гудок—і бяз крыл паляціш,
Сябе адчуваеш сярод рабочых,
Бы
ў асанізатарскай бочцы.
На стрэчных мігаеш так жаласна, сьлёзна,
маўляў,
душаць рабочых, такі ўжо лёс наш.
З пустым жыватом, у падзёртых ботах,
А бачыш—цягну, а бачыш—работаю.
Нябойся—шыпіш (і сьлязінкі расталі),
Не галадае Калінін і Сталін,
Ім добра цяпер: віно ды ванна,
Пасьля дакладаў спачын на дыване...
А ты тут, гаруй... а ўспомніш бывала
Раней о...
Раней?!
Чакай!
Я ўспомніў: ня ўсіх зьмяёнышаў пэрахватала,
ня ўсіх перадушыла ЧК.
Раней... Ад бяссоньня з нас кожны сьлеп,
Асьвятляючы вашы банкетныя ночы.
А хто клікаў да сонца—
запіхалі ў склеп,

Ржавы морак
выклёўваў юнацкія вочы.
Успомніць? Чакай! Павярніся зноў тварам.
Я бачыў цябе
у цяплушцы
з таварам.
Мы з фронту пляліся
галодныя, босыя,
Заводаў катлы
грэлі стомленым целам.
А ты?
Ты, расплёўшы каханай косы,
Выходзіў
соль сыпаць
на горб спацелы.
Бярвеньні цягалі,
цьвік білі далоньню,
ў нас хлеба скарынка—
дзяцям на закуску
А ты?
Пасядзеўшы ля коміну дома,
За прыгоршчы мукі
вярэдзіў нам мускул.
Насілі мы ран рубцы на скуры,
Твае рукі ў золаце пярсьцёнкаў, брасьлетаў...
А бачыў
ля вокан
замёрсшых гуры
І куплены пярсьцёнкі за колькі шкілетаў?
Ты сьніў:
твой сынок у цыліндры, ў манішцы
Будуе турмы...
Чуй: турмам крах!
Га!
Дзе-ж твае сьлёзы?
Ты сьлёзы зьнішчыў?
ў блудлівых вачох
І нянавісьць і страх.
Я знаю: ты рады рассыпацца прахам,
Залегчы ў зямлю, каб мяне ня слухаць.

А што,
Калі-б зноў пагоны, папахі
Вакол загайдалі знарадным дзьмухам?
Ты-б дзе быў з вінтоўкай?
Чые біў-бы плечы?
Са мной прывітаўся-б ня словам—плёткай.
І зноў-бы я рукі свае калечыў,
Каб перла гарэлка і мёд тваей глоткай.
Я знаю, чаму ты змачыў потам волас:
Назвацца рабочым,
ўзяць права і голас.
Пабыць на заводзе паўгода ці год,
Каб сыну даць поўны-упэўнены ход.
Каб піскам лісы аб рабочым дні
Самавылучэнцам, канторы зьвінець
І поты цягнуць і шварга і брата,
Штодзень памнажаючы ў касе растраты.
Вось шаркаеш мяцёлкай
Прад маімі нагамі?
Песьцячы ў думках той час?
калі ўстаць
Можна будзе супроць
з наганам,
Падкінуўшы бомбу пад мой варштак.
Дык чуеш?
Жыцьцё тваё
Я
трымаю,
Рахунак ня скончан,
Рахунак вялік,
Працуй да упаду,
Я сьлёз ня прымаю
І вушы ня чуюць лісьлівы крык.
(тут сьлёзы да рэшты зьляцелі прысакам,
З воч азьвярэлых нянавісьць брызгае).
І поўзай ня поўзай
па маіх нагах—
За табою сочыць
мой наган.
. . . . . . . . . . . . . . .

Ты шапку скідаеш?
Мне ў вочы хто трэснуў?
—Жандар!
Накрыж твой разрубцованы чэрап.
Пазнаю.
Гэта ты
ў пятым
на Прэсьні
Мяне шабляй хлысьціў
За крывавай вячэрай.
. . . . . . . . . . . . .

ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У ГАЗЭЦЕ:

„...Працаваўшы на лесапілцы царскі грак—
Былы жандар—Крывулін Амельян
Злоўлен у шпіянажы
і ў скупцы серабра.
Дапытвала ДПУ—
Расстрэлен.“

---

## ПЕСЬНЯ

Ў завеях будаўніцтва
Вышэй комуны сьцяг!
Ня нам схіляцца ніцма,
Глытаць труху ныцьця.
Трашчалі зубы ў холадзе
І ў голадзе,
Калі
Ішла рабочая моладзь
На комсамольскі кліч.
шла пад хмуры хмар шаг
Махавікоў брацъ бег,
Ішла ў вясёлым маршы,
Ў кіпучай барацьбе.
І хай ізноў прахвосты
Нясуць зьмяіны хвост.
Клінка размахі вострыя,
Ў рыштоўках моцны гвозд.
Адтуль, дзе рэчак кручы,
Балотныя карчы,
Цьме сьмерцю нямінучай—
Электрыка імчыць.
І сэмафор адчынен
У будучыні даль,
І грозным валам мчым мы,
І лёту ўсё аддай.
Нястрымнымі саставамі
Праз дым, праз град, агонь,
Калі слабы суставамі—
Ня тыркайся ў вагон.
Ідзем пад хмуры хмар шаг
Махавікоў брацъ бег,
Ідзем сталёвым маршам
Ў няспыннай барацьбе!

*МІКОЛА БАЦЮШКОЎ*

## ПРЫРОДААПІСАНЬНЕ

У скуры авечай
(А воўчыя вочы)
Выходзіць вечар
Насустрэчу ночы.
Ў аблічча мядзьвежым
Ноч ўстане з мярлогі
І рыгне з-за межаў
Гарматным рогатам.
І хмары—шрапнэляй
Узорваных зорак...
З кустоў шынэльных
Кулямёціць узгорак.
Над возерам дымна:
Туман ці газы?..
Ваўчыныя гімны
Мячамі бразгаюць.
Сава—разьведчык
Стаілася у веціці...
Па рвох, акопах
Шпіёніць вецер.
Вакол
агарожа
Ці строй
штыхоў?...
Сьляды варожасьці
На ўсіх шляхох.
Таварыш!
Даволі!
Грымані,
громам лясьні—
—І небам,
І полем
Прырода
КЛЯСАВАЯ!

29/I 31 г. Рагачоў.

СЫМОН ШАЎЦОЎ

# ЗМАГАРЫ

Нарыс

Горача, як ля топкі катла.

Дзень упіваецца сонцам, як закаханымі вачыма дзяўчына аглядае маладога хлапца.

Праменьні лезуць пад вымазаную блішчастую спэцоўку.

Упіваюцца ў мускулістае цела Міхася. Цалуюць яго маршчыністы, рудаваты, крыху агарэлы на сонцы твар.

Міхась аглянуўся прыхмураным вокам і яшчэ шырэй робіць крокі да заводу.

Чым шпарчэй ішоў Міхась, дык яму ўсё больш здавалася, быццам-бы сонца гоніцца за ім, даганяе.

„Як высока паднялося, час гудзець гудкам. Хоць-бы не спазьніцца"—падумаў Міхась Пагоцкі.

„А дрэнна без гадзіньніка",—развважае сам сабе.

Міхасю за гадзіньнік было сонца. Заўважыў Міхась, калі цень упадзе на першую шчыкеціну агародчыку ля акна сваёй хаты, значыцца шэсьць гадзін. Пара ўжо выбірацца на завод.

Пакуль крыклівыя сырэны праравуць на працу, Пагоцкі зможа падрыхтавацца:

знайсьці дэталі, падрыхтаваць інструмант, разы са тры зьбегае ў такарны цэх пасварыцца са зьменным майстрам такарнага цэху за несваячасовы выраб дэталяй, за дрэнную якасьць.

„Ну, што-небудзь ды будзе пасьля ўчарашняй грызьні-спрэчак. А падсыпаў я ім перчыку.

Гэта-ж да першай гадзіны ночы спрачаліся. Калі і цяпер будуць пароць (рабіць брак), ня будзе добрай якасьці. Я іх разганю...

У газэту... Там свой хлопец, надрукуе, дапаможа".

Развважаючы гэтак, неўзабаве перайшоў рэйкавыя шнуркі чыгункі. Прайшоў яшчэ два кварталы. Параўняўся з старай аблезлай ад дожджыку, аброслай мохам, драўлянай цэркаўкай.

Успамянуў: „Адсьвяткаваў-бы Мішка, хоць адзін дзень. Сёньня вялікае гадавое сьвята“. Так гаварыла яму яго Тоня—жонка. А завод цягне да сябе. Кожны гудок трывожыць яго сэрца.

„Што рабіць“?. Было такое пытаньне.

Недаканчаныя машыны стаялі перад яго вачыма.

Натоўп людзей: рабочых, сялян стаялі і дзівіліся самотнымі вачыма з худымі бледнымі тварамі, глядзелі на яго і на машыны.

Сэрца сьціснулася, бы хто ў ціскі яго заціснуў. Потым думалася Міхасю: „Усе працуюць, Шурка закручвае мутэркі, яго доўгі носік, шчуплы белы твар, маленькія жвавыя вочы так ўпіліся ў работу, што ён не заўважае нават Міхася.

Адны, здавалася яму, яго ціскі пустуюць. Кузьняй зазьвінела ў Міхася ў вушах. Лязг малаткоў адчуваўся ў яго сэрцы.

Стаяў, аслупянеўшы, ля дзьвярэй, думаў: „Ісьці ці не“?

Так і вырашыў пайсьці.

Ступіў крокі два Міхась, параўняўся з царквою, узгляну́ў на схілены заржаўлены крыж.

Насупраць дзьвярэй быў відзён абарваны чудатворац Мікола.

Ён быццам пастарэў.

Ікона выглядала касматымі валасамі, доўгай, ужо вылінялай, рыжай барадой; без вачэй, абшарпаная папера, відны пабеленыя сьцены.

Там дзе былі намаляваны вочы, здавалася быццам бельмы павылазілі на паверх ілба, як у п'янага.

„Стар'ё“,—падумаў Міхась.

„Апусьцілася, і старыя бабкі на абіваюць парогаў“.

Узгляну́ў яшчэ раз на яе.—Ах-х! неяк нечакана для сябе ўздыхнуў.

Міхась азірнуўся па бакох, „часамі каб хто ня ішоў блізка“.

Нават ня скінуў сваёй вушатай бараньняй шапкі, перахрысьціўся.

— Чорт з ім, бог даруе.

Ай, што я сказаў?

Нехаця слова вырвалася з нутра, бо ён у гэты час падумаў аб заводзе. Потым прышпарыў ходу.

Ад яго ботаў адлятаў у зад пясок. Ішоў шпарка.

Дзе хуткімі крокамі, а то і подбегам.

Сьпяшаўся на спатканьне з працай.

Міхась зьвярнуў улева на брукаваную камнем вуліцу. Неўзабаве Міхась апынуўся ля заводу.

Нейкім хрыплым голасам пракартавіла сырэна.

Гэта першы гудок без пяці хвілін восем гадзін.

— „Вось бяда, і шрубаў няма, чым дакончыць?

Раптам нагнуўся, штось падняў з цёплага нагрэтага сонцам пяску: пакруціў у сваіх сьпісаных жыламі руках і потым сунуў у кішэню абвіслую ад цяжару рознага жалеза аж да каленьяў.

„Спатрэбіцца, якраз па вымеру. Гаспадарчы разьлік патрабуе эканоміі, ды з складу вышлі шрубкі“—так падумаў Міхась.

Пагоцкі зьвярнуў у дзяжурную будку міліцыянера.

— Добры дзень, дзядзька Пагоцкі!

Прывітаўся дзяжурны міліцыянер.

— Здаровенька, здаровенька, браток,—прагаварыў, сьпяшаючы Міхась.

— Штось вы сёньня якраз у восем прышлі. А я ўжо з шасьці гадзін чакаў, ці скора стукнуць дзьверы.

Адшчапіў для вас.

— Э-аэтт, так... падцягваючыся на табэльную дошку, на якой ужо зусім мала было марак, дастае з першых нумароў сваю марку.

У цэх увайшоў Пагоцкі ўспацелы, запыхаўся, як курэц ад вялікай люлькі з насыпанай сырой махоркай.

Рудыя яго валасы спаўзьлі на лоб.

— Добры дзень.

— Здрасьце, здрасьце.

— Добры дзень. Гэй,—Міхась! падскочыў невялікі тоўсьценькі, як гарбуз, балансіроўшчык Дрозьдзін.

— Што... а... спазьніўся?

Нацягвае на сябе яшчэ новую спэцвопратку Дрозьдзін, бяжыць наперад Пагоцкаму.

Міхась зьвярнуў да сваіх машын.

Пагоцкі на заводзе ў вялікай пашане. Моладзь яго любіць, паважае: за дапамогу, за навучаньне ў працы.

Кожны хоча ўбачыцца першы, прывітацца з ім.

Нават бузацёры, сымулянты і то з павагай адносяцца да яго. А часамі палаюць, назавуць яго „Рыжы Мушкецёр“ за тое, калі пакрычыць на іх за гультайства.

— Шурка, Харнас яшчэ ня ўцёк дамоў з работы?

Задамо мы яму.

На, падрэж, прагані прагонкай, бо ў заводзе вышлі.

Выняў з кішэні жмені дзьве шрубаў, мутэрак, палажыў ля шуркавых ціскоў.

— Намыліць карак, глядзі Алесь, ён-жа табе вядомы, гэты рыжы мушкецёр.

Трэба фазкі сьпілаваць.

Калі робіш, то рабі, як загадвае, каб і моц была, і выгляд. Так растлумачвае Шурка Алесю, як трэба рабіць, які абыякава глядзіць на работу, чакае гудку на абед ды дахаты.

— Сем гадзін адстукаў, і ні шыша—гаворыць Алесь.

— Дзе ваш гаспадар?

Зубчаткі прывезьлі. Дзе злажыць?

Чорнарабочыя прывезьлі дэталі.

— О-о, міргнуў вокам Шурка.

Адчулі пагрозу Пагоцкага.

— А-а...? запыталіся чорнарабочыя скідаючы дэталі на праходзе.

— Націсьнем цяпер? Як ты думаеш Алёшка?

— Ціснуць будзем, абед добры.

Сонька сёньня варыць.

*

У цэху горача і пыльна.

Праменьні сонца пранізалі сьцяну пылу.

Пагоцкі заціснуў у ціскі мядзяны падшыпнік, выкручваючы шабэрам то ў адзін, то ў другі бок.

Бліскучае пілаваньне адлятае абапал ціскоў.

Міхась прыгнуўся да падшыпніка, зажмурыў левае вока, правае наставіў у дзірку падшыпніка, углядаецца, бы ў мікроскоп, глядзіць на вышкраблены палоскамі падшыпнік.

Зьдзьмухнуў тоўстымі губамі астачу пілавіньня.

Абцёр свой маршчыністы твар ад поту. Чорныя барозны ад аселага пылу на ілбе рабілі выгляд яго злосным, быццам-бы больш зморшчаным.

Пакруціў галавой.

Плюнуў.

— Эах, расьцяпы! Такая гарачыня. Вокны затхнутыя.

Захлупіцца можна, як у лазьні.

— Мікола, у час абеду напішам у шматтыражку. Прыходзь сюды.

— Добра, напішам—адказаў комсамолец Мікола.

Даковчыў шабраваць падшыпнік, узьдзеў на вал, наліў масла. Абгледзеў машыну як належыць, абмацаў усе шрубы, усе яе часткі. І калі ўпэўніўся, што ўсё ў парадку, нацягнуў пас на прывадны шкіў, уключыў рубільню.

Зьмяёй пакруцілася двухпавярхоўная машына, шчоткі зьмялі рознае сьмяцьцё з сіт і павольна зрабілі трыццаць зваротаў.

— Здаецца, добра будзе, мармытаў ціха Міхась.

Яшчэ раз абыйшоў кругом машыну. Глянуў на зубчаткі, на хадавы вал.

„Ну, зараз прыдзярэцца, нешта мацае рукамі", падумаў Алесь, водзячы вачыма за брыгадзірам Пагоцкім,

— Алёшка! Хадзі сюды.

Ня так паставіў мутэркі.

Патрэбна наадварот, тоўсьценькую на ніз, а гэту на верх законтрапуціць.

Гэтак мацней будзе.

Зрабі-ж, а то... панемаеце, ня моцна так будзе.

— Зараз, зараз. Пабег у інструмантальную. Зрабіў так, як вучыў брыгадзір.

— Таварышы Пагоцкі, усё зроблена. Законтрапуціў, што і чорт не падкапаецца.

У Пагоцкага на твары прабегла ўсьмешка.

Ай дзівак ты, Алёшка, усё сьмешкамі адбаярваешся.

— Закруціў чартоўскай сілай, нават прыёмшчык Жылінскі не прыдзярэцца.

— Ну, Алёшка, усяго тры дні засталося, а ў нас няма дэталяй для зборкі новых.

Да іх падышоў Шурка.

— Трэба ціснуць на ліцейны цэх, што-ж яны закапаліся.

— Трэба, браток, трэба.

Вам тут вялікая работа, трэба выявіць чаго не хапае, хто робіць затрымку ў рабоце. Ты Шурка, мобілізуй сваіх комсамольцаў-плянавікоў.

Такарны цэх не затрымае ўжо, там знаёмыя хлопцы, пастараюцца пасьля ўчарашняга сходу.

Глядзі там „рэбры" паставім.

Паробім гадзіну-дзьве адвячоркам, а там скажам бывай трэцяя квадра, мы перад табой не павінны.

Алесь шмыгнуў носам.

Не падабаліся яму словы рабіць „гадзіну-дзьве адвячоркам".

— Нічога, і так скончым,—прагаварыў, заспакойваючы, Алесь

Маладыя плянавікі пайшлі па цэхах шукаць пачатку затрымак. А з імі і Міхась Пагоцкі.

Недахопаў шмат знайшлі ў ліцейным, кацельным ды і ў такарным яшчэ зусім ня былі зьнішчаны.

Сабраліся скразной брыгадай плянавікоў з усіх цэхаў па зборцы гэтай машыны, выявілі прычыну, паспрачаліся, далі абяцаньне добрага дзеяньня-плянаваньня.

Назаўтра плянавікі ў сваіх брыгадах рабілі сходы.

Кожны дзень пасьля працы прыносілі зьвесткі Шурку і Пагоцкаму.

Паведамлялі, што ў іх знаходзіцца ў рабоце, што ўжо скончана.

*

А было горача, пакуль налаўчыліся, наладзілі.

Пагоцкаму няспалася дома. Нікуды гуляць не хадзіў.

Да таварыша рабочага з чыгункі і то радзей заходзіў. Размова з ім была аб сваёй машыне. Скардзіўся ён, што многа непаладак. І малому гатоў паскардзіцца, каб той зразумеў, як цяжка яму Міхасю, што ў яго яшчэ не наладжана праца.

Як ляжа ў ложак, яму здаецца—перад вачыма стаіць нязграбная машына. З трэскам развальваецца, выплаўляюцца падшыпнікі, узьдзетыя не паабсяканыя шківы.

А Жылінскі-прыёмшчык—дзьме ў ноздры, бурчыць.

— Ну, што?.. Сапсавалі?..

Загналі на той сьвет машыну... Запаролі...

У лом пойдзе. Адвярнуўся і пайшоў. Не сядзелася дома і Міхасю. Па шаснаццаць гадзін праводзіў на заводзе. Вымяраў дэталі. Стрыг вачыма па малюнках-чарцяжох. Потым рабіў наметкі, як звыкла на дэталях, якія дапасоўваюцца адна да другой, паставіў нязграбную літару „А“. На другіх напісаў „Б“. Некаторым паставіў на бакох кернушкі, адкінуў у бок. На дошчачцы крэйдай напісаў „Брак“, палажыў на іх.

Так было, пакуль не зрабілі пяць машын. І калі азнаёміў усіх рабочых з працай машыны, упэўніўся.

— Ну, справа пойдзе.

Аднойчы сказаў ён Шурку, старому комсамольцу.

— Групе нашай плянавай трэба яшчэ больш раскачацца, пашавяліць мазгамі. У нас праца пойдзе. Замест дзесяці машын у месяц мы дадзім пятнаццаць.

— Ну..? Неяк зьдзіўлена з радасьцю крыкнуў Шурка.—Як вы думаеце, т. Пагоцкі, зрабіць? га..?

— Зрабілі Шурка, але яшчэ папрацуем.

Я мяркую зрабіць опэрацыйную работу. Шаблёны перарobім. Нашы плянавікі павінны стаць добрымі рацыяналізатарамі.

Ня быць ёй такой, што-небудзь ды зьменім, перароб.м.

Трэба яе аднавіць.

— Я ўжо, дзядзька Пагоцкі, і сам аб гэтым думаю.

Ёсьць адна прапанова ў мяне—замяніць адну частку другім мэталям. Думаю з вамі абмеркаваць.

— Будзем рабіць, Шурка.

Вось што я думаю; пакуль што зрабіць невялікую ператасоўку ў брыгадзе.

Адна праца надакучыла.

Памяняць вас опэрацыямі вырабу. Алёшку паставім з Таўкачом Піліпам, бо ён стары рабочы, рабіць любіць не адыходзячы ад ціскоў. Прыглядзіць больш за Алесем.

— Я таксама з гэтым згодзен. Аднойчы мне Алёшка гаварыў, скардзіўся, то яму дрэнную работу далі, ня цікавую яму.

— Ну, то так і зробім, Шурка.

Я заўважыў, як ён прыглядаўся да Піліпа, як той робіць.

Так і зрабілі. Праз некалькі дзён была зроблена перастаноўка людзей на зборцы частак машын.

Паліп Таўкач з Алёшкам рабілі прыводкі.

Піліп яго вучыў шабраваць. Для Алёшкі гэтая работа была новая. Малаток і зубіла перамяняў на шабэр, падпілачак, адвёртку.

Піліп расказваў, як будаваўся гэты завод.

— Ты, Алёшка, малады, здаровы хлапец, чорту галаву скруціць можаш, а я ўжо спрацаваўся, стары. О, галубчык, ні то-б мне ранейшае здароўя і сіла, папрацаваў-бы я цяпер. Выбілі мне сілушку з маіх ранейшых моцных рук Сальманы, Ліўшыцы, Горскія, ды белыя бандыты.

— Бацька, вы і цяпер працуеце, як малады.

— Каб мне вашы рукі! І я-б зрабіў так, як у вас праца выходзіць—моцная, прыгожая, аж блішчыць.

— Трэба вучыцца, дзеткі.

Рукі зробяцца шурпатымі, да працы будуць сьмела прыкладацца Трэба, сынок, вучыцца, каб усё ўмець, работа каб ня гніла ў руках, а кіпела.

*

Ішлі дні. Месяцы беглі ня згледзець.

— Знаем, браток, калі праца цікавая, і год пройдзе ня ўгледзіш калі. Так, сказаў Алёшка.

Шурка ўзварушыў сваю групу плянавікоў і рацыяналізатараў. Скончыўшы працу, сабралі інструмант у скрынкі. Сышліся да Пагоцкавых ціскоў.

Ведаеце што?.. Трэба даваць ход, бо застанемсяззаду, так сказаў Міхась.

— А вось, таварышы, дайце мы падлічым, якія сёньня былі ў нас перашкоды ў зборцы?

Шурка выняў з кішэні замурзаны „блёк-нот“, на наждаку затычыў аловак.

Падлічвае.

— Мы сёньня больш зрабілі супроць учарашняга, пахваліўся Цярэшка.

— Ну й далі вы чорту, гніламу цяляці хвост аджавалі,—сказаўшы гэта, Алесь усьміхнуўся. Цярэшка зачырванеўся.

— Ай „коле“ штуковіны беларусы наш.—Усе засьмяяліся, вясёлая брація з нявымытымі з работы тварамі.

— Чаго сьмяецеся, я вось давяду фармацельна: учора мы трое сваю опэрацыю не закончылі на дзьве, а сёньня скончылі тыя і новыя зрабілі, ды хвілін па дваццаць страцілі, ходзячы за дэталямі ў такарны цэх. Цярэшка трохі пасьмялеў.

— А мы сягоньня мудыкаліся-мудыкаліся, ня клеіцца, халера на яе, то інструмант дрэнны, то чыгун цьвёрды.

— З гэтымі стратамі часу трэба пакончыць. Інструмант наш дрэнны...

— Ого! зьдзівіліся некаторыя: гэтыя словы сказаў Алёшка. Зьдзіўлена глядзелі на яго твар.

Дні праходзілі.

Непаладкі атрымоўвалі бой.

Міхась Пагоцкі зрабіўся майстрам сьлясарна-зборачнага цэху. Сваёй руплівасьцю, дапамогаю турбуецца аб рабоце ў брыгадах. Часьценька заходзіць у сваю ранейшую брыгаду. Запытаецца, як справа з прамфінплянам.

Ці ёсьць дэталі? Шурка ўжо брыгадзір. Параіцца з Пагоцкім, як лепш зрабіць тую ці іншую частку машыны.

Адказьнейшая праца майстра Пагоцкага зрабіла яго больш турботным. Вялічэзны цяжар лег на яго.

А ён яшчэ малапісьменны, умее напісаць „А“ ды „Б“ і ледзь вымучыць сваё прозьвішча „Пагоцкі“.

Зьвяртаюцца рабочыя да яго каб дапамог.

Хто патрабаваньне на склад на мутэракі выпісаць, другі за тавотам, маслам. А хто каб даў запіску вызваць рамонтшчыка адрамантаваць варштат ці ціскі.

Пагоцкі зірне на кішэню свае спэцвопраткі. Занэрвуецца, бо там у кішэні мэтр, штангель і невялічкі абломак алоўка.

„Службовай запіскі“ няма з сабой. Ды што ён напіша на ёй. Лепш сам сходзіць на склад, у другі цэх, выдасьць патрэбныя рэчы, адрамантуе сам ціскі ці варштат.

Калі падышоў адзін з рабочых: т. „майстар, выпішыце мне да прэсаў пяць кіло гумы“.

— Гумы?

Зірнуў на рабочага з просьбаю ў зірку.

— Напішы, а я падпішу, толькі бяз лішкі.

Але сразу думка прышла: „Ліха яго ведае, што ён напіша а падпішаш—прапала“.

— Хадзем на склад, я скажу нашдаўніку, выдасьць.

Крочыць на склад, ідзе ў цэхі. Робіць сам без папер, бяз цыдулек.

— Чаго бегаеш, хадзі закуры, дзядзька.

— Што?.. а дапамагчы?

Сьвідроўшчык Атрошка выняў папяросу, падаў Міхасю.

— Дзякуй прамовілі тоўстыя губы, папяросу палажыў у кішэню і пакрочыў далей.

„Нават закурыць часу ня мае, чакае перапынку, каб скурыць у час абеду“,—падумаў Атрахім

Наконт пытаньняў працы, заводзкага жыцьця ідуць да Пагоцкага. Ахвотна растлумачыць, што пытаюць. Нават маладому скажа... можаце, знаеце, панімаеце... Гаворыць на „вы“, ставіцца з павагай.

*

Сёньня, як і раней, горача сонца ўставілася сваімі вачыма-праменьнямі, дзівіцца, як будуецца новае жыцьцё.

— Ня дзівіся, а рабіць хадзі, дапамажы выканаць прамфінплян.

Яно ўскарабкалася ўгору высока.

У сталоўцы ідзе абед.

Абедзенны перапынак.

Сабраліся на дварэ заводу маладыя хлопцы, дзяўчата з такарнага і сьлясарнага цэху. Сярод іх стары Піліп Тоўкач.

Мікола Вяртушкін палез на дах штамповачні.

— Глядзі, Вяртушкін, каб ня рухнуў экспонат гэты.

Некаторыя шчыльна абступілі старога Тоўкача.

Піліп апавядае ціхім павольным голасам. Апавядае пра завод, працу раней на ім, працу ў гаспадароў. У слухачоў мяняюцца твары, то робяцца хмурымі, нездаволенымі, а то вясёлымі.

— А, здароў рэдактар! Крыкнуў з даху Мікола, зьдзяючы сарочку загараць.

Рэдактар заводзкай шматтыражкі нёс у ахапку сьвежых газэт „Чырвоны молат“.

— Спазьніўся крыху, трэ' было ў сталоўцы раздаць.

Нічога, пачытаеш і цяпер.

Эстэркін—рэдактар заводзкай шматтыражкі, узяў пучок газэт.

— На, раздай сваім хлопцам, даў першаму, які падбег да яго.

— Эй, ты! мне дай.

— Мне пакінь адну, а то ў косьці дам, крычыць Мікола з даху. Многія былі прываблены апавяданьнем Піліпа, ня зводзілі вачэй з высокага даўгаватага твару Тоўкача.

— Ну, сёньня годзе, цяпер вы мне пачытайце, што там пішацца.

Мікола зьвесіў галаву ўніз з даху, нагнуўся, чытае:

...„У цэху горача, як у лазьні. Спарыць хочуць...

...Расьцяпы, вокан не адчыняць“... Піліп усьміхнуўся.

Знаёмыя яму словы. Ён сам памагаў іх складаць у газэту.

— А здорава гэта іх... так прысьцёбнулі—заўважыў хтось з хлапцоў.

Гутарка ня спынялася.

Гэты гурт напаўняўся новымі слухачамі.

Апошнімі з сталоўкі вышлі Янка і Алёшка. Янка пераскочыў абруч, што ляжаў на дарозе, не хацеў абыходзіць.

— Янка!—крыкнуў Алесь. Хадзі сюды, тут свая „кабылка“ сабралася.

— Ты кажаш, Янка, што ён дрэнны, не такі ўжо і дрэнны, як яны думалі.

За праўду стаіць.

— Пра каго ты, пра Мушкацёра рыжага?

— Але, пра Пагоцкага.

— Аа-т-т... Няхай.

Адноечы я ля нямецкага варштата круціў-круціў ручкі, калёсікі, пераводкі—ніяк ня выходзіць, а здаецца варштат ужо і вывучыў працаваць на ім. Нейкая чартовіна ня так была закручана: як пушчу—варштат дрыжыць, тарабаніць. Заўважыў, Пагоцкі бяжыць.

Кажа: „Вось, браток, пакуль усё не абгледзіш, нельга пускаць ход, бо можа зламаць шасьцёркі“.

Перабраў, перагледзеў усе ручкі, падважнічкі. Расказаў што для чаго прыналежыць. Перавёў пас на большую хуткасьць.

— Гэтым сьвідрам можна чыгун сьвідраваць і на такой хуткасьці не згарыць, а хутчэй будзе. І сапраўды сёньня я больш зрабіў. Чыгун быў цьвярдзейшы, на дваццаць дзірак больш зрабіў.

— Ну вось, а ты кажаш дрэнны. За вошта табе ёй ходу даваў нядаўна!

Эат, так... прыдзіраецца...

Але-ж ён сапраўды добры чалавек, свой стаў, дружны. Дапамагае мне.

Прышлі да гурту.

— Якое права мелі без мяне зьбірацца?

— Вось герой Алёшка, бачыце?

— Чаго-ж ты абедаў доўга—белабрысы?!

— Мы па два злопалі—адказаў Янка, хлопаючы па сваім вытырклым з спэцоўкі жываце.

Што гэта за абед, двума не пад‘ясі.

— Брэшаш Янка, мне добрая сьвініна папалася.

— Ну табе добрая, а мне дрэнная.

— Табе ўсё добра.

Калі нават Плоткін (убачыў што падыходзіць Плоткін) і то адзін абед зьеў.

— Што вы Плоткіна лаеце, ліха на вас (падышоў).

Здарова, скварцы!

Падаў руку Піліпу.

— Бачыш, людзі абедам ганьбяць. Ня ведаюць, як было нам. Памятаеш Плоткін?

— Чаму-ж не, памятую, як лыжкамі боўталі шукалі крупінкі ў чыстай вадзе. Перасунуў языком вялізную папяросу, як аглоблю з аднаго кута ў другі, заціснуў тоўстай ніжняй губой.

— Што ён вам адкалвае тут, Піліп гэты?

— Не адкалвае, а праўду кажа—адказаў Мікола.

Вяртушкін з „Экспоната“.

— Што Плоткін? На сваіх нападаеш? сьмяючыся прамовіў Алесь.

Пачалі кпіць з Плоткіна. Той гаворыць, не выпускаючы з роту папяросу, не заўважыў, як яна патухла.

Ён яе цягне, смокча, а дыму няма. Яго тоўстыя шчокі ўцягваюцца ў рот.

Алесь запаліў запалку, паднёс да папяросы.

— Але варта вам кінуць ужо яе.

— Знаеш Піліп? Чуць знайшоў я для вашых машын восемнаццацідзюймовых швэлераў. Увесь двор абхадзіў. Пранізаў вачыма ўсе кучы лому. Як знайшоў, аж на сэрцы лягчэй зрабілася.

Загадаў ваш Пагоцкі, калі не знайду, то на катаргу вышле.

Скажыце яму, каб узяў чорнарабочых, прыехаў да кацельнага цэху там...

— Пагоцкі ўжо майстар цэху.

— Ого! Агрэйсэр шышка,—сказаў Плоткін.

— О, скора анжанэрам будзе.

— Але, але, вучыцца пайшоў. Вечарамі ў тэхнічную школу ходзіць.

— Але-ж і пахудзеў ты Плоткін, не пераставалі хлопцы сьмяяцца з яго.

Колькі ты абедаў улопаў?

Выкліч на спаборніцтва Янку з Алесем, яны не адстаюць ад цябе.

— Ён мала зьеў сягоньня. Усяго адзін абед, ды хлеба кавалкаў пятнаццаць.

— Вось гэта мала...

— Ха-ха-ха! засьмяяліся тонкія, як сталёвыя, галасы, ззываючы сваім вясёлым сьмехам больш рабочых.

Заляпалі блізка кацельшчыкі малаткамі, кляпалі кацёл.

— Як-жа, як-жа—пачаў скардзіцца Плоткін. Ліха на іх... Сказаў жалеза выгрузіць пад страху, а яны на зямлю скінулі, пад дождж, ржавецьме.

Хрыплым голасам зараўла сырэна. Нечая няўмелая рука прыткнула, уключыла рубільнік.

— Да-а, злазячы з крышы нацягвае сарочку на бронзавае, загарэўшае цела, сьцьвярджае Вяртушкін. На ціск, браткі, абед скончыўся.

Усе пайшлі ў цэх.

Пiлiп падняўся. Яго доўгi худаваты стан, згорбленыя плечы паварушылiся ў цэх.

— Заўтра вы яшчэ раскажэце што-небудзь? параўняўся Алешка з Пiлiпам, iдзе.

— Ды я—што-ж, я не адкажу, збаю што-небудзь.

Так iшлi летнiя днi.

Пiлiп апавядаў маладым рабочым, як трэба працаваць. Як яны дванаццаць чалавек узводзiлi падмуркi гэтых гiгантаў-цэхаў.

*

Пагоцкага мучыла праца. Цяжка было вучыцца i працаваць. Ня сьмеў нiяк, баяўся пагаманiць з дырэктарам. Але нарэшце пайшоў. Сорамна i прасiцца. Ня змог кiраваць.

— Знаеце, таварыш Змачынскi, мне надта цяжка працаваць i вучыцца. Я... я малапiсьменны. Каб пачытаць цi напiсаць паперку, ногi адказваюць.

Я не баюся цяжару, але... неяк засаромiўся, змоўк на хвiлiну потым адказаў.

— Вучыцца мне, гэта вельмi цiкава, хочацца.

... Я не пасьпявацьму. Калi можна... то я, я пайду iзноў у брыгаду. За майстра параю добрага хлопца, хоць i малады ён, але працавiты, да працы адносiцца ўважлiва.

Любiць работу.

Да мяне падыходзiць раiцца, пытаецца, нешта вынаходзiць, ды саромеецца сказаць.

Змачынскi глядзiць на твар Пагоцкага.

— Ну, а каго вы прапануеце?

— Федасеева, адказаў Мiхась.

— Да, я чуў пра яго, кажуць добры хлопец.

Ён здаецца i комсамолец?

Добра, таварыш Пагоцкi. Я пагавару з комсамольскiм комiтэтам, параюся з сакратаром партколектыву. Калi падыйдзе, зробiм.

— Во, во, таварыш Змачынскi, а то я i ў чарцяжох ня надта кумекаю.

Федасееў адукаваны хлапец, малады яшчэ, але нiчога, абы працавiты.

— Але вам, таварыш Пагоцкі, прыдзецца азнаёміць яго з працай. Папрацаваць з ім тыдзень-два.

— Я... я... ды што-ж, панімаеце, я з ахвотай, добра, добра.

А то знаеце, мне... неяк... Гэта калі я галоўнае... арытмэтыку вывучу, а гэтую самую, як яна... геомэтрыю, без яе не абыйдзешся. Трэба ўсё геомэтрыяй браць. Тады папрацую.

Міхась вышаў ад дырэктара.

„Цяпер у брыгаду. Па-новаму зашуміць работа“.

*

Апошнія дні. Адыходзіць лета. Восень неўзабаве крочыць. Крочыць наперад усё жыцьцё.

Пагоцкі ў брыгадзе робіць. Здае машыны прыёмшчыку. Той прымае, адпраўляе на пагрузку.

Федасееў майстар цэху. Пасьля працы часта гутарыць з Міхасем, як і што рабіць.

Міхась ходзіць у тэхнічную школу вучыцца.

На двары заімжыў дождж. Сабраліся ля Піліпавых ціскоў хлопцы. Чакаюць яго з абеду. Зьяўленьне Піліпа ўзрадавала моладзь. Праз пяць хвілін Піліп ужо гаварыў... Тут ліцейні ня было. Гэта новыя будынкі, яшчэ мае плечы насілі цэглу на гэтым падмурку.

Раней ліцьцё насілі за два кварталы, ведаеце на Ляхаўцы сталоўку? Вось там была ліцейня. У 21—23 чалавек нас пасылалі рабіць куды прыдзецца. Я рабіў тады з Змачынскім. Невялікім хлапчуком ён быў. А цяпер бачыце, дырэктар.

Таўкач зірнуў на сваю нагу, якая была ўзьдзета ў крыху больш бот.

... Гаворыць далей...

Цесната была, не павярнуцца. Працавалі мы на заліўцы. Змачынскі быў маім падручным.

Набралі поўны коўшык ад „гаршка“—невялікай вагранкі, „так“ „гаршком“ мы звалі яе.

Змачынскі дранcамі сваёй спэцоўкі зачапіўся, паляцеў ніцма на фармовачныя яшчыкі.

Я моцна трымаў прэнт каўша. Заплёхаўся ў каўшы растоплены чугун. Я рвануў да сябе коўшык. Непаслухмяна, але абярнуўся ў мой бок. Прыснула крыху на нагу, памятка-вось засталася.

Ну, скварка была-б, а не Змачынскі, уставіў Алёшка. Заматаў галавой Атрошка.

Некаторыя пераглянуліся.

*

У гэты час Міхась абглядаў прывезеныя чорнарабочымі дэталі з такарнага цэху. Узяў у рукі, прыглядаецца. „Чаму няма паметкі кернушкі“, ці ня тыя, што мы забракавалі?—„Прамільгнула ў яго думка.

Выняў мэтр, штангель, прамераў.—„А можа паправім?“ Назад адправіў, зноў правезьці.—„І што яны сабе думаюць? Хочуць старога вераб'я на мякіне ашукаць? Не, дудкі“, кінуў рудаватым вусамі.

Закусіў ніжнюю губу. Сьцяў яе зубамі. Бровы нахмурыліся. Матануў галавой... „Я ім“.

— Ну, заварыць куцьцю ізноў. Падышоў Шурка да аднаго з рабочых.

Глянулі абое ў сьлед Міхасю. У цэх ішоў вялікімі крокамі.

Сярод рэйкавай дарогі памераў цэх да канца такарнага.

— Зірні, вось...

Праз пяць хвілін вярнуўся з прыёмшчыкам і майстрам Федасеевым. Нічога больш ня кажа, толькі глядзіць бы злоснымі вачыма на твары, то на прыёмшчыка, то на майстра. Прыёмшчык прамераў мэтрам дэталі, кінуў, пачырванеў.

Пагоцкага з імі ужо ня было. Ён завіхаўся ля сваіх ціскоў.

— Што вы сабе думаеце?—зьвярнуўся Федасееў да прыёмшчыка.

Прыёмшчык нічога не адказаў. Пайшоў у свой цэх.

— Сёньня мы робім агульны сход комсамольскай ячэйкі нашай брыгады з комсамольцамі такарамі. Там пагаворым аб якасьці, а то яны зноў пачалі качаць.

Вы будзеце таварыш Пагоцкі?

— А як-жа, буду.

— Потым трэ' будзе вызваць на спаборніцтва за якасьць.

— Зробім, так не заставім.

Цяжэйшае перамаглі і гэта пераможам,—цьвёрда сказаў Шурка.

*

Надышла восень.

Шурку прышла позва ісьці ў Чырвоную армію. Аднаечы Пагоцкаму ён так сказаў:

— Іду я дзядзька ў армію навучыцца, як і аружжам абараняць краіну.

Хочацца мне ў авіяатрад папасьці. Вось там папрацаваць будзе з самалётам, моторам.

Вы, таварыш Пагоцкі, майце на ўвазе. Я дваццаць дзевятага прызываюся. На маё месца чалавека падрыхтаваць трэба.

— Я падумаў ужо аб гэтым.

Без цябе, Шурка, цяжка будзе. Алёшку мяркую паставіць на тваю работу. Падвучы яго. Хлапец папраўіўся, зможа працаваць.

— Добра, дайце...

— Заўтра будзеш з ім працаваць.

— А я ў брыгаду з арміі вам ліст напішу.

Вы адпішаце, як у вас тут прамфінплян выконваецца.

*

Сёньня пускаем у ход машыну № 95, апошняя па заданьні. Пагоцкі ходзіць з радаснай ухмылкай.

Праглядае машыну, хлопае рукой па зьмененым часткам. Яна была адноўлена, заменена другімі дэталямі, часткамі.

Гэты дзень надзвычайна быў вясёлым для брыгады добрага кіраўніка Пагоцкага.

Сёньня-ж атрымалі і ліст ад Шуркі з Чырвонай арміі. Апошнія дні ўбіраюцца машыны ў сваю вопратку—фарбу. Рыхтуюцца на вялікую працу.

За пяць хвілін да гудка маляры несьлі ў вёдрах фарбу да свайго складу.

— Эй ты, пэцкаль... Маляр аглянуўся, паставіў вёдры.

— Ну, што новага скажаце, таварыш Пагоцкі?

— Вот-вот-вот, браток, узяў за руку, вядзе.

— Яшчэ рана зьбірацца, гудка ня было. Узяўшыся за рукаў вымазанай у фарбу спэцоўкі цягне да сваёй непафарбаванай машыны.

— Вядро вазьмі, вядро...

Маляр узяў вядро, ідзе за Пагоцкім.

— Так-так, падмаж. Апрані яе. Размахвае рукамі па машыне бы фарбуе пэндзлем.

— Слухайце,—няхай заўтра...

— Не е, заўтра вывозяць іх.

— Ну, то заўтра і пафарбую.

— Эй-ей, які ты гультай!

Яна ж засьне за ноч.

Раніцай на пляцформу нашы „львы"—грузчыкі—пагрузяць. Яны падрыхтавалі.

— Зрабі-ж, таварыш Цодзін, а то я... недаказаў, пакрочыў у інструмантальную.

Па яго важнай лёгкай паходцы можна было ўбачыць, што добры настрой.

На сустрач яму ішоў старшыня цэхкомітэту.

Перадаў нейкую паперку Пагоцкаму. Міхась уважліва ўпіўся вачыма ў яе. Разы два прачытаў, потым хораша злажыў, сунуў у кішэню. Гэта была позва з горсавету.

Пагоцкі абдумваў парадак паседжаньня пленуму. Надумаўся, што па гэтых пытаньнях можа ён высказаць, даць прапановы, зрабіць захады.

*

Вялікая заля паседжаньняў была напоўнена людзьмі. Ля дзьвярэй сядзеў за вялікім столікам чалавек з густой чорнай барадой.

— Як прозьвішча?—спытаўся ўвайшоўшага Міхася.

— Пагоцкі Міхась.

— Дзе працуеце?

— Сьлесарам на заводзе „Варашылава".

Міхась вынуў членскі білет, падаў рэгістраваўшаму. Чалавек узьняў чорную бараду, зірнуў вачыма на Міхася. Міхась зірнуў на яго, узяўшы адмечаную членскую кніжку. Міхась пайшоў наперад сеў ля першых радоў ад вялікага чырвонага стала. Чалавек, які рэгістраваў Міхася, узьняўся з крэсла, выцягнуў шыю, як конь, дастаючы сена з-за драбін, глядзіць, куды пайшоў Пагоцкі.

„Пагоцкі Міхась... Сьлесар. Што-сь знаёмае прозьвішча запытаюся".

Праз паўгадзіны ля парога стаяў столік адзін.

Чалавек з чорнай барадой сядзеў разам з Пагоцкім.

Міхась паглядае на яго, а той на Міхася.

Міхась заўважыў, незнаёмец нешта хоча спытаць у яго, але як відаць, не адважваецца.

Тады пачаў Пагоцкі.

— Хто будзе рабіць справаздачу аб рабоце будаўнічай сэкцыі?

Чалавек павярнуўся да Міхася. Не адказаў на запытаньне, пытае сам.

— Скажыце, што-сь мне знаёмая ваша імя і прозьвішча.

— Вы-ж запісвалі, то і ведаеце. А можа дзе і спатыкаліся.

— Вы ў 1918-19 г. г. працавалі на чыгунках у Менску?

— Працаваў, адкуль вы ведаеце? Можа і вы працавалі?

— Я працаваў з брыгадай па рамонце паравозаў у чырвоных. У нас старшым быў Шхунаў.

— Шхунаў? З радасьцю выкрыкнуў Міхась, што аж з другіх крэслаў пачулі. Зірнулі на яго.

— Яж-яж з ім працаваў!..

— Як, як ваша прозьвішча будзе?

— Абраменка Ніканор.

— А-а! Нікан! Здарова, браток, здарова!

Старыя лепшыя сябры праз дванаццаць год спаткаліся. Радасныя словы, усьмешкі былі ў Міхася з Ніканорам.

Прадсталі перад вачыма малюнкі ранейшага змаганьня за рэволюцыю, за абарону маладой савецкай улады. З напілкам, малатком і аружжам, бомбай, вінтоўкай абаранялі савецкі Менск.

— Як, Нікан; памятаеш ля маста? Адсьцёбалі нас шампаламі.

— А ты, Мішка, ведаеш прастрэлены ўвесь на дзірках тэндзер.

— Да-а, сам яловымі сучкамі забіваў—рамантаваў. Дрэнная ў нас была „выручалка“: малаток, зубіла ды рашпіль.

Радыёнавы змораны твар'ящчэ і цяпер мне памятаецца.

— Добры ён быў начальнік. Тады-ж яго паранілі бядняжку. Нашы брыгаду разагналі.

— Ой, лупілі нас белапалякі. Забілі на сьмерць многіх. Як і мы засталіся.

Гэта было адвячоркам. Дождж лупіў—сёк па твары, па голых мясьцінах цела, як іскрамі з-пад наждачнага камня, па голых руках.

— Мне далі добра шампалоў... сьпісалі сьпіну.

— „Ты бальшавік, пся крэў твая?“.

Прывялі мяне ў хату. Узламалі ўсё, рабілі вобыск. Жонка і дзеці ў голас. Потым пасадзілі ў турму, забаранілі мне працаваць на чыгунцы, як небясьпечнаму чалавеку, адаслалі ў горад Вільню.

Вось прарабіў я год там, потым уцёк у Менск.

Ад таго пачаў працаваць на розных фабрыках, заводах. Цяпер раблю на заводзе імя „Варашылава“.

Мы вось жывы, Нікан. А як там за мяжой нашага саюзу, як там жывуць?

Цяжка ўздыхнулі абодва.

Хвіліннае маўчаньне...

— Там мае браты і сёстры..,

— Для гэтага Нікан мы і цяпер ваюем, як і раней, за вызваленьне сваіх братоў рабочых і сялян, за вызваленьне саміх сябе. Ваюем, не з аружжам, ня з бомбай, а будоўляй, робім труну капіталістам.

Кожнай машынай, заводам бяз промаху цаляеш у ворага.

— Я, брат, пасьля таго папарыўся ў іхных руках.

Білі нас палонных. З нашай брыгады Шхунава было чацьвера, я ды яшчэ трое. Да рамонту к нам прыслалі новых палонных і сваіх сьлесароў. Першы час працавалі пад наглядам. За кожным крокам сачыў штык белапольскага наглядальніка. „Сьвіньню“ цяжка было падлажыць. Ды яшчэ незнаёмыя людзі былі, небясьпечна. Скора мы пазнаёміліся. Гэтыя сьлесары былі рабочыя з заводаў Грозьні, Баранавіч. Свае былі людзі. Давай рабіць і яны, як і мы: стук, ляп, работа ішла, як з пад тапара. Абы цягнік ад станцыі адышоў з паўкілёмэтра. Падмазвалі маслам ды пясочку падсыпалі. Кілёмэтр пройдзе, выплавяцца падшыпнікі, сапсуецца. Па нас едуць, шампалы гуляюць па сьпінах, расстралялі некаторых. Во, бачыш, два пальцы адсеклі. Некаторыя паўцякалі. Так працавалі з паўгода.

Дайшла вестка, што чырвоныя гоняцца за намі. Нас адвезьлі на тры станцыі бліжэй да Варшавы.

Потым захапілі наш цягнік. І я застаўся ў чырвоных працаваць на чыгунцы.

— А дзе цяпер працуеш?

— Цяпер я вылучэнец, з дваццаць дзевятага году працую начальнікам вузлавой станцыі.

Пленум распачаўся са спазьненьнем. Міхась і Нікан раіліся аб пытаньнях на пленуме. Міхась пытаўся, як справа на транспорце. Нікана цікавіла, якія машыны выраблае завод.

Ідучы з пленуму, Міхась Пагоцкі меркаваў, каб заўтра якраз ухадзіцца. Усё скончыць. Сабраць астачу дэталяй, здаць майстру. Падабраць дзе якія закінуліся балты... аднесьці на склад. Падлічыць вынікі эканоміі на час гаспадарчага разьліку. А там да 4-га завяршаючага падрыхтавацца. Новыя машыны рабіць мелі.

Так разважае Міхась, ідучы дамоў.

Учора Міхасёвыя намечаныя пляны былі выкананы. Зрабілі ўсё да гудка.

Пасьля працы сабраліся пісаць Шурку ліст. Знайшоўшы вымазаны ў масла ліст паперы, у які быў загорнут шарыкавы падшыпнік.

Алесь пачаў пісаць:

**„Добры дзень, Шурка!**

**Прывітаем з новым чацьвертым завяршальным годам...**

— Алёшка, і ад мяне паклон Шурку.

Падышоў стары Тоўкач Пілір.

— Пішы:

**— Шурка—коцік, мой, ці скора ты будзеш ляцець на самалёце?**

**Вучыся, дзетка, вучыся абараняць краіну ад ворагаў, а мы, гэта, працаваць будзем па ўдарнаму.**

**Адслужыш, прыедзь у нашу брыгаду, папрацуем“.**

Ну, я ўсё сказаў...

Пішы ад мяне, Алесь.

Пагоцкі дыктуе,

**„Прывітаньне табе, Шурка! Вялікі табе дзякуй, як лепшаму ўдарніку брыгады. Пры тваёй турботнасьці мы вылезьлі з бяды. Заснаваная табой група плянавікоў шмат прынесла карысьці для краіны і для нас. Заработак наш павялічыўся. Цяпер Алёшка на тваім месцы працуе, спраўляецца з работай добра.**

**Алесь, табе сам напіша больш.**

— Таварышы, ведаеце, што я прапаную?—перабіў Алёшка.

— Што, што? Вясёлыя ва ўсіх твары, добры настрой.

— Я прапаную скласьціся і паслаць Шурку ад брыгады падарак—памяць гадзіньнік.

— Згодны, згодны, падхапілі галасы.

— Я пяць рублёў даю, адазваўся Атрахім.

— Я таксама...

Мяне залічыце, я Шурку люблю. Сказала Фаня, пачырванела, саромілася.

— І мяне, дзеткі, увядзіце. Я свайму Шурку на памяць падарак слаць хачу.

Алёшка піша ад сябе:

**„Дарагі таварыш Шурка!**

**Вялікая табе падзяка за тое, што ты навучыў мяне працаваць.**

**Я падаўся ў комсамол. Наша група плянавікоў-рацыяналізатараў працуе добра. Мы вядзем скразную рацыяналізатарскую групу з ліцейным, такарным і кацельным цэхамі. Зьнішчылі брак. Зьнізілі сабекошт на 17 проц. Наш**

**брыгадзір, Міхась Пагоцкі, атрымаў прэмію. Зьяўляецц лепшым ударнікам заводу. Занесьлі на „чырвоную дошку" Пагоцкага і Піліпа. Уся брыгада прэміравана. Пасылае табе ад усёй брыгады на памяць срэбны гадзіньнік.**

**З першага дня чацьвертага завяршальнага году пяці годкі пачынаем рабіць новыя машыны „Сушылкі". Мы да тэрмінова выканалі свой прамфінплян з перавыкананьне па 50 проц.**

**Усе вясёлыя. Пагоцкі ходзіць роўнымі крокамі, як шта гелем вымервае іх. Сёньня ў яго няма ранейшай злосьці бы памаладзеў.**

**Пішы Шурка, як там рамантуеш самалёты?**

**Можа што вынайшаў? Мэханікам вучышся, да на прыедзь.**

**А ў комсамоле, гэта работы многа. Гуртам і працаваць весела, і добра.**

**Бывай, Шурка.—Алёшка.**

Паставіў вялікую кропку, як цэнтрафуга разьмясьцілася яна н замурзанай паперы.

„Заўтра выходны дзень, перапішу на чыстае, адашлю ў Гомел у авіячастку Шурку Хлябцэвічу.

---

## ЛІРЫКА БРЫГАДЗІРАЎ

У яго
рубашка рашпілена шырока.
Махорка.
Мундштук.
Голас—
барытон.
Я ўскідаю на плечы паўтоны лірыкі,
Якое хопіць на цэлы том.
„Вясна“—
запісана ў блёкноце
(вясна комсамольская,
ў колектыве),
Не такая,
калі салавей на плоце
пачынае фальшывіць...
Не такая,
што зьлізвае сьнежныя язвы
і нясе гонар поэту,—
Абмен
комсамольскіх
білетаў.
Красавік—
не такі...
без залішняй поэзіі,
Красавік для хлапцоў—
экзамен.
Яны на часткі раскіданы фрэзэр
Адрамантавалі самі.

У іх—
рубашкі рашпілены
шырока
Брыгадзіраў голас,
як барытон,
Гэта яны нарадзілі лірыку,
Якою ўкладаюць за
томам том.

Красавік, 1932 г.

---

## ІНТЭРВ'Ю

Стаялі ў адчаі два генэралы,
белыя эмігранты (бяз шпор...),
Калі пад нагамі зямля памірала,
у неба ўставілі вочы ва ўпор.
Хваляў паўстаньня прыходзіў ранак,
Дзень паднімаў галаву сваю...
На вуснах вытрапанага Брыяна—
прадсьмяротнае інтэрв'ю:
Супярэчнасьці—у горле...
Мы не дагонім іх...
Мы-ж былі
юнакамі...
даўно..
Набліжаецца сьмерць,
Ціхая—
без агоніі,
ледзяная як нож...
А калі, о помніш, Сена,
Ў тыя выпітыя гады
Да тваіх берагоў з Сэнт-Эт'ена
Я прышоў—
адвокат малады...
Вышаў з гордых „Рыцараў працы“ [1]),
дэмократ,
француз,
патрыот...
Сёньня ў выбуху дэмонстрацый
пагасае мой слаўны кіот...
і пабляклі пэйзажы Ніццы—

[1]) У маладыя гады (90 гг. XIX в.) А. Брыян, выхаваны ў духу рэспубліканскіх дэй, прымаў удзел у напоўанархічнай організацыі „Рыцары працы“, якая ставіла ваёй мэтай—зьнішчыць існуючы лад узброенымі сіламі. Пазьней (1906—1907 гг.) яго намеціўся рэзкі паварот у бок рэакцыі.

Здань Масквы—
на тысячы лье...
На чатыры гузікі зашпіліце
Мой
харошы
клясычны,
парляманцкі мой жылет...
Праскакала жыцьцё галёпам,
Не агледзіліся і мы.
Правалілася пан-Эўропа
чорт вазьмі...
Паступова надзеі памерлі.
Болей пушак,
дрэдноутаў,
мін.
Гэта-ж крызіс комам у горле,
чорт вазьмі...
Бязумоўна,
Тард'е меў рацыю;
Перадайце яму яшчэ,
каб Дунайскую фэдэрацыю
Ён склікаў як мага хутчэй.
Запавет ляжыць у жылеце...
Ў Пантэон аддайце мой прах.
На чатыры гузікі зашпілеце
мой
клясычны
парляманцкі
выцерты
фрак...

Францыя—
краіна „дэмократычных ідэй",
Начных рэсторанаў і шансонэтак,
Краіна „братэрства ўсіх людзей",
Краіна такіх цудоўных поэтаў...
Яе галава—
палітычны паўтруп
(краіна шыкоўнасьці і галоты),
краіна, дзе жорлы фабрычных труб
І людзі бяз хлеба і без работы.

*

Зачыняліся начныя шантаны. Праз
плошчы ціха карабкалася раньне...
Зьбітае з панталыку агенцтва „Гавас“
Насіла жахлівыя тэлеграмы.
Спыніў на хвіліну работу генштаб,
Дробныя газэткі захлябнуліся ад
лямanту...
шкадавалі...
радаваліся...
няпоўны штат—
адзін свабодны портфэль у парляманце.
А белы „Руль“ у пачэснай ролі:
„лепшы...
француз
назаўсёды... зас-н-у-у-ў...“
Уціралі сьлёзы,
Пісалі нэкролёг
Пра яго,
як вернага,
і пра радню.
Сьлёзы ня ўлезуць у дактыль і ямб
І я-б узяў звычайнае слова:
Мой клясавы вораг—
Брыян—
ты памёр абсолютна сваячасова.
Ты зграю расійскіх бандытаў зьбіраў,
каб іх пусьціць на маю айчыну,
ты іх карміў,
ты іх абуваў,
морду сваю падпіраў імі...
Страпаўся,
як сьнежаньскі ліст з гаёў,
як наложніцы з бацькаўскага прытону.
Бязумоўна, мы зьмесьцім
цела тваё
І тваіх прыслужнікаў у Пантэоне.
Калі ты над рэльефам савецкіх карт
пальцам пахабна вадзіў, як дома,—

У рабочых
Мацнелі дужасьці і гарт
вырастала
Клясавая сьвядомасьць.
Яны паўстануць для барацьбы,
яны табе не паставяць помнік,
яны ня будуць болей рабіць
зброі для інтэрвэнтаў Японіі.

---

## СЛОВА ПРА ЧОРНУЮ ДОШКУ

У расчуленых поэтаў—
лісьцё шастае,
Пілікае выпілены
баян.
А мы
прыходзім—
маладыя энтузіясты—
Аддаць змаганьню
свой
энтузіязм.
І калі адзін чалавек
занядужае,
Цела
выпрастаўшы
папярок,—
Яна прыходзіць,
здаровая,
дужая,
Зьнішчыць мікробы
гэтых хвароб...

*

У яе вочы
такія чорныя,
У яе сэрца—
чулага поэты...
Яна бярэ перашкоды штормамі,
Ня просячы
ўзнагароды за гэта.
Яе цела
такое простае:

Дошка. Цьвікі...
(І гэтага досыць).
На яе целе імёны
вырастаюць,
Калі раніцою
на восем
гудок,—пара:
Іду я,
і думаю,
ідучы:
У яе сэрца—
прокурора
і
доктара,
якое можа
караць
і
лячыць.
Сьпяшаюся.
Ў словах недагавораных
Думак нявыпрастаных кілім.
Імёны,
рвацтвам,
прагуламі
хворыя—
На койкі
чорнага лазарэту
лягаі.

*

Эпоха лісты
ў нашым сэрцы
адгортае,
Прыносячы
тысячы
новых патрэб.
Іду я да дому—
штодзень, а чацьвертай,
наносячы

ў контурах
твой портрэт...
Лаконічна—
кароткім і простым
рапортам
Прыношу табе ўсю
радасьць і боль...
Калі хлопцы
на дошку сягоньня
трапілі,
дык для таго,
каб ня трапіць больш.
У нас ніколі лісьце
ня шастае,
Ня плача
выплаканы баян...
Як у свой цэх
маладыя энтузіясты
Прыходзіць у сшытых
песьнях Мая.

1931 г.

*С. МАЛАШЭНКА*

## НА УХАБЕ

Апавяданьне

I

СЁНЬНЯ пасьля працы мае адбыцца комсамольскі сход ячэйкі першай прупы, гаворыць насьпех напісаная аб'ява. Аркадзь Мяккі—вытворчы працаўнік ячэйкі—насьпех паабедаўшы бяжыць у цэхавы плянавы аддзел. Трэба лічбы выкананьня комсамольцамі прамфінпляну.

— Ну як падрыхтаваў?—пытае ў Аркадзя сакратар ячэйкі Міхась, спаткаўшы ў дзьверах плянавага аддзелу.

— Амаль гатова. За час перапынку пасьпею.

— Ну добра, валяй, браток.

Толькі Аркадзь накіраваўся пайсьці, як Міхась яго спыніў зноў.

—Цікава паглядзець, аб чым гавораць лічбы.

Аркадзь дастае з кішэні запэцканы кавалак паперы.

— Пабач.

Міхась хутка, каб незатрымліваць Аркадзя, прабег вачыма лічбы.

—Так... Ёсьць пра што гаварыць.

Гудок прарэзвае марозны дзень.

— Значыць, шабаш!—гаворыць пра сябе Аркадзь. Хутка ўпарадкаваў варштат і шпарка накіраваўся на сход.

— Пачынай, лічбы прыехалі,—жартуе хтосьці ззаду ад дзьвярэй.

— Пачынайце, а то спозьнімся на спатканьне,—крычыць вядомы бузацёр Пятрусь!

— Ну, ты ўжо паехаў.

— Хто пра што, а ён пра спатканьне,—чуваць галасы з розных куткоў.

— Сядайце хлапцы, пачнем,—адчыняе сход Міхась.—Мы сёньня заслухаем лічбы выкананьня прамфінпляну нашымі комсамольцамі за першую дэкаду другога месяца асобнай квадры. Адразу зачытаем лічбы. Слова мае вытворчы працаўнік, таварыш Мяккі.

Радавалі хлапцоў некаторыя лічбы, а іншыя рэзалі вушы пагрозай прарыву. Аркадзь скончыў чытаць, падсумаваўшы агульную

лічбу 101 процант. Мы выйшлі пераможцамі ўсе разам, як кажуць наогул,—працягвае далей Аркадзь.—Але-ж паасобныя нашы комсамольцы цягнуцца ў хвасьце, адстаюць.

— Ты хочаш, каб з табою сьцягнуцца і мне,—перабівае Мяккага Пятрусь, выканаўшы прамфінплян на 65 процантаў.—Ты-ж, можна лічыць, тэхнік. Дайка нам вучыцца на трэцім курсе тэхнікуму, тады пабачыш.

— Ціха хлопцы,—супакойвае абраны старшыня сходу, потым зьвяртаецца да Аркадзя.—Давай.

— Сам Пятрусь закранае важнае пытаньне, але сам ён і ўсе мы разам абыходзім яго моўчкі. Пытаньне ўладаньня тэхнікай. Вось тут, як кажуць, і закопана сабака. Я пакуль скончыў.

У спрэчках гаварылі доўга. Гаварыў і Пятрусь:

— Вось, хлопцы, я-ж і кажу, нам, бязумоўна, несьцягнуцца, з Мяккім. Ён амаль што тэхнік, а мы што?

— А чаму-ж ты абыходзіш міма тэхнічны гурток?

— Хто табе вінаваты?

Пятрусь крыху замяўся.

— Дык я-ж кажу, тут і дыхнуць няма калі. Тут табе сходы і паседжаньні, і нарады, і іншая такая трасца. А пагуляць калі? Як па-вашаму? А?

Мікола ўважліва слухаў Пятруся. Калі ён скончыў. Мікола яшчэ седзячы на месцы, загаварыў:

— Ты, Пятрусь, ня бузі...

— Хочаш гаварыць?

— Але! Дай слова! Як, бачу, Пятрусь дарэмна бузіць. Калі ў яго шмат браку, ён сам вінаваты ў гэтым. Ён пытаўся „калі-ж пагуляць“, а я скажу, ён прагуляў паход за тэхніку. А зараз бузіць.

— Хто яшчэ хоча слова?—пытае старшыня, потым, пачакаўшы дадае.—Заключнае слова мае таварыш Мяккі.

— Я, хлопцы, доўга гаварыць ня буду. У мяне ёсьць некалькі прапаноў. Па-першае, комсамольцы ў абавязковым парадку павінны наведваць тэхнічны гурток. Па-другое, для дапамогі адстаючым комсамольцам організаваць штурмовую брыгаду. Я першы запісваюся ў яе. Заўтра я выходны ў тэхнікуме, застаюся на другую зьмену, дапамагчы стругальшчыку Файну вылезьці з прырыву. Я скончыў і выклікаю ўсіх кваліфікаваных комсамольцаў.

— Правільна, Аркадзь! Малайчына!

— Качаць яго!..

— Качаць!

*

— Ліха яго ведае. Шукаю ўжо з паўгадзіны. Як праваліўся,— злуецца Янка, падышоўшы да Аркадзя ў час працы.

— У чым справа?

— Рымара шукаю. Ты яго нідзе ня бачыў?

— Не, ня бачыў.

Рамень парваўся, а тут хоць здохні. Аблётаў усе цэхі, а рымара, як ня было. Вось табе і ўшчыльненьне дня.

— Але,—штосьці раздумваючы, каротка прагаварыў Аркадзь. Выпадак з Янкам прымусіў моцна задумацца.

— А колькі гадзін трацілца на пошукі кожны дзень. Не, так далей цягнуцца ня можа,—разважае Аркадзь.—Трэба знайсьці выхад.

Аркадзь задумаўся. Па чарзе ў думках перабірае зьявіўшыяся прапановы. А што, каб прапанаваць днявальнаму рымару і электраманцёру пакідаць запіску куды ён пайшоў. Потым спыніўся на адным і гэта, па думцы Аркадзя самае найлепшае—зрабіць паказчык з двума стрэлкамі (адна для рымара, другая для электраманцёра). На паказчыку павінны быць абазначаны назвы ўсіх цэхаў. Вось гэтыя стрэлкі і пакажуць, куды яны пайшлі. Пасьля працы Аркадзь з насьпех зробленым эскізам бяжыць у бюро рацыяналізацыі. Праз тры дні каля дзьвярэй пакою днявальнага электраманцёра і рымара прыбілі паказчык: „Куды я пайшоў“.

— Малайчына. Лоўка прыдумаў,—кажа Янка, хлопаючы па плячы Аркадзя.

— Будзь упэўнен. Шукаць дарэмна ня прыдзецца.

*

У габінэце быў адзін Язэп Чайкоў, калі Аркадзь зайшоў да яго.

Да рэчы, Аркадзь Сяменавіч. Вы трапілі самі,—гаворыць Чайкоў, паказваючы на крэсла.—Сядайце.

— Дарма.

— А я толькі зьбіраўся пайсьці да вас у цэх.

—А па якой гэта справе?

Чайкоў дастае з кішэні складзены кавалак паперы і падае Аркадзю.

— Ніна рыхтуецца сёньня рабіць вячорку і запрашае вас. Вось вам запісачка.

На простым кавалачку паперы было напісана:

ЗАПРАШАЛЬНЫ БІЛЕТ
Аркадзь, Вы запрашаецеся на вячорку, якая адбудзецца сёньня а сёмай гадзіне вечара ў памяшканьн нашай кватэры.
Яўка абавязкова і без спазьненьня
*Ніна.*

А крыху ніжэй: Не сумневайцеся ў дакладнасьці „запрашальнага лету", што ён бяз усякіх формальнасьцяй. Прыходзьце, чакаю". правітаньнем Ніна.

— Так...—усьміхаецца Аркадзь,—дзякуй, што не забываеце.

—Прасіла Ніна перадаць вам, Аркадзь Сямёнавіч, каб абавязва прышлі.

— Між іншым, у мяне сеньня апошні дзень заняткаў у тэхнікуме. ле ліха іх бяры. Адным днём можна афяраваць.

— А што ўжо пачынаюцца вакацыі?

— Але, заўтра.

— Ну дык як, прыдзеце?

Аркадзь крыху памаўчаў, а потым цьвёрда вырашыўшы ісьці, апэўніваючы Язэпа Чайкова.

Так, прыду. Перадайце Ніне, хай чакае.

— Добра, добра, будзем чакаць. Прыходзьце.

— А я, Язэп Язэпавіч, да вас па аднэй справе.

— Калі ласка.

— Бачыце, я пачаў працаваць над вынаходзтвам прыстасаваньня ля фрэзэроўкі адразу трох шпіндаляў. Дык ёсьць сумненьне. Ня едаю, ці зрабіць суцэльнае гняздо, ці то з кавалкаў. Як вы паіце?

— Па-мойму, у апошнім выпадку будзе прагінацца шпіндаль. Іусіць лепей зрабіць гняздо суцэльнае.

— Я таксама лічыў. Паспрабую. Ну, здаецца... усё. Дзякуй вам, ізэп Язэпавіч—падае руку Аркадзь.—Дзякуй.

— Калі ласка. Свайму чалавеку дапаможам. Ну, дык прыходзьце, ркадзь Сямёнавіч. Будзем чакаць.

— Але. Прыду. Чакайце!

Аркадзь вышаў.

Язэп Чайкоў узьняўся з крэсла. Ходзіць па габінэце.

„Між іншым, добры хлапец"—разважае Чайкоў,—нездарма Ніна захапленьні.

Чайкову прыпомніўся нядаўні заводзкі вечар, на якім пазнаёміліся Аркадзь і Ніна.

Аркадзь надта завіхаўся каля Ніны.

„Відаць свой свайго знайшоў "—падумаў тады Язэп Язэпавіч,— Што-ж хай сходзяцца бліжэй, мабыць што і выйдзе.

Аркадзь за свае ветлівыя адносіны падабаецца ня толькі Ніне, нават самому Язэпу Язэпавічу.

„Хлапец што трэба. Ды к таму і матэрыяльна забясьпечаны. Заработак каля двухсот рублёў. Хутка канчае тэхнікум, а там самастойная праца. Гэта значыць матэрыяльна забясьпечаны і надалей. А што яшчэ нам патрэбна? У такім разе, калі толькі па душы адзін другому, дык хай сходзяцца і жывуць здаровы.

Трэба сёньня пасьля вячоркі затрымаць на некаторы час. Пачаставаць добра і прапанаваць бацькоўскую згоду,—вырашыў Чайкоў.— Ен мусіць не адмовіцца, бо ў хлапца, як відаць, скрабе ля душы. Ды яно і ня дзіва".

*

Чр-чр-чр... чуваць скрогат разца, які зьдзірае кару адлітай станіны цэнтральных варштатаў. Ад гэтага скрогату рытмічна прабягае па скуры мароз. Здаецца хтосьці ўключыў провад з сьцюдзёнай вадою ў нэрвы ўсяго цела і тоненькімі струменямі, нібы з помпы запускае за скуру.

Цьвёрдае месца ў чугуне,—робіць вывад Аркадзь, седзячы на крэсьле каля свайго стругальнага варштату.—Пройдзе, дзе яно дзенецца,—ня рушачыся з месца супакойвае сябе Аркадзь. І далей застаецца сядзець, адкінуўшыся на сьпінку крэсла. На гэты раз зьмяніў нагу, закінутую адна за другую. З развагаю пускаючы ўгору дым, аб нечым думае. Па выразу твару магчыма здагадацца, што ад успамін ці ад сьветлых мар адчуваў асалоду. Натравіўшыся, як кажуць, на самую соль, задаволена ўсьміхаецца.

Дзяўчына на „яць",—ціха, прагаварыў пра сябе Аркадзь. Блакітныя вочы Ніны глыбока залезьлі ў нутро. Залезьлі і павольна казытаюць нэрвы, ад чаго робіцца ня ў меру прыемна. Пяшчотны зірк вачэй муляе сэрца Аркадзя.

Аж расплывае пры ўспаміне ласкавых слоў Ніны. Сядзелі тады ў яе пакойчіку. Блізка прыхіліўшыся цёплай жаночай постацьцю, пяшчотна казытала твар шаўковымі валасамі.

Яна неяк дзіўна шаптала.—Сумна бывае часам. Тады нішто ня можа ўзрадаваць, толькі... толькі адно. Спынілася, не даказаўшы ўсяго, ды яшчэ мацней прыхілілася да яго.

Яна спынілася не даказаўшы, але Аркадзь і сам добра разумее сэнс недаказаных слоў. Пры ўспаміне праз гэта, якраз як ад скрогату разца, здаецца хтосьці зноў уключыў провад, ды толькі ня з струменем халоднае вады, а цёплай-цёплай.

Думкі пра Ніну аддзялаюць ад усяго навакольнага. Мабыць яшчэ доўга Аркадзь сядзеў-бы вось так, каб не парушыў яго спакой Пятрусь.

— Аб чым гэта так з захапленьнем марым ці ўспамінаем?— лопнуўшы па плячы, прагаварыў Пятрусь, а потым дадае.—Кінь ламаць галаву. Шчэ прыгадзіцца. Ляпей давай задымім, каб дома ня журыліся.—Аркадзь гультайна падняўся. Так моцна пацягнуўся, здаецца хацеў рукамі стрымаць разьбегшыяся пад стольлю колы трансмісіі.

— Але,—з усьмешкаю прагаварыў Аркадзь,—успамінаем радасныя дзянькі.

Аркадзь падыходзіць бліжэй да варштата. Аглядае.

Разец прайшоў толькі палову апрацоўваемай паверхні.

Можна прагуляцца,—упаўголаса прагаварыўшы Аркадзь накіроўваецца ўздоўж цэху. Насустрач яму рабочыя вязуць станіны для апрацоўкі на яго варштаце.

Таварышы Мяккі, дзе іх там скінуць?

— Скіньце дзе-небудзь,—суха прагаварыў Аркадзь, потым, адвярнуўшыся, моцна сплюнуў.

— Абрыдла мне гэта.

Заклаўшы рукі за сьпіну, павольна ідзе далей. Павярнуў у вузкі праход сярод варштатаў, падыходзіць да Пятруся.

— Ну, як там было?—цікавіцца Пятрусь.

— А як на твой погляд?

— Я лічу наша ні дзе не прападзе.

— Будзь упэўнен з усьмешкаю сьцьвярджае Аркадзь.

— Пэўна хутка будзем рабіць запоіны?

— А гэта ўжо паглядзім, шансы маю добрыя. Адным словам справа, што трэба.

— Дык ты ламаеш галаву, што рабіць?

— Не, разумееш, успамінаў пра ўчорайшы вечар...

Доўга апавядаў Аркадзь пра свае навіны.

А калі несьпяшаючыся, падышоў да варштата, спачатку крыху спалохаўся. Але так было ня доўга. Хутка настрой зьмяніўся ў адваротны, а потым і махнуў рукой.

— Ліха яго дзяры. Адрамантуюць.

Варштат стаяў сапсаваны. Спыніў яго сусед Яшка.

За час, калі Аркадзь апавядаў Пятрусю свае навіны, разец далёка зайшоў у бок і ўзышоў на тоўстую гайку прыцiскнога балта. Ад вялікай натугі, ад таго што рамень быў моцны, зламалася некалькі зубоў вялікай шасьцёркі, падача стала; скрывіўся валік супарта і сапсавалася шасьцёрка ўключэньня самаходу.

Агледзеўшы, Аркадзь не заўважыў вялікай шасьцёркі, якая знаходзіцца пад сталом.

— Дробязь,—палічыў Аркадзь, і накіраваўся да рамонтнага сьлесара.

— Таварыш доктар, захварэў варштат. Бюлетэнь трэба выпісаць.

Неўзабаве прышоў сьлесар. Пільна агледзеўшы варштат, памацаў пад стол і адышоў у бок.

— Здорава!

— А што такое?—зьдзіўляецца Аркадзь.

Сьлесар паказвае яму вялікую шасьцёрку паддачы. У ёй зламалася пяць зубцоў.

— Здорава!—Ніто ад зьдіўленьня, ніто ад бесклапотнасьці з усьмешкай прагаварыў Аркадзь.

— Тыдні два працягнецца,—абціраючы анучаю рукі, дае заўвагу сьлесар.

— Што, рамонт?

Але.

„У такім разе можна пагуляць“,—прамільгнула ў галаве Аркадзя.— „Які шанс. Як на тое і ў тэхнікуме ўчора пачаліся вакацыі. Аркадзь вольны... Ніна... Яна наогул нідзе не займаецца і не працуе. Гуляй хлопча“—У думках усплываюць вечары, якія ён будзе праводзіць разам з Нінаю.

*

Гадзіньнік у пярэднім пакоі адбомкаў дванаццаць, калі Пятрусь з таварышкаю Ніны пайшоў да хаты. У пакойчыку засталіся Аркадзь і Ніна.

Сьцены пакойчыку абвешаны рознымі здымкамі і малюнкамі. Пасярод усіх вылучаецца адзін малюнак, зьмешчаны ў добрыя рамкі пад шклом. Відаць мастак з густам маляваў яго, бо глядзеўшы на гэты малюнак ствараецца ўражаньне, як быццам прад табою сапраўдны малюнак прыроды.

Пасярод вялікага саду, шалёна нясе сваю ваду рэчка, паабапал абросшая прыгожымі кустамі розных выглядаў. Каля самага берагу пад густым кустом чаромухі праводзіць час парачка. Гэты малюнак

Ніна прыглядае больш за ўсіх. Ён надта ёй падабаецца. Увесь пакойчык выглядае ўтульным, бо ўсе рэчы расстаўлены гаспадарскай рукой з добрым густам.

На мяккім дыване сядзяць Аркадзь і Ніна. Шчыльна прытуліўшыся адзін да другога разглядаюць маленькую кніжку Шора—„Што такое мяшчанства“.

Ніна часам то расплываецца гіронічным сьмехам, то моцна абураецца.

—... А я лічу, якая каму справа, напрыклад, хоць-бы і да мяне. Уявім сабе, што я працую ў якой-небудзь установе. Працую я таксама, як і другія. Кожны з нас ведае сваю справу. Працуем, атрымліваем належную пэнсію. У такім разе, што павінна стаяць на першым пляне?

— Бязумоўна, упарадкаваньне асабістых інтарэсаў. Упарадкаваньне ўласнага дабрабыту,—адказвае Аркадзь на пытаньне Ніны.

— Дык вось, клопаты аб тым, калі я сёньня працую, я павінна сёньня-ж жыць, як гэта мне пажадаецца. А спадзявацца на заўтра я ня думаю,—павышаным голасам гаворыць Ніна.

— Але,—суха прамовіў Аркадзь і адкінуўся на сьпінку дывана.

— У час працы,—гаворыць далей Ніна,—ад мяне могуць патрабаваць усё чаго патрабуе справа; а далей ужо дазвольце выкарыстоўваць час, як гэта мне пажадана. Цябе цікавіць сход,—калі ласка. А я хачу пайсьці, як чалавек, у тэатр ці кіно, дык дазвольце няўмешвацца ў маё асабістае жыцьцё. Я толькі так разумею адносіны асабістага да агульнага. Толькі на падставе добраахвотнасьці.

Так, Ніна, інакш і быць ня можа. А разумееш, у нас на заводзе ня так даўно здарылася цікавая рэч. Справа была з гэтым самым Пятрусём. Аднойчы пасьля працы зьбіраўся агульны сход рабочых. Абгаварвалі колумову. Ну, а хлапец павінен быў пасьці на спатканьне. Сама, ведаеш, пайсьці ў такім разе трэба было дазарэзу. А ён хлапец такі, хавацца ня будзе. Проста і сказаў:— Трэба пайсьці ў кіно на спатканьне.—І што ты думаеш, зараз-жа пачалі бузіць і ўляпілі суровую вымову па саюзнай лініі і перадалі на разгляд комсамольскай ячэйкі.

— А мяне, Аркадзь, гэта абурае. Абурае таму, што я асабістае стаўлю на пярэдні плян,—з пагардаю ґаворыць Ніна і кідае кніжкі на стол.

— Цікавая рэч,—дадае Аркадзь, узьнімаючыся з дывана.

Праводзячы Аркадзя ў корыдор, Ніна прасіла заходзіць часьцей да яе. Просьбу падмацавала моцным пацалункам. Аркадзю пацалу-

нак здаўся такім гарачым, здаецца ён мог-бы разагрэць, расчуліць сэрца ня толькі ў цёплым пакойчыку, ня толькі ў гэтым цёмным корыдоры, дзе значна халадней, але нават і ў самы моцны мароз на двары.

Апынуўшыся на вуліцы, Аркадзь спачатку не адчуваў моцы сьнежанскага марозу. Вышаў за браму, мэханічна спыніўся на хвіліну, а потым павольна накіраваўся ўздоўж вуліцы. Хвілін пяць ішоў, не надаючы шпаркасьці. Сэрца было расчулена пяшчотамі Ніны. Мусіць ад гэтага ён і ня мог накіраваць думкі ў адным напрамку. А яны так і лезьлі роем адна за другою. Вобраз Ніны яскрава акрэсьлены выплывае поплеч і прад самым тварам.

Пры звароце на галоўную вуліцу пaглядзеў на гадзіньнік, вісячы на рагавым доме. Было тры гадзіны. Вуліца апусьцела. Толькі вартавы міліцыянэр, укутаўшыся ў цёплы вялікі кажух, тупаў на скрыжаваньні вуліц.

*

Калі Аркадзь апранаўся пайсьці, у гэты момант хтосьці пастукаў у дзяверы, пачуўся голас.

— Можна?

Па голасу Аркадзь распазнаў Пятруся,

— Калі ласка. Заходзьце.

— Вашы кажаш, толькі прачухаліся,—падаючы руку загаварыў Пятрусь.

— Але. Няма куды сьпяшацца. Ну, расказвай, што новенькага, Пеця?

— Як кажуць, ліха ціха і добрага ня чуваць. А куды гэта ваша ягомасьць зьбіраецца?

— Ды вось надумаўся прайсьці ў завод. Здаецца сёньня грошы будуць даваць.

— Але,—пры гэтым Пятрусь адкінуў у бок палу паліто, засунуў руку ў кішэню гарнітура.—Але... потым паставіў на стол паўлітроўку.

— Пакуль што якое, давай маю крыху падмочым.

— Хіба ты ўжо пасьпеў атрымаць?

— Так-с точна, ваша высоканізкаходзьдзе—казырнуў Пятрусь. Аркадзь дастаў з-за акна кавалак сала і ў гаспадыні раздабыў салёных гуркоў.

— Кажаш падмочым, каб не рассохліся.

— Хай бог дае, каб і твае ня былі пакрыўджаны,—жартуе Пятрусь.

— Бязумоўна не пакрыўдзім. За компанію, кажуць, афяруюць жыцьцём.

— Вось, што, Аркаша. Я атрымаў двухтыднёвы адпачынак. Едзем разам да бацькоў. А? Сёньня і ты атрымаеш грошы. От пагуляем. Ну, як?

Так-то-так. Паехаць я ня супроць. Але ня ведаю, як тут зрабіць. Сам ведаеш, мне-ж адпачынак не прадстаўлены,—крыху раздумваючы, заўважыў Аркадзь.

— А сёньня ў цябе адпачынак?

— Сёньня ў мяне дзень адпачынку, а заўтра мусіць пайду.

— Кінь, Аркаша,—дамагаецца свайго Пятрусь.—Паедзем. Разам весялей,—потым, стукнуўшы Аркадзя па плячу, дадае,—от пагуляем.

— Ня ведаю,—трымаецца Аркадзь.

— Ты-ж сам гаспадар. А ня ведаю. Падумай, добры выпадак. У тэхнікуме вакацыі, на заводзе рабіць няма чаго.

— Як гэта, няма чаго рабіць?

— Ды вельмі проста. Варштат у рамонце і справа з канцом.

— А мне прапанавалі працаваць на другім варштаце. Ты ня ведаеш?

— Кінь глупства церці. Прыедзеш, калі адрамантуюць варштат і добра. Напрацуешся, пасьпееш.

Пад уплывам хмелю лапатаў Пятрусь.—Ну, доўга ня думаючы, раз-два і гатова.

—Падумаю.

— А я кажу, давай паедзем, доўга ня думаючы. От і ўсе тут,—нясьціхае Пятрусь.—Ну як? Толькі ня будзь бабаю. Тут бывае толькі ўпрасіць цяжка. Ну, едзем?

— Добра, едзем,—нарэшце здаўся Аркадзь.

— От люблю за гэта. Так-бы і даўно. Дай руку, Аркаша. Дай пацалую. Так-бы і даўно.

*

Падыходзілі да канца апошнія дні першай паловы сьнежня. У адзін з гэтых дзён пагода была якраз, як у самы цёплы вясновы дзень, калі пачынае рушыцца сьнег ад цяплыні ў паветры.

З самага ранку па вуліцы сьцелецца рэдкі тумам. Сярод вуліцы блішчаць невялічкія лужыны вады. У паветры пахне вільгацьцю.

Закутаўшыся ў цёплае сібірскае паліто, едзе на рамізьніку Язэп Чайкоў. Ад кепскай пагоды моцна ломіць ногі. Трашчыць галава, асабліва ў час кашлю. А сёньня, як на тое ліха, Язэпу Язэпавічу кашляецца, як ніколі.

— Ну і пагода, праваліцца-б ёй,—гаворыць Чайкоў, зьвяртаючыся ніто да рамізьніка, ніто сам да сябе. А потым у галаве праміль-гнула думка.—Непашкодзіла-б даведацца на курорт. Ды як тут зрабіць? Цэхкомам конторы, дзе працуе Язэп Чайкоў, атрымана адно курортнае мейсца, ды і тое, бясспрэчна, аддадуць маладому тэхніку Сьцябайлу. І гэта бесспрэчна. Хлапец хварэе на сухоты. У дадатак мае даведку ад доктара аб неабходнасьці курортнага лячэньня. Нават і ў Язэпа Язэпавіча больш перавагі за тое, што пашлюць Сьцябайлу.

— Але падумаць, чым я хужэй за гэтага, можна сказаць, блазь-нюка,—разважае Чайкоў.—Ён-жа на заводзе працуе толькі адзін год пасьля сканчэньня тэхнікуму. А Язэп Язэпавіч, якога ў свой час на іншых заводах паважалі гаспадары за яго працу, на гэтым заводзе працуе тры гады, і займае пасаду галоўнага інжынэра. За плячыма мае трыццацігадавы стаж інжынэрскай практыкі. Галава ўжо пасівела ад доўгай працы. І Язэпа Язэпавіча можна паважаць толькі за яго старыя гады, за яго пасівеўшыя, напалову страчаныя валасы. Толькі падумаць, на чыіх плячох ляжыць увесь цяжар тэхнічнай працы? Бязумоўна, на стомленых плячах Язэпа Язэпавіча. Калі адказваць за тэхнічную працу заводу, адказвай гэты-ж самы Язэп Язэпавіч, а на курорт знойдзецца які-небудзь сапляк Сьцябайла.

— Не,—з абурэньнем у голасе прагаварыў Язэп Язэпавіч.— Трэба сёньня як сьлед пабудзіць. Мабыць што і выйдзе.

— А не пашлюць,—разважае далей,—ліха іх дзяры. Знойдзем добрых людзей, якія будуць паважаць старога Язэпа Язэпавіча. Трэба свае інтарэсы абараняць. А Язэп Язэпавіч, будзьце ўпэўнены, упарта будзе абараняць асабістыя інтарэсы. Язэп Язэпавіч ня з тых, каб раскідаца з сваім здароўем. Не. Спачатку дайце, а потым ужо атрымаеце.

— Калі ласка,—перабівае думкі Чайкова рамізьнік, спыніўшыся каля заводзкай брамы.—Прыехалі. З хуткасьцю не па сваіх гадох Чайкоў саскаквае з павозкі. Насьпех разьлічваецца з рамізьнікам і шпаркімі крокамі накіроўваецца ў свой габінэт. „Трэба дзейні-чаць“,—цьвёрда вырашае Чайкоў.

— А, Сямён Сямёнавіч, маё вам,—падае руку старшыні цахкому конторы Бузаку, спаткаўшыся ля выхаду заводзкай конторы.

— Якраз вы мне патрэбны. Справа да вас ёсьць.

— А менавіта?

— Бачыце... Сямён Сямёнавіч, справа хаця, можна сказаць, асабістага характару. Але...

*

Пад вечар Ніна прышла дамоў. Гуляла ў таварышкі Ганны. Ня гулялася Ніне. Адчувала самоту, ня гледзячы на тое, што раней з большай ахвотай праводзіла час у Ганкі. А зараз штосьці рабілася нудна, так і цягнула дамоў.

На вуліцы мітульгою лёталі драбнюсенькія кропелькі зімовага дажджу. Такія бываюць толькі ў вялікую адлігу. Пераблыталіся мітульга з надыходзячым змрокам і змрок робіцца яшчэ больш густым і шэрым.

Ніна, прышоўшы дамоў, запаліла электрычнасьць і стомленай прылегла на ложку.

„Няўжо-ж ня прыдзе і сёньня“? У галаву цягучай істужкаю прапаўзло: „Ён кінуў... Адцураўся. Недзе знайшоў прытульнейшы куток і цяплейшыя пяшчоты. Цяплейшыя за тых, што дарыла яна. Вужакаю падпаўзла злосьць на „яе“, а на каго. Ніна ня ведала. Умоўна спынілася на Гэлі, ранейшай таварышцы па школе (вучыліся разам у сямігодцы). Так і будзе. Я нікчэмна... Яе бацька ў трэсьце... Добрая кватэра... Піаніна... А Аркадзь любіць піаніна... Сьцерва, ёй мала хлапцоў. Адрывае таго, хто мілей за ўсё,—абураецца Ніна. Разам з гэтым расла крыўда на сваю нікчэмнасьць. Незадаволенасьць бацькавай пасадаю, невялікай пэнсіяй і беднасьцю хатняга ўбраньня надавала больш крыўды. Расла крыўда таму што яна ня можа задаволіць Аркадзя, бо ня мае Гэлінага багацьця.

Расла крыўда...

А за акном гусьцеў шэры змрок і мітульгою лёталі драбнюсенькія кропелькі дажджу.

І ўсё здавалася шэрым, шэрым нібы змрок.

*

Ніна пасьля сканчэньня сямігодкі нідзе не працуе. Матка ня турбуе яе хатняй працай і яна з ранку падоўгу ляжыць у пасьцелі. Сёньня Ніна ўжо даўно ня сьпіць. У галаву назойліва лезуць думкі пра ўчарайшыя хвалюючыя моманты. Каб забыцца на момант аб усім, з галавой хаваецца пад коўдру. А крыўда надпаўзае халоднаю гадзюкай...

— Ніна, ты сьпіш?—пачуўся матчын голас.

Ніна скінула з галавы коўдру.

— А ў чым справа?

— Табе ліст.

Хутка саскочыла з ложку. Праз адчыненыя напалову дзьверы матка падала ліст. Па надпісу на канвэрце Ніна пазнала—ліст ад

Аркадзя. Дрыжэлі рукі. Да сэрца падыходзіла гарачыня. Пільна ўпіўшыся вачыма ў ліст, чытала:

„Любая Ніна. Я ўпэўнен, што цябе зьдзівіць нечаканасьць. Толькі ты прабачай мяне. Ня крыўдуй, што я паехаў моўчкі з гораду. Я зараз у вёсцы ў сваіх бацькоў. Бацькі жывуць бедна. 'Шчэ ня ў колгасе. Але пра гэта пісаць ня буду доўга. Ведаю, цябе менш за ўсё цікавіць гэта.

„Ведаеш, Ніна, надта сумна. Неяк марудна цягнецца час. Тыдзень здаецца годам. Сумна, Ніна, мабыць таму, што зараз ня бачу цябе. Мабыць таму, што я кахаю цябе, толькі цябе.

„Вось, пішу ліст, а мне здаецца гутару з табою. Гляджу ў кавалак паперы і ў ім бачу твае вочы, якія, мне здаецца, так прывабна глядзяць на мяне. Я бачу вочы, якія змаглі зацягнуць мяне павуцінаю чароўнасьці. А зараз я жыву толькі для цябе...

„...Так, але гэта толькі мары, толькі сьветлае ўяўленьне таго, што я перажываў тыдзень таму назад. Гэта натхненьне расьцьвіло дзякуючы лісту, бо ў яго я ўкладаю сваю душу. На гэты момант я забыўся пра тое, што сяджу вось тут адзін... А закончу ліст зноў адчую—ты там, а я тут.

„Ведаеш, Ніна, нікольні ня радуюць матчыны пяшчоты А яна ледзь ня носіць на руках. Угаварвае пабыць яшчэ хоць некалькі дзён. Шкада крыўдзіць старую матку, а то я прыехаў-бы на другі-ж дзень назад. Мабыць я і зусім не паехаў-бы дамоў, але мой таварыш Пятрусь, ты яго добра ведаеш, атрымаў двухтыднёвы адпачынак і зацягнуў мяне разам з сабою. Ён жыве таксама ў вёсцы, у пяцёх кілёмэтрах ад мяне.

Прабачай, Ніна. Я хутка зьвярнуся.

Перадай прывітаньне тваім бацьком. Я надта ім ўдзячны за іх адносіны да мяне.

„Ну, бывай. Да хуткага пабачэньня.

Моцна цалую...

Твой Аркадзь".

„Р. S. Між іншым, я непакоюся, каб ня выйшла якая там буза на заводзе. Разумееш, я самавольна паехаў дамоў. Але там пабачым".

Аркадзь".

II

Аркадзь спаткаў начальніка цэху ў дзьвярох яго габінэту. ...пошні шпарка накіраваўся да брыгады па зборцы торфмашын.

— Таварыш Мінкін, я да вас,—пачаў гаварыць Аркадзь, жада...чы спыніць начальніка цэху. Але брыгадзіру торфмашын не ча...алася і ён сьпяшаўся, амаль не цягнуў Мінкіна за рукаў.

— Хадзем, хадзем,—хваляваўся брыгадзір.—Час дораг.

— Пайшлі,—прагаварыў начальнік і ўжо на хаду кінуў Мяккаму:

— Пачакай.

Аркадзь зайшоў у габінэт. Прысеў каля стала, пачаў разгля...аць чарцяжы торфмашын, якія ляжалі параскінутымі на стале.

„Складаныя, чорт падзяры",—падумаў Аркадзь, а потым,—...ьпяшаюцца людзі. Тэмпы даюць,—пры гэтым Аркадзь гіронічна ...хмыльнуўся.

— Але-ж і я некалі дурнем быў. Сьпяшаўся. А зараз перадумаў, ...ьпяшайся не сьпяшайся, а ўсяго не пераробіш. Хай сабе сьпя...аецца хто хоча, а мы, як кажуць, па маленькаму. Цішэй едзеш—...алей будзеш—кажа прыказка...

— Ну, у чым справа?—пытае Мінкін увайшоўшы ў габінэт ...пачаў перабіраць чарцяжы, якія толькі што ад нечага рабіць ...азглядаў Аркадзь.

Не сьпяшаючыся, уласнай яму манэрай, Аркадзь на гэты раз ...амусьці яшчэ марудней пачаў выціскаць словы.

— Я, бачыце, гутарыў з майстрам. Ён накіраваў да вас.

— А ў чым справа?

— Бачыце... трэба будзе выпісаць прастой варштата за два ...ыдні.—А потым, крыху памаўчаўшы, дадае, рамантавалі... Зусім ...язвычайныя выходзілі гэтыя словы. Штосьці нерашуча вылазілі ... вуснаў. Іх Аркадзь палохаўся.

— А дзе-ж гэта ты прападаў увесь час?—накіраваўшы позірк ... твар Мяккага,—пытае Мінкін. Ён ужо даўно ведае, што Мяккі ...дмовіўся працаваць на другім варштаце і два тыдні ня выходзіў на ...рацу. Погляд яго абдае холадам Аркадзя. Ад гэтага погляду нельга ...пакойна сядзець на месцы. Узьняўся Аркадзь, стаў каля стала ...прыдушаным голасам прагаварыў.

— Па надта важнай справе трэба было... ехаць дамоў.

— Так. А цэхавую адміністрацыю даводзіў даведама?

— Здаецца... Не... Забыўся.

Аркадзь пачаў сапраўды адчуваць, што справа прымае непажа...аныя вынікі.

Спакойны погляд Мінкіна холадам абдаваў усё цела. Адчуваючы гэта, Аркадзь імкнуўся не глядзець у вочы. Погляд накіраваў на падлогу. У руках нэрвова сьціскаў мундштук ад папяросы. Крыху ўзьняўшы галаву, на момант заглянуў у твар Мінкіна і ціхім голасам запытаўся.

— А як будзе з грашыма?—і ізноў, нібы ў чаканьні прысуду схіліў галаву і погляд накіраваў на падлогу.

— Плаціць грошы за прагулы я адмаўляюся, тонам адміністратара адказвае Мінкін.

Аркадзь рашуча ўзьняў галаву. Кінуў у бок пацёртую трубку.

— У такім разе я адмаўляюся працаваць, пакуль ня выпішаш грошы.

—Справа твая. А за прагулы і адмаўленьне два разы ад працы, звальняю цябе з заводу.

Ня тое, каб спалохаўся Аркадзь гэтых апошніх слоў, якія ён чакаў нібы пастановы суду. Не. Але зрабілася непасабе. Таму зусім прыдушаным голасам нерашуча прагаварыў.

— Як сабе хочаш,—з гэтым і вышаў з габінэту.

Калі толькі адчыніў дзьверы, яго абдало цэхавым гулам. На гэты раз гул нязвычайна рэзаў вушы. Здавалася ня вытрымае, не перанясе яго Аркадзь. Хацелася пабегчы некуды, але толькі туды, дзе няма ні гэтага шалёнага гулу, ні гэтых людзей.

Хістаючыся, накіраваўся ўздоўж цэху ў напрамку да свайго варштата. Узварушаны ўсім нутром, ціха сьпявае: „Зачем ты меня целовала, жар безумный в душе затая“... — сьпяваў Аркадзь машынальна. Словы ня просячыся самі лезьлі з вуснаў. На гэты раз яны былі зусім не такімі, якія добра знаёмы Аркадзю; якія пад час бывала расчуляць сэрца ў самаго і мабыць яшчэ чыё-небудзь. Не, зусім не такімі былі гэтыя словы. Яны надавалі большай болі і Аркадзь адчуваў яе ўсёй істотай.

Каля варштата, апраняючыся, абцёр рукавом спацелы твар, ціха прамовіў:—Звар'яцець можна.

*

Праз хвіліну пасьля гудка каля дзьвярэй у цэху сабраўся вялікі натоўп. Усе спыніліся прачытаць сёнешні загад па мэханічным цэху.

— Эй, хлопцы! чытай гучна, хто пярэдні,—чуваць з натоўпу нейчы голас.

— І сапраўды, чытай Янка, а то ў жываце крыху тае.

Ціха зрабілася ў натоўпе, толькі чуваць гучны голас Янкі.

**„...На падставе парушэньня правіл унутранага распарадку, што выявілася ў двухтыднёвым прагуле Мяккага, дзякуючы адмаўленьню ад працы на другім варштаце (яго варштат знаходзіўся ў рамонце) з патрабаваньнем аплаты яму двухтыднёвага прастою, Мяккі здымаецца з працы.“**

**Начальнік мэханічнага цэху—Мінкін.**

У гэты час Аркадзь праходзіў міма. Ён ведае сёнешні загад, таму і ня спыняецца чытаць. Ды хоць-бы і не ведаў, пэўна ня спыніўся-б зараз. З пачырванеўшым тварам, апусьціўшы галаву ўніз, хуткімі крокамі мінае натоўп. Як на цуда глядзяць рабочыя, адвярнуўшыся ад загаду. Глядзяць, як быццам-бы ніколі ня бачылі Мяккага. Пэўна ў гэты час кожны падумаў—„даскакаў малы“.

*

Вечарам Аркадзь рашыў заліць гора. Пасьля трох куфляў піва хмель апавіў галаву, недзе ў глыбіні душы раджаецца самае блізкае, самае мілае сэрцу—гэта Ніна. Бачыць яе, яе блакітныя вочы, якія могуць супакоіць усхваляванае сэрца.—„Трэба зайсьці“—вырашае Аркадзь. Хістаючыся ў бакі, накіраваўся да выхаду з піўной.

— ...тваю маць...—моцна вылаяўся, зачапіўшыся за крэсла нагою. Бадай не паляцеў, але затрымаўся за стол.

— Кажаш дарога вузкая нашаму брату,—з усьмешкай зазначыў нейкі дзядзька, седзячы на другі бок стала.

— Дармо, на нашым базары сойдзе,—лена махнуўшы рукой адказаў Аркадзь.

Сьнежаньскі мароз казытае за нос і вушы. Вецер цярэбіць пасму валос, што непаслухмяна вылезьлі з-пад шапкі.

Аркадзь, хістаючыся, зварочвае ў вуліцу, дзе жыве Ніна. Пад уплывам хмелю ціха сьпявае:

„Не такой уж горкий я пропойца,
Что-б тебя невидя умереть“...

Вецер ахалоджвае твар. У галаву міжвольна пасмаю лезуць думкі пра завод, пра сёнешняе здарэньне. Назойлівая думка пра сход у час абедзеннага перапынку непакоіць Аркадзя. Прад ім паўстае цэлы шэраг заблытаных пытаньняў, заблытаных нібы вузел: „Няўжо-ж яно так і будзе? Няўжо-ж прыдзецца разьвітацца з комсамолам і тэхнікумам?..

„Пагаварыць з Нінай і яе бацькам, што яны параяць“.

У палоне гэтых думак Аркадзь ня прыкмеціў, як апынуўся каля ганку Нінінай кватэры.

— Ногі ўжо самі ведаюць куды ісьці,—жартуе ўпаўголаса Аркадзь, ступаючы ўверх па ўсходах.

— Ніна дома?—замест прывітаньня пытаецца Аркадзь у Мар'і Піліпаўны.

— Дома, заходзьце. Яна там у сваім пакойчыку.

Павольна ступаючы, быццам нашчупваючы падлогу, накіраваўся да пакою Ніны. Праходзячы праз пярэдні пакой, як мага трымаўся, каб не заўважыла гаспадыня, што ён сёньня заліў за гальштук. Язэпа Язэпавіча дома ня было. Ніна ў сваім пакойчыку чытала кніжку. Хутка падскочыла і прывітаўшыся, пачала дапамагаць распранацца,

— А я і не распазнала па голасу.

— Значыць буду багат,—гіронічна заўважыў Аркадзь.

— А хіба-ж гэта кепска?

Далей Аркадзь нават і ня слухаў, што гаварыла Ніна. Зьвесіўшы галаву, хадзіў па пакойчыку.

Ніна, прысеўшы на дыване, пільна ўглядаецца ў твар Аркадзя Потым узьнялася. Падышла бліжэй і бярэ рукой за плячо.

— Што з табой?

Аркадзь на момант прыпыніўся, паглядзеў у твар Ніны. На гэты раз нічога не адказаўшы, пачаў хадзіць узад і ўперад.

— Ты мусіць хворы, Аркадзь?—зноў пытаецца Ніна. У голасе чуваць неспакой.

— Так. Хворы. Але хвароба горшая за тую, якую ты маеш на ўвазе. Ніна ўзяла Аркадзя за руку і пасадзіла побач з сабой на дыване. Як добра адчуваць блізкасьць самага мілага сэрцу чалавека. Ад пульхных рук Ніны цяпло прабягае праз усё цела. Яна пяшчотна глядзіць пасінеўшыя рукі Аркадзя.

— Дык ты гаворыш глупства ўсё гэта?—нібыта ня ўцяміўшы накіраванасьці слоў Ніны перапытвае Аркадзь.

— Але, глупства. Хіба ня знойдзеш другога месца?

— Ведаеш, Ніна, справа ня ў месцы, а комсамол і тэхнікум.

— Ну і знайшоў аб чым бедаваць. Галоўнае комсамол,—ухмыляецца Ніна.

Аркадзь рашуча ўздымаецца. Нэрвова ходзіць па пакойчыку.

— Не, я ня згодзен залазіць далей у нерат. Трэба заўтра пайсьці ў комсамольскі колектыў, прызнаць памылку.

— А я не рабіла-б,—намагаецца зноў угаварваць Ніна. Аркадзь спыніўся на момант. Рашучым позіркам уставіўся на Ніну. Яна працягвала далей.

— Ты вучышся на трэцім курсе тэхнікуму. Звальненьне табе нічуць не пашкодзіць надалей...

— Чаму гэта так думаеш?—спыняе яе Аркадзь.

— Надта проста. Бацька мой, сам ведаеш, працуе ўжо на другім заводзе. Загадчыкам тэхнічнага аддзелу. Дык вось, аднойчы ён мне казаў, калі толькі будзе твая згода, ён возьме цябе працаваць да сябе ў якасьці тэхніка.

— Так,—суха прагаварыў Аркадзь.

— Гэта адно,—кажа далей Ніна.—А па-другое, падумай, ці лёгка афяраваць сваім гонарам? Я гэтага, Аркадзь, ніколі не зрабіла-б. Аркадзь апынуўся на раздарожжы. Ён добра пачаў адчуваць гэта. Рэшта яго сьвядомасьці гаварыла. Неабходна зьвярнуцца ў завод. Прызнаць памылку і застацца працаваць; ды толькі працаваць так, каб па працы сапраўды было відаць яго перараджэньне". Але ў супроцьвагу, голасам Ніны, ды толькі ўжо ня проста з вуснаў самой Ніны, а аднекуль з глыбіні Аркадзевай душы штосьці нашэптвае.—„Кінь, махні рукой. Глупства, хіба шкадуеш бруднай працы? Кінь! Будзеш працаваць тэхнікам разам з Язэпам Язэпавічам. Ён добры чалавек, свайго ў крыўду ня дасьць. А камсамол... знайшоў па чым бедаваць. Кінь!"

Аркадзь ня ведае, што адказаць ні самому сябе, ні Ніне. Потым спыніўся і суха прагаварыў.—Падумаю,—і крыху памаўчаўшы, дадае.

— Але каб ня было хужэй.

— Глупства, Аркадзь, гэта, папрацуеш, а потым і далей можна вучыцца. З сваім чалавекам ніколі не прападзеш.

*

Моцна адчуваючы стому, Аркадзь позна вечарам звяртаўся дамоў. Хмель прайшоў, але галава кружылася яшчэ горш. Цела апанавала млявасьць. Здаецца паваліўся-б вось тут на мяккі сьнег і паляжаў-бы доўга-доўга, пакуль не забыўся-б пра жорсткія зьявішчы жыцьця.

А ногі так і адмаўляюццаісьці. Быццам іх хтосьці моцна прывязвае да ледзянога насьцілу.

— Хутчэй-бы дацягнуцца да кватэры,—вяла гаворыць Аркадзь. З вялікаю натугаю ступаючы па лесьніцы, спаткнуўся, затрымаўся

рукамі, але крыху патрымаўся і лбом за пярэнчы. Узьняўся, памацаў за лоб. Пакуль што не заўважыў ніякіх зьмен.

*

Змрок сьнежаньскага раньня пазірае праз вокны. Прабраўшыся праз абледзянелыя шыбы, у пакоі робіцца яшчэ больш густым і шэрым. Здалёк, ледзь чуваць, даносіцца гул заводзкай сырэны. Гул здаецца зусім хрыпатым, мусіць таму, што ён далятае аднекуль здалёк, ці, мабыць, Аркадзь з прассонку слаба яго адчувае

Праз пяць хвілін, чуваць, моцна завыла сырэна. Аркадзь распазнае—гэта гудзе сырэна заводу, дзе працаваў і ён ня так даўно Яму робіцца боязна, бо гул прарэзьлівым крыкам балюча закранае струны ўсхваляванага сэрца. Каб заглушыць шалёны гул, Аркадзь нэрвова нацягвае на галаву коўдру. А ён, амаль, з гэткаю сілай далятае да вушэй і зараз. Чамусьці на гэты раз сырэна выла надта доўга, ці мабыць так яму здавалася, і неяк зусім нязвычайна. Зусім ня так, яшчэ ўчора, гэты гул спаткаў Аркадзя каля заводзкай брамы. Прад ім выплывае малюнак заводзкага раньня. Рабочыя сьпяшаюцца да сваіх варштатаў, хутка апранаюцца ў запэцканую мазутай блюзу. Яму здаецца ён таксама сярод запэцканых блюзале ў выходным адзеньні. Аркадзь баіцца запэцканых блюз, абыходзіць бокам. Цураецца сваёй учарашняй постаці. Праходзіць міма свайго варштата, імкнецца абмінуць, нават поглядам, бо адчувае дакорлівы зірк, накіраваны проста на яго—дэзэртыра вырорчага фронту.

Адчуваючы самоту, ня ведае куды дзявацца. Спрабуе падыйсьці да сваіх ранейшых таварышоў, але і там не знаходзіць месца. Кожны адварачваецца. Ён апынуўся сярод чужых, дый к таму нядобрых людзей. Пераводзіць погляд на акно. Яму здаецца, каля вакна мільганула постаць Ніны. Аркадзь задыхаецца, бяжыць уздоўж цэху да выхаду. З шпаркага разьбегу, абмінаючы вагонэтку, спатыкаецца на кучку дэталяй. Ляціць на падлогу і моцна разьбівае лоб.

Ачнуўся Аркадзь. Высоўвае з-пад коўдры ўспацелую галаву, азіраецца, не разумеючы, што з ім робіцца, крыху ўзьняўшыся працірае пальцамі вочы, зноў азіраецца.

Галава так і трашчыць. У дадатак моцна адчуваецца боль ад гуза.

— Дык што-ж рабіць?—пытае сябе Аркадзь, памацаўшы за лоб. На пытаньне не знаходзіць сталага адказу. Доўга думае над гэтым,

зьбірае разьбітыя думкі і вырашае: „Сёньня ня ісьці ў завод. Сорамна паказвацца з ліхтаром. Ня інакш палічаць за хулігана, а тады справа, бязумоўна, будзе горш“.

*

Ужо мусіць добрых чатыры гадзіны, як Аркадзь вышаў з дому і бадзяецца па вуліцах. Вышаў зусім не па справах, а проста так, абы толькі правесьці час. Бяз усякай сьвядомасьці, мэханічна паварачвае з аднае вуліцы ў другую. Мэханічна спыняецца каля магазынаў і таксама мэханічна разглядае вітрыны. Пастаіць крыху ізноў працягвае вандраваньне. Аркадзь і сам ня ведае, колькі разоў ён сёньня праходзіў па гэтых вуліцах. Праходзячы кожны раз спыняўся разглядаць вітрыны. Але гэта ён не заўважвае. Не заўважвае таму, што яго зусім ня цікавяць рэчы ў вітрынах, ён іх не прыкмячае.

А ногі пасьля доўгага бадзяньня моцна адчуваюць стому. „Адпачыць-бы крыху“,—прамільгнула ў галаве адна сталая думка, пасьля доўгіх заблытанных думак, ад якіх у галаве не засталося нават ні кроплі чаго-небудзь стала вырашанага. Засталася толькі чорная істужка трухлявых думак, ад якіх так моцна можа балець галава і ўсё цела.

Аркадзь спыніўся пасярод бруку, глядзіць па бакох. Прад ім вялікімі белымі літарамі на шкле дзьвярэй намалявана:

„ПІВА, І ХАЛОДНЫЯ ЗАКУСКІ“.

Падышоў да дзьвярэй, нерашуча спыняецца. Мацае ў кішэні выцягнуў 5 рублёў. Твар крыху павясялеў.

— Хопіць на сёньня.

Ступіў крок уперад, адчыняе дзьверы.

Раптам, зусім нечакана, нейчая рука, стукнуўшы па плячы, прымусіла яго спыніцца.

— Аркадзь!

— А-а, гэта ты Янка?

— Кажаш заліваем,—іронічна прагаварыў Янка.

— Так,—потым, крыху памаўчаўшы, Аркадзь дадае:—Дзе наша не прападала.

— Ідзем!

Аркадзь палічыў, што Янка заве ў піўную, таму, замест запытаньня „Куды?“,—з лёгкай усьмешкай кіўком галавы паказвае на піўную.

Ідзем дахаты,—намагаецца Янка.

— Кінь, Ваня! Дзе наша не прапала! Давай заглянем.

— Ты з глузду зьехаў? Ідзем да хаты,—і Янка адцягвае Аркадзя ад дзьвярэй за руку.

— Ведаеш, Ваня, так і цягне.

— Ведаю, цягне. Але трэба памятаць, што ты комсамолец.

— Як гэта? Я комсамолец?—зьдзіўляецца Аркадзь.—Ты ўжо Ваня, кулі не налівай. Я добра ведаю сам—мне ня месца ў комсамоле. Я згубіў яго на доўгі час, а мабыць назаўсёды. Ня верыцца мне, каб такім яшчэ заставалася месца ў комсамоле. Такія сваім прабываньнем, паганяць яго, дый толькі. Ну што-ж, чаго шкадаваць? Гніль уся адпадае, а вы застаецеся здаровыя, загартаваныя духам, і працуйце на здароўе. А мы, мяккія, пойдзем бокам. Пойдзем, каб не перашкаджаць вам.

Доўга слухаў Янка, што апавядаў Аркадзь. Рабілася шкада нікчэмнага, на гэты раз, чалавека, які часова згубіў пад сабою цьвёрды грунт і завяз у гразі.

— Не, Аркадзь, ты памыляешся. Ты яшчэ нічога ня згубіў. Пабачыш, будзеш працаваць разам з намі. Толькі ведай, пакуль ня позна, трэба пайсьці ў завод. Заўтра вечарам на бюро колектыву будзем разглядаць тваю справу.

— Ведаю. Мне казаў Міхась.

— Абавязкова прыдзі.

Аркадзь маўчаў. Відаць Янка закрануў самае балючае месца. Маўчаў Аркадзь, ды толькі калі-некалі цяжка-цяжка ўздыхаў. Янка не дачакаў адказу.

— Ну, дык, як прыдзеш?

— Ведаеш... Ваня... Сорамна... з вялікаю натугаю прагаварыў Аркадзь. Штосьці балючым комам прыступіла да горла, і не давала прагаварыць. Ён сілай выціскаў словы.

— Не бядуй, Аркадзь. Справа будзе ўладжана, толькі застаецца прызнаць памылку.

Аркадзю прыпомніліся словы Ніны.—„Падумай ці лёгка афяраваць сваім гонарам. Я гэтага ніколі не зрабіла-б“.

У галаве прамільгнула зьявішча, калі, адчуваючы сваю нікчэмнасьць, ён чырванеючы, будзе лаяць сябе. Добра сказаць—прызнаць памылку, а на справе зусім ня так проста, як гэта здаецца. Ды к таму гуз. Тут табе хуліган і ўсё што хочаш.

— Не, Ваня, як сабе хочаш, а я мусіць доўга не пайду ў завод.

— Чаму?—зьдзіўляецца Янка.

— Сорамна,—прагаварыў Аркадзь, паказваючы на гуз, які ледзь відаць з пад шапкі, насунатай на вочы.

— Глупства. Па гэтым дзеткі будуць. Але якім гэта чынам?

— Паваліўся ўчора на ўсходах, дый выцяўся, як сьлед.

— Глупства, глупства.

— А я, Ваня, амаль з-за гэтага і баюся паказвацца на завод. Учора вечарам быў парашыў пайсьці, але сёньня перадумаў. А зараз ня ведаю... Мусіць не пайду.

Янка пачынае злаваць, але імкнецца гэтага не паказваць. Ласкаю ўгаварвае.

— Зразумей, Аркадзь, гэта не па-бальшавіцку. Ты павінен працаваць на старым месцы. Сам ведаеш, кваліфікаваный сілы ў нас не хапае, і твой уход значна адчуваецца.

— А чаму начальнік здымае з працы, калі не хапае рабочых?— узрушаным голасам пытае Аркадзь.

— Інакш, Аркадзь, і быць ня можа. Трэба дысцыпліна ў нас.

— Ты праўду кажаш. Але...—штосьці не дагаварыў Аркадзь і, спыніўшыся каля брамы, дадае,—я пайду дахаты.

— А што азначае „Але?“—дапытвае Янка.

— Падумаю. Ну, бывай!

— Бывай. Ды толькі ня дурэй. Абавязкова прыдзі.

Янка, моцна паціснуўшы руку, накіраваўся пайсьці. Адышоўшы некалькі крокаў, схамянуўся.

— Аркадзь, пачакай хвілінку!

Падышоўшы. Янка вымае з кішэні газэту.

— На пачытай сёнешні нумар штаттыражкі.

*

Павольна перастаўляючы стомленыя ногі, Аркадзь узьбіраецца на пяты паверх дому. У галаве мітусяцца думкі: „Што рабіць“? Дзьве пасмы супярэчлівых разваг не даюць магчымасьці знайсьці сталы адказ.

Пад навалаю гэтых разваг Аркадзь нават ня прыкмеціў, як, ня ўзышоўшы на пяты паверх, паварачвае ў чужую кватэру чацьвертага паверху. Упэўнена адчыняе дзьверы пярэдняга пакою За сталом сядзіць вясёлая кампанія незнаёмых людзей. Аркадзь палічыўшы, што да гаспадара прышлі госьці, прыбавіў кроку і хутка схаваўся ў заднім пакоі. На хаду кіўнуў: „Добры вечар“.

Распранаючыся, пачаў прыкмячаць зьмены. Трымае паліто н адным плячы, аглядаецца.

— „Няўжо-ж заблудзіў"?

У гэты момант адчыніліся дзьверы.

— Вам, таварыш чаго?—пытае гаспадыня.

Аркадзь сьцяміў у чым справа. Просячы прабачэньня, хутк выбягае з кватэры. За дзьвярыма ў корыдоры моцна сплёўвае.

... — Маць... Звар'яцець можна.

Дома стомленым зваліўся на ложак. Спачатку імкнуўся ні а чым ня думаць. Ляжаў, прыкрыўшы рукамі твар. Здаецца ўвес пяціпавярховы дом рушыцца некуды ў прадоньне, а разам з ім ён. На момант расплюшчвае вочы, аглядае навокал. Усе рэчы зві чайна стаяць на сваім месцы. Заплюшчывае вочы—ізноў перав рачваецца ўсё ўверх нагамі.—Што за ліха?

Цяжка ўздымаецца, аж хрусьцяць косьці. Сеў каля стала, пр глядае газэту. Пачынаючы з першай старонкі прагледзіў амаль у загалоўкі. Але чытаць нічога ня чытаў.

Натрапіўшы на апошняй старонцы артыкул пад загалоўкам:

„ГАНЕБНЫ ВЫПАДАК МЯККАГА",—пільна ўпіўся ў радк Па целе прабегла трасяніна, абдаючы холадам і цяплом. Яшчэ бл жэй нахіліўся над газэтай, пільна ўглядаецца, каб не праміну ніводнага слова.

Артыкул ускалыхнуў усё нутро. Кожнае слова балюча закран набалеўшае сэрца, ад чаго робіцца няўтрывалая боль.

Не глядзеў у газэту, бо адчуваў, што ў гэтым артыкуле ск зана ўсё.

Выпадкова трапіў поглядам на знаёмыя подпісы. Подпісы был сяброў стругальшчыкаў. У невялічкай заяве ў шматтыражку А кадзь прачытаў:

> „У мэтах пасьпяховага выкананьня прамфінпляну, бяр на сябе абавязак кожны дзень запаўняць на варштаце пуст ючае месца Мяккага, пакуль не падрыхтуем пастаўленага вуч да самастойнай працы".

Стругальшчыкі варштата № 6.

**М. Сподка, І. Нагай, Я. Рыжы.**

Аркадзь адчувае, як у галаву прылівае сьвежы струмэнь кры Сэрца пачало моцна біцца ў грудзёх. Здаецца вось-вось вырвец бо ня знойдзе месца. Яму там у каморцы зрабілася цесна, як колі. Хацелася моцна крычаць. Крычаць так, каб адразу пачу

ўсе, хто яго лічыць здраднікам, дэзэртырам вытворчага фронту. Хацелася крычаць: „Я змагу выправіцца і працаваць разам з вамі. „ А Ніна... Яна, падлюга, зацягнула ў балота. Так, яна...“.

*

У пакойчыку комсамольскага колектыву быў сакратар Міхась і яшчэ двое сяброў бюро.

— Трэба навучыць астатніх на гэтым выпадку,—павышанным голасам гаворыць Мікола.

— Вы пра каго гэта хлопцы, пэўна пра Мяккага?—пытае Янка, падышоўшы да стала.

— Але. Абгаварваем, што з ім рабіць,—дае даведку Міхась.— Заўтра разглядаем на бюро.

— Вось што, хлопцы. Мяккі зусім зьбіўся з панталыку. Пачаў піць. Сёньня я яго затрымаў у дзьвярох піўной.

І ўчора, казалі хлопцы, бачылі яго п'яным на вуліцы,—дадае Міхась.

— Ну, вось, бачыце. Я з ім гутарыў. Хлапец хістаецца. Баіцца паказвацца ў завод. Сорамна кажа.

— Папаўся ў нерат,—жартуе Арон.

— Сьмех сьмехам,—намагаецца Янка,—а я лічу, тут трэба падыйсьці асьцярожна. Трэба вывесьці хлопца на шлях.

— У такім разе,—прапануе Міхась,—мы на бюро ўнясем прапанову:

Хадайнічаць перад адміністрацыяй цэху пакінуць Мяккага на працы. З тэхнікуму не адклікаць. А па комсамольскай лініі вынесьці суровую вымову з папярэджаньнем. І, бязумоўна, прапанаваць напісаць заяву ў шматтыражку, у якой павінен прызнаць свае дрэнныя ўчынкі.

— А што вы думаеце,—падхапіў Арон,—на першы раз гэта будзе самае лепшае.

— Верна,—амаль у адзін голас прагаварылі ўсе прысутныя.

*

Праз некалькі дзён у заводзкай шматтыражцы чыталі заяву Мяккага.

„Конфлікт, які здарыўся паміж мною і начальнікам цэху па пытаньні рамонту варштата і па ўсіх іншых пытаньнях, паказаных у загадзе, выклікаў сярод рабочых нашага заводу абурэньне.

„Я, Мяккі, лічу сваім абавязкам прызнацца ў несправядлівасьці з майго боку.

„Бязумоўна, такі факт заслугоўвае грамадзкае думкі,— ганьбаваньня; факт, які не павінен паўтарацца, факт які патрабуе пакараньня.

„Таварышы рабочыя! Падобныя выпадкі ня могуць у далейшым мець месца на нашым заводзе.

„Я першы буду пільна сачыць разам з усімі вамі за падобнымі Мяккімі!

„Цяпер я ўжо ня той Мяккі“.

З прывітаньнем **А. Мяккі.**

---

## ДА ВАС

На днях з Францыі ў Польшчу прыбыла падводная лодка, узброеная гарматамі.
*(З газэт).*

Па згодзе з генштабам Польшча частку газаў павінна даць Румыніі.
*(З газэт).*

I

Лапамі
сьпіны рэек
наточаць.
Вочы ўтаропяць
у неба заставы.
Цягнікі даўгія,
як зімовыя ночы,
З Парыжу
сьпяшаюцца
ў Варшаву.
Стужку дымовую
кінуўшы за
хмары
далёка,
З разьбегу
ўрываюцца
цягнікі
ў порахам
начыненыя аблокі.
Вышэй і
вочэй
межы
пільней,
напорней!

. . . . . . . . . . . . . . .

Разгружаныя
вагоны
на польскіх
станцыях—
толькі ноч,
быццам торф,
чорная
і танкі.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Зноўку сьпіны рэек наточаць,
Пачынаючы рэйс,
цягнікі даўгія,
як зімовыя ночы,
з Варшавы
імчацца
ў Бухарэст...

II

Па сьвеце крадзецца здань...
(Сьвет—магілкі ненасытныя)
... Хто гэта
з магілы
абгрызкі падаў
Чэрапа,
касьцей
і заіржавелай касы?
Гэтай здані імя—
вайна,
тая,
што ў радкох гісторыі
руінамі сьцелецца.
— Каму,
скажэце,
патрэбна
галава адна
бяз цела?..
Гэта да вас...
Агідней,
чымся ў твар плявок,

Што плявок?
              рукою выцер яго.
Не...
    Як крэслаў электрычных ток
Спаліць вас
              рэволюцыйны агонь.

. . . . . . . . . . . . . . .

Чуеце?—
        крочыць здань
                    над сусьветам
рэволюцый.
І калі
    вайна
        паднімае
            касу заіржавелую—
і зямля...
        і людзі
            стануць
крывавым
            кавалкам
                    мяса.
    Будуць біцца
            не дзяржавы агалцелыя,
    А клясы
            з клясаю.

---

## ДЛЯ ПАРОГУ ВЯСНА ЧАКАЕ

„... Я за весну спокоен.
Придет і расцветет без меня...
Но знаю—иная весна есть,
И этой весне без меня не расцвесть"
*А. Безыменский.*

На сонца сягоньня попыт узрос.
Парадак дня:
Рэконструкцыя сьнегу...
Паўстала пытаньне на ўвесь свой рост
Аб бальшавіцкай вясьне.
Дні скрозь заставы сакавіковыя
гоняцца.
(Сонцу цесна ў хмарах нат)
Ці можа быць,
прыкладна,
сягоньня
Беспартыйная вясна?
Гэта, скажэце,
стары сказ:
Думаеш—вясна—
ручаёў перапалох...
Мобілізуем сонца, каб
Лепшы быў ураджай на палёх.
Каб вёсны вільгоцілі
глебу нашу,
Ў баёх пераможных
Мацнелі колгасы.
Зімовыя сковы
Спадаюць з зямлі.
Брыгады з цэхаў
Перакінем у палі.
Калі ў загарожах

На час завязьнем,—
Мы пераможам
Энтузіязмам...
Зімовыя сковы
Спадаюць з зямлі.
Брыгады з цэхаў
Перакінем у палі.

*

Зямля была залатана,
Палоскамі парэзана.
А колькі сонца страчана
На дзедаўскія межы?
Буйнымі каласамі
Мы дробныя сатром
Зямлю узроем мы самі,
І самі мы сажнём.
... На сонца сягоньня попыт узрос.
Парадак дня:
Рэконструкцыя сьнегу...
Паўстала пытаньне
                на ўвесь свой рост
Аб бальшавіцкай вясьне.

---

С. НОРТМАН

# СНАЙПЭР

Апавяданьне

## ПРАРЫЎ

Працяжна загула-завыла сырэна.

З мэханічнага, афарбованага ў барвовы колер, у сініх, чорі рудых спэцоўках выходзілі такары, сьлесары, фрэзароўшчыкі—на хаду выціраючы рукі.

Прывычны гул моратаў, трансмісій і шастаньне пасоў зьмяніла цішыня.

Апошнія дні, якія дажываў цэх у час ударнай квадры другога году пяцігодкі, паказвалі, што цэх не павольна, а днямі і шпарка ідзе ў прарыў.

Сьлесары нэрваваліся. Брыгадзіры зборачнага часьцей пачалі заглядаць у суседні цэх, спрачаліся з майстрамі такарнага.

У пачатку квадры ўсё ішло добра. Выкананьне прамфінпляну падымалася з кожным днём. Радасьцю гарэлі вочы, калі эканоміст прыносіў зводкі выкананьня.

Тады расла ўпэўненасьць, што цэх выйдзе пераможцам.

Але раптам, зусім нечакана, папаўзла чутка з цэху ў цэх, з брыгады ў брыгаду, дайшла да асобных варштатаў, яна казала: „няма чыгуну, перайшлі выключна на адзін чыгунны лом“.

Гэта нэрвавала, бо адсутнасьць дэталяй з ліцейнага можа сарваць усе ранейшыя дасягненьні, размагніціць тэмпы работы.

Першая партыя адлітых з лому дэталяй паступіла ў такарны. Выявілася тое, чаго чакалі,—пацьвердзілася ранейшая чутка. Самакал гарэў, чыгун быў падобны на шкло, блішчэў і не паддаваўся апрацоўцы звычайным разцом.

Скарачаліся хуткасьці варштата, гэта дрэнна дапамагала. Чыгунная стужка сыпалася попелам, разец скрыгаў, дрэнна здымаючы брудную кару дэталі.

Інжынэры сядзелі, вылічваючы моцнасьць чыгуну, вынаходзілі спробы як адліваць чыгун з лому, які паддаваўся-б апрацоўцы самакалам.

Час ішоў.

А разам з гэтым, ударная квадра скарачалася, адлічваючы свой поступ прамінуўшымі гадзінамі, днямі, дэкадамі, якіх ужо ня вернеш.

Крывая вытворчасьці падала ўніз.

Такары ішлі з парадамі да майстроў.

Па цэху дзе-ні-дзе чулася.

— Дакуль-жа так будзе, давялі завод да ручкі. Гналі чуць ня ў каршэнь, а тут на табе. Дзе іх былі вочы дагэтуль?

— Спыняй варштат, давай пакурым. Усёроўна ня зробіш больш тройкі.

Варштаты спыняліся, рабочыя курылі махорку, закручваючы ў газэтную паперу. Сінія колцы дыму завалоквалі густым туманом курыўшых, стаялі сінявата-бялявым воблакам над галовамі.

Нізенькі, крыху больш меры затоўсты, майстра Мікола Рыгорвіч бегаў па цэху, разганяў курцоў і, тупаючы нагамі, крычэў:

— Ах, каб вас халера пабрала! Расьселіся гаспада, разьвялі гамонку, хрэн вам у вочы, А хто-ж за вас рабіць будзе? Чаго паселі, марш па мясцох, працаваць трэба!

А некаторыя пад шумок спынялі варштаты і, забраўшыся пад навес, дзе ляжалі гатовыя дэталі, адбівалі мурзатай рукой паўлітроўку і, задраўшы галаву, пералівалі белую, булькаючую гарэлку ў „сваю пасудзіну“. Смачна сплёўвалі і кавалкам селядца або воблы закусвалі.

Брак адзначаў свой рост.

Адчувалася, што цэх згубіў свой запал, імпэт, якія штурхалі да работы адданай, у час якой забываешся на ўсё, а ў думках стаіць адно: як мага больш, як мага вышэйшай якасьці, ніводнага проценту браку.

З раніцы ў вочы кідаўся напісаны рознаколяровымі фарбамі плякат:

**ЦЭХ ІДЗЕ К ПРАРЫВУ.**

*СПРАВА КОЖНАГА ЎДАРНІКА НЕ ДАПУСЬЦІЦЬ ГЭТАГА.*

**ШТО ТЫ ЗРАБІЎ ДЛЯ ЛІКВІДАЦЫІ ПРАРЫВУ?**

ТАКАРЫ! НА ВАС АДКАЗНАСЬЦЬ ЗА ПРАРЫЎ.

На сьценах віселі лёзунгі, напісаныя нязвычайнай для гэтага рукой, літары распаўзаліся як жукі, але ўсе яны концэнтравалі ўвагу, прыкоўвалі да сябе.

І з самага ранку Лявонаву галаву сьвідравала думка. Перад вачыма стаяла: „што ты зрабіў для ліквідацыі прарыву“?

Думка непакоіла, аваднём зьвінела ў галаве. Вочы мімаволі ўздымаліся ад дэталі і ўпіраліся ў лёзунгі і плякаты. Цэх здаваўся не такім, як звычайна, выглядаў пахмурым, брудным, закіданым рознымі непатрэбнымі рэчамі.

— Ну, у чым-жа мая віна,—пытаў ён сам сябе час-ад-часу.

— Што я зрабіў такое, у чым мяне вінавацяць? Раблю так, як трэба, абвясьціўся ўдарнікам, што ж яшчэ?

А другая—не своя—чужая, якая ішла аднекуль здалёку, чуць-чуць акрэсьлівалася—казала: „мала, мала ты зрбаіў, каб ня было прарыву, можна было-б зрабіць яшчэ больш. Вось у гэтым віна“.—Э, чорт яго! задумаўся...

І пачынала шырыцца, расьці неакрэсьленая злосьць на кагосьці. Але гэты кагосьці быў вінаватым.

А вось цяпер, калі гудок паклікаў абедаць, ён апошнім ішоў з цэху ў сталоўку.

Балела галава. Ногі ішлі машынальна. Есьці не хацелася.

І зноў пачынала расьці і шырыцца злосьць. Ня вытрымаў і злосна, моцна выкрыкнуў.

— Выдумалі абед а палове адзінаццатай,—толькі за працу возьмешся, а тут абед. Рабіць не даюць, а пішуць: „такары! вы адказваеце за прарыў“.

— Зноў гэты лёзунг так нахабна лезе ў вочы, які яго чорт тут завесіў. У самых дзьвярох,—як ня ідзеш, а абмінуць нельга.

І калі ў сталоўцы супакоіўся і злосьць паціху зьмянялася на добры настрой, думкі ўраўнаважыліся, ён пачаў разважаць інакш.

— Праўда, вінаваты мы самі, ніхто іншы.

Абвясьцілі, што будзе мітынг.

Хутка скончыў абед і пакрочыў у цэх.

На імпровізаванай трыбуне-вагонэтцы, а на ёй невялічкі зэдлік стаяў старшыня заўкому і абвяшчаў мітынг адчыненым.

Першае слова ўзяў сакратар партколектыву таварыш Альскі.

Сярэдняга росту, з брытым тварам стаў на ваганэтку, зьняў куляры, працёр шкло і акінуў натоўп блізарукімі вачыма.

Вусны былі моцна сьцяты, а на ілбу зьбіраліся маршчыны.

— Таварышы рабочыя!—ударнікі і ўдарніцы. Мы стаім перад ганебнай плямай, якая ляжа на ўвесь завод. Цэх мае вялікі прарыў і вядзе за сабой увесь завод. Вы сёньня чыталі аб гэтым плякат, ён вісіць не для чырвонага слаўца. Ён напамінак, ён папя-

раджвае аб дрэннай рабоце. Хто вінават?—вы такары. Вы, якія месяц таму назад ішлі першымі, вы, якія здалі тэмпы, прамянялі на пустыя гамонкі, а некаторыя на прагулы.

Давайце вашы думкі, як выйсьці з гэтага становішча. За вамі слова, вы гаспадары заводу і свайго цэху.

Сёньня трэба сказаць усё, каб разышоўшыся па рабочых мясцох праца кіпела і ўздымаліся тэмпы ў два, у пяць і больш разоў.

Словы стукалі ў галаву, рабілася сорамна ад таго, што недавыканалі плян. Балюча адзываласяя ў сэрцы.

Хацелася шмат, шмат сказаць, падзяліцца з тым, што накіпела на сэрцы за ўсе дні, за сёнешні ў асаблівасьці. Але здавалася, што нельга выказаць усяго, цяжка знайсьці патрэбных і моцных для гэтага слоў. Рукі прывыклі да напільніка, да малатка, да ключа, але галава, галава ў якой роем кружыліся думкі, не магла ўсяго скондэнсаваць, згуртаваць і выкінуць у гэты натоўп, які цяпер стаяў апусьціўшы галовы, перажываў і мысьліў. Запаліць гэтымі словамі-думкамі, узарваць заледзянеласьць, якая апошні час панавала ў цэху. І ўсё-ж ня вытрымаў, сказаў:

— Дайце слова!

— Калі ласка.

Нясьмела падымаўся на выганэтку і зьняўшы шапку камячыў у руках, ня ведаючы з чаго пачаць.

Гэта няведаньне было горш за ўсё. Усё, што думаў стоячы ў натоўпе, выляцела з галавы. Ад гэтага было ніякавата.

Пот выступаў буйнымі кроплямі на ілбе, каціўся па твары. Абцёр яго рукавом спэцоўкі. З натоўпу пачуліся рэплікі:

— Бач ты, і Лявон у аратары палез.

— Маўчы, ён хутка будзе міжнародным арацелем, накшталт Лёйд-Джоржа.

— Ціха, дайце чалавеку сабрацца з думкамі.

Прайшло некалькі сэкунд у ніякаватай маўклівасьці. І раптам нечакана для самога сябе пачаў:

— Таварышы! Мы-ж вінаваты, што прарыў. За гэта нас ня толькі трэба лаяць, а біць трэба, і так моцна, каб аж пыл курэў, як ад дэталі ў час шліфоўкі. Ходзім па цэху, курым, застанавіўшы варштаты. Час ідзе, а варштат прастаяў, вось і прарыў. Ды ня толькі мы вінаваты адны, вінават і майстар, і начальнік цэху, якія ня сочаць за парадкам, не дастаўляюць усё своечасова. Як прыдзеш на работу, шукаеш патрон, падбіраеш ключ да яго, стаіш у

чарзе каля інструмантальнай, ды ці мала ў нас непаладкаў, якія перашкаджаюць у рабоце.

Я колькі разоў казаў свайму майстру, а ён адмахнецца рукой і пойдзе. Вось...

Лявон зьлез з вагонэткі, надзеў шапку і, праціскаючыся, стаў воддаль.

Пасыпаліся выкрыкі. „Праўду сказаў. Добра загнуў, не падкапаешся. Гэта называецца адмарозіў. Хоць мала але да толку".

Загуў гудок. Усе разыйшліся па сваіх мясцох і шпарчэй захадзілі ў руках падпілкі, стала віцца вужакай жалезная стружка.

І хоць попелам сыпаліся чыгунныя стружкі з-пад самакала, але цэх гаманіў па-другому. Мітынг зрабіў разрадку, запаліў ізноў энтузіязмам. Трансмісіі сьпявалі сваю звычайную песьню, якая бадзёрыла і штурхала рукі да ўпартай працы.

## КОМУНА

Увечары, калі скончылася праца, Лявон мыючыся, казаў сваім сябром Міколу і Алесю:

— Вось што братва. Трэба нам комуна, бо так працаваць далей немагчыма. Чорт яго ведае колькі часу я губляю, пакуль пачну працаваць. А чаму? Таму, што кожны глядзіць і думае выключна аб сабе. Прыходзіш на работу, пачынаеш шукаць то шасьцяронку то шпонкі, падбіраць на падлозе гайкі, ды ці мала чаго шукаеш губляеш дарэмна час.

А ў комуне зусім інакш. Наладзіў варштат, запусьціў і крый аж пакуль усю работу па нараду ня скончыш.

Глядзі колькі зэкономіш часу, колькі лішніх дэталяў можна зрабіць за дзень.

— Ну што-ж давай папрабуем. Чым чорт не жартуе. Возьмем адзін варштат і давай агулам працаваць,—адказаў Мікола.—Я згодзен таксама, абы толькі добра было,—пацьвердзіў Алесь.

— Трэба яшчэ аднаго хлопца, але каб добрага, не гультая які-б не глядзеў, каб толькі адбыць дзень і сядзець на чужым карку,—працягваў Лявон.

— А калі-б узяць Юзіка, ён нічога сабе робіць,—унёс прапанову Мікола.

— Не, Юзік не падыходзіць. Ён думае, што занадта вялікі майстар і будзе нос задзіраць, а гэта ўжо не работа,—супярэчыў Алесь.

— А я думаю пагутарыць са Сьцяпанам. Хлопец ён добры, хоць раней і быў бяспрытульным, але работу любіць, ня гультай,— сказаў Лявон.

— Во, гэта якраз хлопец. Такі не падкачае, згадзіліся сябры. Памыўшыся, усе ўтрох ішлі ў заўком. Там Лявон дакладваў старшыні:

— Мы хочам організаваць комуну. Узяць пакуль што адзін варштат, а там, як работа наладзіцца, можна ўзяць яшчэ. Дык вы, таварыш старшыня, ня супярэчце, скажыце пару слоў н-ку цэху, хай дасьць згоду, каб організаваць комуну.

— Давайце, давайце хлопцы, я згодзен. Толькі каб не падкачалі, а то калі што ня так, дык справа зусім дрэнь будзе, засьмяюць некаторыя. Па цэху ня пройдзеш,—казаў старшыня.

— Не, мы дружна возьмемся. Не падгадзім! Па сабе адчуваю і за хлопцаў упэўнен. Ня можа быць, каб мы падкачалі!

— Пішыце заяву і давайце мне. Я напішу н-ку цэху пісульку, ён дазволіць.

На заўтра па цэху разнеслася чутка, што Лявон організоўвае комуну.

Па кутках зашапталіся, зашушукалі, папаўзьлі сьмяшкі. Да Лявона падходзілі і казалі:

— Комуну організоўваеш? так-так...

— Ну што-ж справа ня дрэнная, але як яна будзе невядома...

— А расцэначкі ня зьнізіце?

— Дасьцё нашаму брату некомунару зарабіць?

— Кінь, Лявон, гэту выдумку. Рабілі-ж бяз комуны і будзем рабіць, што табе трэба больш за ўсіх?

— Эх ты! галава.

Лявон мякка, казаў.

— Не сьпявайце паніхіду, я паміраць ня зьбіраюся. А комуна ўсё-ж будзе!

— Ну паглядзім, пабачым, сказаў сьляпы, як бязногі пабяжыць.

— Бязногі не пабяжыць, сьляпы ня ўбачыць, а мы пакрочым наперад, бо маем здаровыя рукі, ногі, ды і вочы маладыя.

Неўзабаве пачала комуна працаваць. Перад гэтым усе падпісалі статут, асадзілі яго ў рамку за шкло і павесілі каля варштата. Лявон вывеў нязвычайнай рукой уверсе статуту на кавалку паперы.

„Комуна імя Дзяржынскага“.

Літары распаўзьліся, нібы ні аднаго памеру, адна большая за другую, але Лявон любаваўся сваёй працай, у сэрцы шырылася, выпірала радасьць з грудзей і адбівалася ў васількових вачох.

Мікола кінуў рэпліку:

— Лявон, твае літары падобны на тыфусовую вош.

— Яны то падобны, усім падобны. Пабачыш, што яны зробяцца заразьлівымі, пачнуць за намі „хварэць" і другія варштаты. Абы мы ня здрэйфілі ў рабоце, а паказалі добры прыклад, дык пабачыш, што комуны пачнуць расьці.

І перад вачыма паўставаў малюнак арганізацыі комун.

Вось яны гэтыя, хто сёньня недаверліва глядзіць на комуну, самі становяцца комунарамі.

Агульная праца захапляла ўсіх. Усе жывуць аднэю думкаю, ня трэба шукаць кожную раніцу шасьцяронак, усе на сваіх мясцох. Вось гэта жыцьцё! Сапраўднае жыцьцё! Поўнае, як налітая шклянка гарбаты. Гэта жыцьцё б'ець праз край сваёй сакавітай, маладой радасьцю, штурхае рукі і розум працы.

І, адчуваючы гэту радасьць жыцьця, пачаў пацiху пад нос напяваць:

Эх, яблычка, куды коцішся.
На завод пападзеш, перародзішся!

## МІНУЛАЕ І СУЧАСНАЕ

Невялічкі пакоік, „мышалоўка", як у жартах называў сваю кватэру Лявон.

Стол, два зэдлікі, ложак, на вокнах, маленькіх і падсьлепаватых,—у чатыры невялічкія шыбінкі,—фіранкі белыя, крухмальныя.

Перад акном садок, у якім улетку растуць ружы, гэоргіны, сярод кветак звычайная самасейка.

Зацьвіце жоўтым ды зялёным цьветам, не адрозьніш, дзе кветкі а дзе табак. Лявонава вока сочыць за ростамі табакі, сочыць за кожным рухам лісточка, сочыць і абрываюць рукі пажоўклае ад сонца лісьце.

Яно непатрэбна, толькі попусту забірае частку сокаў зямлі. Што мернее, таго не ўберажэш, лепш аддаць другому, якое зеленее ды распушчаецца. Хай ад гэтага лішку паўнее, ды расьце.

Садок разьвёў Лявон у першую-ж вясну як прыехаў у горад.

Выклянчыў у гаспадыні крыху насеньня, ускапаў градку, абгарадзіў дошчачкамі, якія нанасіў з будоўлі, дзе працаваў. Гэты садок кожны дзень напамінаў Лявону аб вёсцы. Вёсцы, якая раскі-

нула свае хаты над абрывам рэчкі. Кожную летнюю раніцу, як адбудзіцца, бег на рэчку, на хаду скідаў вопратку і з разгону кідаўся ў ваду.

Вада абдымала дзіцячае цела, песьціла ў сваіх халодных абдымках.

Успаміналася матка, пажылая—ад гадоў, ад перанесеных цяжбот у жыцьці.

Рана застаўся Лявон бяз бацькі. Трохгадовым хлапчуком. Качаўся сярод чужых. Матка з раніцы ішла на падзёншчыну ў суседні маёнтак, гнула там сьпіну ад ранку да вячэрняга цямна, зарабляла капейку, каб купіць кавалак хлеба, узгадаваць свайго сына.

Падрос. Пайшоў у школу. Радавалася матка, калі сустракала Лявонку, як ішоў са школы.

Казала:—Скончыш сынок, гэту школу, аддам далей, выходзь, дзетачка, у людзі.

Кідай паднявольную працу батрацкую.

Але мары ня збыліся.

Увосень, калі дрэва губляла пажоўклае лісьце, усьцілала ім лес і дарогі,—памерла маці. Зачыніліся блакітныя вочы, што з любоўю глядзелі на сына.

— Рана памерла,—казалі людзі,—не дачакалася, пакуль выведзе ў людзі сына.

— Што з ім цяпер будзе? Куды прыхінецца сіраціна?—І ад гэтых гаворак яшчэ большым жалем-больлю поўнілася сэрца.

Пайшоў Лявон па чужых людзях батрачыць: пасьвіў кароў, узрастаў і мужнеў у чужых. Пакутваў як і сотні такіх як ён батракоў.

Рэволюцыю сустрэў семнаццацігадовым хлопцам. Хадзіў пад чырвоным сьцягам па вёсцы, разам з салдатамі, якія тут кватэравалі.

Хадзіў і адчуваў нявыказваемую радасьць, якая поўніла і выклікала ўсьмешку на вусны. Не разумеў, што дзеецца, але сэрцам адчуў, што здарылася нешта вялікае, вагромністае, якое ахапіла ўсю краіну, кінула людзей цалавацца паміж сабой, па-братэрску пацiскаць рукі.

І калі ішла ў воласьці вярбоўка ў чырвонагардзейскія атрады, закінуў пугу і ўзяў у рукі вінтоўку, з якой не разлучаўся на працягу ўсяе грамадзянскае вайны.

Пад варожымі кулямі белых вывучаў палітграмату, вывучаў, што нясецць за сабой рэволюцыя. Прыняў гэта безадмоўна і горача,

як сваю родную справу, таму і ішоў у бойку з сэрцам поўным адвагі і геройства.

Радавым рэволюцыі прайшоў славуты шлях. Аб гэтым казаў ордэн Чырвонага сьцягу, што гарэў пяцікутнай зоркай на грудзёх, над сэрцам, якое білася ў тахт і рытміку працы нашай краіны. Як дэмобілізаваўся—трапіў у горад. Пайшоў на будоўлю спаленых белымі дамоў.

Так прахадзіў на пабудовах не адзін год. А потым пайшоў у ЦІП і адтуль трапіў на завод.

Захапіў яго завод сваім стукатам. Сваім сьпевам пасоў і трансмісій.

Уцягнуўся ў грамадзкую працу.

Вечарамі позна прыходзіў да хаты. Запальваў лямпу і сядзеў над кніжкай. Наганяў тое, што не пасьпеў нагнаць юнаком. І толькі жонка, з чарнявымі вачыма парушала спакой, які апановаў Лявона ў часы заняткаў дома.

Упікала кожны дзень мужыцкім паходжаньнем, дацінала сваёй шляхэтнасьцю, пудрыла прамы з гарбінкаю нос, падводзіла бровы, фарбавала вусны, ішла ў горад.

Спачатку такое становішча выклікала абурэньне, уздымала злосьць. А потым прывык, пакрыху прызвычаіўся, не зьвяртаў увагі.

І вось сёньня ішла ізноў хатняя вайна. Тонкім пісклівым з пагардай голасам бубніла-дзеравяніла думкі, выклікала злосьць.

— Дзе-ж гэта відана, штодня прыходзіць у сем-восем гадзін вечара, знайшоў сабе кралю ды круціцца.

— У комуну палез, каб табе вочы павылазілі. Больш трэба, як другім. А я сядзі дома, чакай барына, калі ён прыдзе.

— Хто-ж цябе просіць, каб ты чакала? Хочаш, ідзі куды табе трэба. А вось наконт кралі, дык гэта ўжо лішняе, няма каму гэтым займацца, не да краляў, калі работы шмат.

— А што з табой па кіно не хаджу ды па вуліцы не спацырую, дык гэта ад таго, што цікавасьці да гэтага ня маю.

— Во, я ўжо ня цікава, дык на якога-ж чорта ты мяне зьвёў, абмануў, хамскае тваё рыла?

Пачыналася звычайная, штодзенная гісторыя, якая так-жа звычайна канчалася гістэрыкай.

Сврачацца не хацелася, таму, апрануўшы паліто, вышаў на двор, адтуль на вуліцу і падаўся ў горад.

У невялічкім пакоі, досыць сьветлым,—сталы, зэдлікі. На сталох газэты, шашкі, шахматы, „морскі бой“.

На сьценах плякаты, 72 ми лушка 1902 году, станкавы кулямёт сыстэмы „Максіма“, граната Дзьяканава, правілы стральбы з вінтоўкі, нагана.

Портрэты Варашылава, Будзёнага, Леніна, Сталіна.

І, працягнуты праз усю сьцяну, намаляваны чырвонай фарбай з фіялкавым адценьнем лёзунг: „Асоавіяхім, апора мірнае працы“, „Асоавіяхімаўцы! мацуйце абарону Краіны саветаў“.

На зэдліках курсанты ў кожанках, паліто. Пасярэдзіне каля стала з наганам у руцэ інструктар, сярэдняга росту, кучаравы, з блакітнымі вачыма, вакол якіх дробненькімі маршчынкамі сабралася скура, ад чаго здаецца сьмяюцца вочы. На вуснах прыемная ўсьмешка. Вусны малінавага колеру і, калі ён гаворыць, дык блішчаць бялізнай зубы.

Вочы нібы не пасуюць да колеру валасоў, але гэта маленькая „няўвязачка“ ня мае нічога агульнага з гутаркай.

Праз няпрычыненыя дзьверы чутны стрэлы. Гэта ўціры—тэорыя замацоўваецца практыкай.

І пакуль зьмена страляе, астатнія заняты гутаркай. Інструктар апавядае:

— ...Рэвольвэр ад пісталету розьніцца тым, што мае барабан. Так, наган будзе рэвольвер, а браунінг пістолет, бо ў ім няма барабана. На сёньня, таварышы, хопіць. Зараз кожны хай займаецца чым хоча. Праўда, наш чакальны пакой ня зусім абстаўлены добра, але праз пару дзён мы будзем мець усё патрэбнае.

Лявон, прышоўшы на стралковыя курсы, сустрэў многа знаёмых хлапцоў і дзяўчат з іншых прадпрыемстваў.

І як толькі скончылася гутарка, падышоў да Волькі, якая ўвесь час кідала погляды ў яго бок.

— І ты займацца прышла?

— А што я не чалавек? Думаеш баба страляць ня ўмее?

— Не, я гэтага ня думаю. Ты і раней нічога сабе страляла, толькі гледзячы за кім. А цяпер думаю, што ўжо як сьлед навучылася страляць.

— Усё ў свой час! Трэба быць ударніцай па ўсіх галінах!

— Лямпэрт, Івашчанка, Кравец, Гур'еў, Каган, на лінію агню—паклікаў стараста групы.

Лявон, Волька і яшчэ трое вышлі ў цір. Атрымаўшы патроны, заклаўшы ў барабан нагана падрыхтаваліся, чакаючы загаду.

— Усе гатовы?

— Ёсьць, таварыш інструктар!

— Увага! Заданьне выбіць 25-вок, з магчымых 50. Першыя два патроны пробныя.

— Падрыхтавацца...

— Агонь!..

Рука сьціскае рукаятку нагана, зрок накіраваны на мішэнь, якая чорным кругам маячыць на адлегласьць 25 мэтраў.

Прабягае думка,—толькі-б не прамазаць.

Сэрца выбівае тахты, ён крыху нэрвуецца.

Побач пачынаюцца стрэлы. Тады павольна, не сьпяшаючыся, узводзіць курок і зьверху ўніз падводзіць наган пад чорнае яблыка, ловіць праз прорэзь прыцэла мушку, выраўнівае яе з абрэзам яблыка, павальна націскае на спуск...

Ітак, два разы падрад узяўшы наган у левую руку, чакае каманды.

Волька яшчэ цэліцца, інструктар штосьці тлумачыць.

У галаве сьвідруе думка: „ну як, не прамазаў? Ці многа?

— Па мішэнях, шагам марш!—раздаецца каманда. Падыходзіць да мішэні, чакае інструктара. Вочы блішчаць радасьцю—пробныя стрэльбы далі 17 вок.

— Гэта ня дрэнна.

Інструктар заўважае:

— Бярыце крыху „буйнейшую мушку“, вынікі будуць лепшыя.

Волька адну кулю засадзіла ў цэнтр. Аб гэтым кажа перабітая лічба 10, другая пайшла за „малаком“.

У іншых вынікі таксама ня дрэнныя.

Тры апошнія стрэлы Лявон робіць не сьпяшаючыся, амаль апошнім. Даў невялічкі адпачынак руцэ.

Страляў упэўнена.

Вынік: 5 куль—46 вок.

— Добра, вельмі добра!—хваліць інструктар.

У сшытку супроць свайго прозьвішча, расьпісваючыся, вывёў—46.

У Волькі стаяла 27. Таксама ня дрэнна для першага разу.

Ідучы дадому Лявон праводзіў Вольку. Трымаючы пад руку адчуваў праз паліто як б'ецца сэрца дзяўчыны, заглядаў у вочы, якія іскаркамі сьмеху сустракалі яго погляд.

Лявонка, а што сказала-б твая жонка, каб угледзіла вас цяпер? Напэўне была-б табе ўзбучка?

— Чорт яго ведае была ці ня была-б,—адказваў той.

— Мусіць была-б, ды яшчэ і вялікая, бо яна мае здольнасьць да гэтага. Вось наконт грамадзкай працы, дык ні тое ні сёе, ня хоча працаваць, а сцэны „ревности" закаціць умее.

— Мне аднойчы было ўжо. Я быў у тэатры, вышаў у час антракту пакурыць. Сустрэў знаёмую, гутару з ёй, і што-ж ты думаеш падыходзіць жонка і кажа: „мо-б вы, грамадзянка, назначылі спатканьне ў іншым месцы, дзе мяне ня было-б". Тая пагглядзела на жонку, потым на мяне і ціханька адыйшлася. Я думаў ужо на гэтым скончылася, дык дзе ты бачыла, дома была такая сцэна з гістэрыкай, што я не пашкадаваў вядра вады і выліў на жонку.

— Ну мы вось і прышлі, я жыву вось у гэтым доме. Калі не баішся жонкі, зойдзем да мяне, жыву я адна.

Лявон, узьбіраючыся па ўсходах, спытаў:—мо' табе ня зусім добра, што я заходжу?

— Кінь глупства казаць. Я рада, што сустрэлася з табой, і хачу пагутарыць, а што суседзі скажуць, дык гэта мяне ня цікавіць...

Курсы падыходзілі да канца. Лявон кожны раз праводзіў Вольку. Адносіны з таварыскіх пачыналі пераходзіць у больш інтымныя.

І вось сёньня, ідучы, ён казаў:

— Далей, Воля, я чакаць не магу, трэба канчаткова вырашыць, як быць далей.

— А жонка?

— Жонка? Ну што з таго? Я і раней нічога агульнага з ёй ня меў, а цяпер канчаткова страціў усякую магчымасьць падпарадкаваць мяшчанскай моралі сябе. Мо' мяне і абвінавацяць у распусьце, але гэта ня так. Я ня кідаю жонку, дзеля вострых перажываньняў навізны, а разыходжуся таму, што ў поглядах мы вельмі розныя людзі.

— Ты, Воля, вельмі добра ведаеш мяне, я нічога не хаваў ад цябе і цяпер проста скажу, абрыдла мне агульная, апісаная ў раманах мяшчанскага густу пасьцель.

— Вось дрэнна, што няма асобнага пакою, а то я даўно ўжо быў-бы халасьцяком.

— А дзе-ж ты раней быў, калі жаніўся? Мо' тады не прадбачыў гэтага?

— Так, не прадбачыў, бо напэўна не ажаніўся-б. І вось за гэту непрадбачанасьць павінен жорстка расплачвацца.

Пакой Волькі сустрэў ружовым сьвятлом, што кідала электралямпа праз чырвоную паперу. Усё мела сваё месца, нічога не пера. мянілася апрача таго, што фотакартка Лявона, якую ён падарыў Волі, стаяла ў рамцы на стале.

Гэта перамена ня зьдзівіла Лявона, ён гэтага чакаў, да гэтага вялі іх адносіны. Ня зьдзівіла і тое, калі Воля села да яго бліжэй і гледзячы ў вочы, узяла за галаву, нахілілася і моцна пацалавала ў вусны. Гэты пацалунак запальваў вострае пачуцьцё блізкага чалавека, які сваім пацалункам казаў, што вось ён, прыпынак, якога чакаў гэтулькі часу, які вабіў сваёй прастатой, тварыскасьцю, шчырасьцю.

У думках прабегла: „гэта не казённы пацалунак жонкі, узаконены штодзенным сумесным жыцьцём".

Ня зьдзівіла і тое, калі Воля запрапанавала застацца і жыць разам.

Прастата, якую Лявон не яўляў сабе ў справах выбару, знайшла свае адбіткі ў двух снайпэраў.

*

Комуна на чале з Лявонам працавала, даючы сто дваццаць процантаў у месяц.

Дзесяціхвілінныя вытворчыя нарады, што адбываліся штодзенна, абмяркоўвалі заданьне на цэлыя суткі. Цэх пераважываў напружаныя дні. Трэці рашаючы ішоў да канца.

Ішло змаганьне за пераходны сьцяг.

Комуна 41 варштата ўключылася ў конкурс. Таму Лявон часьцей заставаўся на другую зьмену і казаў:

— Націсьнем хлопцы так, каб аж пыл курэў, як ад дэталі. Мы маем конкурэнта на сьцяг, ён досыць моцны, гэта—гаспадарча-разьліковая брыгада таварных варштатаў, яна ў зборачным ідзе наперадзе. Калі ў гэтым м-цы не наляжам, дык сьцяг ня возьмем.

А дома сустракала Волька, заглядвала ў блакітныя вочы пытала:

— Ну, як ідзе выкананьне прамфінпляну, возьмеце сьцяг ці не?

— Думаю што возьмем. Сьціскаў яе ў абдымках, падымаў і трымаючы моцна на руках, кружыў па пакоі.

— Маючы такую як ты жонку ды ня выканаць!

— Я захапляюся тваёй працай, Лявон. Я табе зайздрошчу, ты спраўляешся і ў комуне, і ў стралковыы гуртку, але глядзі, каб ня здаў тэмпы, бо разлюблю, ківу і... усё-ж такі гэта ня здарыцца

— Вось думаю ў партыю ўступаць, Воля. Я-ж рабочы—ударнік здаецца ня дрэнны, змагу партыі даць карысьць, але гэта зраблю ў той вечар, як будуць прысуджаць сьцяг.

Клюб заводу быў перапоўнены. Чырвоныя хустачкі, кепкі, скураныя шапкі пераблыталіся ў фойэ. Сям-там раздаваўся бадзёрысты сьмех, рассыпаўся па пакоі і тануў у людзкім тлуме, гамонцы, што напаўняла фойэ.

Сыгналы клікалі ўваходзіць у залю.

Пачалося паседжаньне конкурснай комісіі.

Лявон лавіў словы старшыні комісіі Кагана, які казаў:

„Шмат перашкод было ў працы комуны 41 варштата, з яе сьмяяліся, пускалі плёткі, але хлопцы падабраліся добрыя і комуна сёньня ў такарным цэху вядзе за сабой усіх рабочых, яна застрэльшчыца правядзеньня ўсіх мерапрыемстваў, якія лепш організуюць работу па выкананьні прамфінпляну, таму комісія на папярэднім пасяджэньні вырашыла перадаць ёй пераходны сьцяг і 750 руб. прэміі, а організатару і кіраўніку комуны Лямпэрту выдаць грамату, як лепшаму ўдарніку і прэміяваць яго 100 рублямі“.

Лявон радасна паглядзеў на Волю, якая чуць прыкметным ківком галавы, усьмешкай сваіх пунцовых вуснаў выказала сваю радасьць, радасьць таварыша і калі Лявон падняўся на сцэну і прымаў сьцяг, калі оркестр граў Інтэрнацыянал, ён вачыма адшукаў Волю сярод сядзеўшых навакол і абмацваючы ў кішэні паперу выняў.

Оркестр сьціх. Лявон падумаў хвіліну, сабраўся з думкамі, сконцэнтраваў іх і сказаў:

— Комуна вышла пераможцай па конкурсе таму, што мы сябе цалкам аддалі справе соцбудаўніцтва. Цяпер у гэту радасную для мяне хвіліну дазвольце, таварышы, зачытаць заяву.

**У БЮРО ЯЧЭЙКІ КПБ ТАКАРНАГА ЦЭХУ**

**ад токара Лямпэрта Лявона**

**Заява**

**Прашу прыняць мяне ў рады комуністычнай партыі.**

**Абяцаю і надалей працаваць, яшчэ вышэй узьняўшы тэмпы соцспаборніцтва і ўдарніцтва.**

**У мінулым я меў шэраг памылак. Але дзякуючы добраму кіраўніцтву, дапамозе з боку партколектыву і асоб-**

**ных таварышоў, з якімі я працую, я іх выправіў. Завяраю, што буду няўхільна праводзіць і надалей генэральную лінію комуністычнае партыі.**

**Гэты сьцяг комуна будзе трымаць высока і сваёй ударнай работай замацуе за сабой.**

Гучныя воплескі пакрылі апошнія словы Лявона.

Оркестр зноў граў Інтэрнацыянал. Лявон трымаў у левай руцэ сьцяг, які кідаў жаўтаваты бляск ад літар, вышытых пазалочанымі ніткамі і гарэў сваёй чырваньню.

---

## НАСТАНЕ БОЙ АПОШНІ

Нізка вершаў

### 1. БЫЛО ВОСЬ ГЭТАК...

Эшалёны... Вайна... Паходы...
Бліжэй усе да Нямеччыны.
Кожны пакінуў родных,—
Ці зьвернецца хоць пакалечаны?
Гінулі ў бойках палкі,
Жывымі былі адзінкі.
Паласкалі ў крыві клінкі
Дзяржавы у паядынку.
Не адзін прасіўся—„камрад!"
Як грудзі штылетам калолі...
Расьціляўся голаду чад
І жудаснае няволі.
Ганялі на бойню няшчасных,—
„За айчыну, супроць чужых"...
У краіне „міласьці царскай"
Дарылі—
крыжыкі і крыжы.
Хаты пажарам ахоплены,
Віленцаў едуць абозы.
Буйныя сьлёзы кроплямі
Ад пякучых застыглі марозаў.
Едуць яны ў чужаніцу,
Гэта на сэрца—цяжарам.
На палёх здратавана пшаніца,
Небасхіл адлюстроўваў пажары.
І было вось гэтак заўсёды,
Да рэвалюцыі 17-га году.
Аднаму для збыту рынкі,—
А мільёны бяз чэрствай скарынкі!

## 2. МЫ ПОМНІМ ТАКІЯ ЧАСІНЫ...

Ноч над краінаю зьвісла,
Бурная ноч, штурмавая.
Напаіў коняй у Віcьле
Корпус Гая.
А банды у стэпах Украіны,
А банды ў лясох Беларускіх,
Працоўныя нашай краіны—
Цьвёрда напружыўшы мускул—
Націскам сьмелым і дружным,
Загартаванасьцю мужнай
Белыя зграі разьбілі—
„Двухгаловаму" абрэзалі крыльлі.
Пакаціўся барон за мора,
Ад чырвонаармейскага напора.
„Даёш Варшаву!
Даёш Бэрлін!
Мы ўрэзаліся ў Крым!!!"
Пакаціўся Балаховіч зьверам
Пад крыльлі арла Бэльвэдэра.
Песьні іграў джаз-банд,—
У Бэльвэдэры Пільсудзкі шакалам.
Польшча—надхніцель банд—
У Парыжы мазурку скакала.
А мы—ў агнявой завірусе,
Як сымбаль жыцьця й перамог,
(Заваёў мы сваіх не здамо)
Узьнялі сьцяг—
Савецкай Беларусі!

## 3. І ГРЫМНЕ БОЙ АПОШНІ...

Крывяжэрныя гарматы ізноў
Наводзяць дзяржавы сьвету.
Заключаючы шэрагі змоў
Супроць—
Краіны саветаў.
Паход... крыжовы паход...
Абвяшчае сівы Ватыкан.
— Разбурым сусьвету аплот
Выхваляецца польскі пан.

Простытуткай віхляе Парыж
(Зафакстроцілі ўсе шансонэткі).
*Ізноў*
на магілу і грудзі і крыж,
*Ізноў*
здратаваньне палеткаў.
Марыць Пілсудзкі-„маршалак“
Аб межах:—
„Ад мора да мора“.
Навісаюць вайны чорныя шалі.
Ізноў: папялішчы... руіны... гора.
Кілішкі зьвіняць у Варшаве...
Кілішкі ў Парыжы—вясновы уздым.
„Раззброеньнем“ заняты дзяржавы,
...Над Кітаем—пораху шызы дым.
Вецер попел разьвей
Ад згарэўшых прадмесьцяў.
Гэта там, дзе Чапэй
Кулі сьпяваюць песьні.
Гэта там, дзе Шанхай,
Гэта там, дзе Усун—
Здратаваны Кітай
Сустракае вясну.

*

Нарастае крызіс штодня
І банкруцтвы адно за адным.
На парадку—ізноў вайна,
Выйсьця няма без вайны.
Ты чуеш—старая Эўропа—
Крыкаў галодных рокат?
Крыкі галодных людзей—
— На барыкады!
Сьцяг барацьбы узьвей!
За „айчыну“ ня йдзі паміраць
Сіняблюзы—ангелец, француз і японец.
Бо айчына твая і мая—
Гэта там, дзе ніхто не няволіць.
эта там Днепрабуд—
ГПрывітаючы Май

Рапартуе краіне
Электрасьветам.
Вось гэта айчына
Твая і мая
Ї завецца—
Краінай саветаў.
Вось за гэту айчыну
Паўстаньце усе!
Нацэлім па ворагу
*Верна!*
За вольны
Чырвоны сусьвет
У бой!
Пад сьцягі
*Комінтэрну*!!!

Красавік 1932 г.
з-д імя Варашылава

---

## ШЛЯХІ ПЕРАМОГІ

### I

Цэх напружваў усе свае невычарпальныя сілы. Штодзенкі што-дня сырэнілі аб выкананьні; партыйцы і комсамольцы заставаліся на звыштэрміновую працу; іх прыкладу пасьледвалі беспартыйныя. Моторы, нібы жадаючы не адстаць, здавалася павялічвалі скорасьць вярчэньня сваіх шківаў.

— Даць сто!—было адзіным імкненьнем.

Норд—брыгадзір торфпрэсаў і рэдактар штодзённай брыгаднай газэты, быў хмуры. Чорныя бровы насунуліся на вочы, якія вострым позіркам калолі штодзенку. З ілба былі сьцянуты на бровы ўсе маршчынкі. Яны, здавалася, сабралі ў сябе ўсё яго нездавальненьне.

Ён стаў, аблакаціўшыся на варштат. Перад ім на варштаце ляжала штодзёнка, і ён у соты раз прачытваў зводку выкананьня, якая казала, што месячнае заданьне выканана на сто.

Здавалася-б усё добра.

Не!

Крыху ніжэй было напісана, што квартальнае выканана толькі на 66

Ганебная лічба. Яна тачыла яго, бы нейкі зубасты чарвяк.

„Дзесьць машын недадана балотам,—казалі процанты ў перакладзе на машыны.

Дзесяць... Сто семдзесят тысяч рублёў.

Таму ён хмуры. Таму ён незадаволен.

Час ад-часу твар яго расплываўся ўсьмешкай. На ілбе зьбіраліся рэдкія маршчынкі, губы разыходзіліся і відаць былі белыя зубы. Але вясёласьць раптоўна праходзіла і твар быў зноў сур'ёзным.

Да гудка на працу была адна гадзіна.

Глядзеў ён на штодзёнку з поўгадзіны. Потым дастаў аловак і там, дзе было напісана „адказны рэдактар“ паставіў сваё прозьвішча—чатыры літары.

Прарваўшы на ўскрайках зьверху ў двух мясьцінах, ён узьдзеў яе на цьвічкі. Не пасьпеў ён адыйсьці, як каля яе апынулася ўся брыгада.

Гэтага ніколі ня было, гэта ніколі не здаралася. Нейкім магнэсам пацягнула брыгаду сёньня да яе.

Пасярэдзіне штодзёнкі, ва ўсю яе шырыню разьлёгся карыкатурай шлях, па якім ехалі людзі. Брыгада глянула на гэты шлях і ўбачыла сябе, як у люстры.

Сьпераду на новым аўто імчаўся прамфінплян, кіруемы Нордам. Далёка з-заду, на двухгорбым вярблюдзе, ехаў групавод „прэса Рогава“—Апанас Фазан, аглядаючыся назад.

Ён быў нечага весел, усьмешка яго была едкай, бы ён з некага сьмяецца. За ім, некалькі адстаўшы, сьпяшаўся, пытаючыся яго дагнаць, групавод „галоўнай часткі“—Андрэй Мікіценка. За Андрэем, спусьціўшы лейцы, плёўся, нібы тыдзень ня еў, групавод. „Подвігаў“—Анатоль Ангораў. Зьверху і зьнізу быў тэкст. Растлумачваць яго ня трэба было—ён быў усім зразумелы.

Адны, паглядаючы на штодзёнку гаварылі:

— Нас ніхто не дагоніць.

Мікіценка супярэчыў:

Нічога вечнага няма.

Толькі група Анатоля Ангорава паглядала моўчкі і нічога не адказвала. Вочы іх сьвяцілі крыўдай, невядома на каго. Мабыць на штодзёнку, якая іх кранула і міжнольна, бяз гукаў, бяз слоў загадвала:

— Падцягніцеся!

Сам групавод ледзь стрымліваў волю, яго цягнула сарваць яе. Казік, чуючы яго намер, сказаў яму:

— У гэтым нічога няма, гэта завецца самакрытыкай, а калі сарвеш яе, цябе назавуць „зажымшчык самакрытыкі“ і па галоўцы не пагладзяць.

Анатоль выслухаў і зразумеў, чым гэта пахне і ледзь чутна агрызнуўся:

— Чарапаха!—клікнуў Анатоль. Чым па табе ехаць, лепш пехатой ісьці. І сьціснуўшы зубы, працягваў:

— Глупства. Павісіць сёньня, а заўтра здымуць.

Казік сваімі вачыма ахапіў яго з ног да галавы і некалькі падумаўшы адказаў:

— Не!

Гэта „не“ ўрэзалася Анатолю ў памяць і час-ад-часу ён зноў пытаў Казіка.

— Ну, як?

А адказ Казіка быў заўжды адзін.

— Не!

Загула сырэна. Штодзёнка засталася адна. Мастацкай карыкатурай сьвяцілася яе сярэдзіна, жывой, надаючай бадзёрасьці: для адных едкай, няпрыемнай для другіх. Яна была малёвана паводле макету Норда. Норд перайшоў да барацьбы за недаданых дзесяці машын.

*

У час абеду, калі рабочыя былі ў сталоўцы, на штодзенку нацэліўся фотокор „Рабселькора“, прафорг, брыгады Алесь Гарачы.

II

Стракатаў апарат. Зрэзанай пірамідай ставіўся на экран пучок праменьняў, а экран у тахт рухаў на ім, пачынаў глуха гучэць: „Гоп са смыкам гэта буду я“. Плылі кадры знаёмага для Анатоля бяспрытульнага жыцьця.

— Во, гэта хлапец, свой у дошку,—гаварыў ён, калі перад ім зьяўляўся Мустафа.

З такім не прападзеш!—адказвала ўпэўнена Тонька і ціснулася да Антоля, схіляючы сваю галаву да яго на плячо.

Анатоля абдавала тады нейкім цяплом. Яму здавалася, што яе кроў пераходзіць да яго, і час-ад-часу ён кідаў свой радасны погляд на яе твар, які быў сур'ёзны, і ня зводзіў сваіх вачэй з экрану.

— А ведаеш, як усё гэта знаёма?—шаптаў Анатоль, паціскаючы Тонькіну руку.

Ізноў гучэлі словы бяспрытульнай песьні:

„Ремеслом я выбрал кражу
Из тюрьмы я не вылезу,
Гоп со смыком это буду я“.

А Тонька пра сабе паўтарала гэты лёгкі мотыў. Ад яго нясло басяцтвам, якое нічога агульнага з рабочай клясай ня мае. Анатолева „знаёмая“ падказала ёй, што ён у мінулым „свой в доску“. Яна пацікавілася ці гэта сапраўды так.

Анатолю мінулае ўспамінаць, было казкай.

Лаўкі вакзалаў, дахі вагонаў, топкі паравозаў; гарады, сталіца, станіцы.

Украіна, Масква, Каўказ;

Голад, холад, гразь;

Дзіцячыя дамы, дзіцячыя колёніі, профшкола і ён—комсамол,—які даў яму пуцёўку ў жыцьцё.

А калі Качалаў (на экране) атрымаў заключнае слова, Анатоль канчаў „скарочаную ў дзесяць разоў“, як ён яе сам зваў, гісторыю свайго жыцьця.

Тоньцы паказалася расказанае сапраўды казкай. Яна зноў запытала Антоля:

— Ня ўжо ўсё гэта праўда?.. Раскажы поўнасьцю.

— Праўда, Тоня. Жыцьцё—бязумоўна праўда. А поўнасьцы ня варта—адказаў ён, ужо выходзячы з кіно.

— Не! Варта! ды яшчэ і як,—працягвала з неаслабнай настойлівасьцю Тоня.

— Ці варта!—стаяў на сваім Анатоль. Не агледзіўся, як праляцела дзевяць год. Дзевяць год, як кінуў я вандраваць. Жартачкі? Праз год юбілей... Апавядаць ня варта... Калі-небудзь кніжачку напішу...

— Што? Кніжачку?—ня верыла Тоня.—А ці хутка гэта будзе?

Ногі ступалі цьвёрда, упэўнена. Ён прыемна адчуваў цяплыню яе рукі.

— Пажывем—пабачым, няўважліва кінуў ён.

— Хто цябе пісаць вучыць?

Перажытае ўстала перад ім чорнай хмарай, якая ніколі не зьбярэцца зноў. Падрабязгі чорным па чырвоным успаміналіся яму. Таварышы, пад коламі хуткіх цягнікоў—бязрукія, бязногія. Казкай успомніліся яму мінулыя перагоны, і ён нібы жадаючы згусьціць усё гэта, адказаў:

— Яно—жыцьцё!

Тоні адказ спадабаўся, на твары зьявілася ледзь прыкметная ўсьмешка, чорныя вочы застылі, здавалася, нярухома.

Гэтыя два простыя слоўцы апавядалі аб усёй складанасьці яго навучаньня.

Пайшлі моўчкі. Яна зьлёгку апіралася на яго руку. Вуліца стыгла ў цішы. Толькі маленькі ветрык шуршэў у Анатолевай чупрыне, якая выбівалася з-пад кепі. Думала аб нечым Тоня, нешта ўспамінала, а Анатоль пазіраў на яе і сэрца адчувала радасьць.

III

— Гэта ты ў „Рабселькоры“ на чарапасе едзеш?—спытала раптам Тоня.—Прозьвішча тваё ледзь прыкметна, але я прачытала,—дадала яна. Твар яе неяк зьмяніўся. Ранейшая лёгкасьць зьмянілася на сур'ёзнасьць.

„Значыцца я памыліўся“—падумаў Анатоль.

Штодзенка аказалася мацней, чымся ён прадугледзіў. Яна вісела, хоць звычайна, калі вывешвалася новая, старая здымалася. Ды яшчэ карыкатура перашла, якімсьці чынам у „Рабселькор“.

„Хіба „Рабселькор“ зацікавіўся мною? Анатоль Ангараў усебеларускай велічынёю ст ў“,—думаў і сьмяяўся ў сэрцы Анатоль.

— Што наогул там напісана?—нясьмела спытаў Анатоль.

Тоня, як-бы не давяраючы больш яму, не апіралася больш на яго руку...

— Зьмешчан артыкул „У барацьбе за торф“...

У мяне ёсьць газэта,—выцягнула яна з кішэні „Рабселькор“, акуратна зложаную, разгарнула яе, потым зноў перагнула і падала Анатолю.

— На, чытай!—кінула яна з насьмешкай,

Анатоль пачуў у апошнім сказе абвінавачаньне. Ён глянуў на газэту. „У барацьбе за торф“,—крычэла „шапка“ над аглядам. Пад „шапкай“ прымасьціліся назвы газэт, штодзенак, пад імі радкі ўборыстага шрыфту, а ў самым нізе—клішэ. Подпіс пад ім нельга было разабраць—літары кідалі свае тусклыя, рыжыя праменьні.

— Што ж тут напісана?—нездаволена спытаў Анатоль.

— Напісана там аб тым, што дрэнна рыхтуецца ваш завод да тарфянага сэзону; ня выконвае програмы выпуску гідраэлеватарных установак, альбо, як ты іх завў, „торфпрэсаў“—і барацьбы штодзенкі за выкананьне заданьня, адказала яна.

— Сорам вам, чырвонаштандарны!—зноў пажартавала яна над ім.

Анатоль ведаў, што ў брыгадзе прарыў, але ніколі не задумваўся над тым, што яна можа думаць аб яго заводзе, аб яго брыгадзе, аб групе, у якой ён працуе.

Дзесяць торфпрэсаў недадзена балотам, на сто семдзесят тысяч рублёў.

„ А колькі тон торфу застаецца на дне балот...

„ А колькі кілёват недавыпрацуюць электрастанцыі энэргіі...

„ А колькі гадзін, дзён мабыць прастаіць завод з-за непадачы энэргіі,—мітусілі думкі Анатоля.

— Кінь, Тонька! Пасьпеем яшчэ выканаць... супярэчліва адказаў ён.

— Ні ў якім разе,—адрэзала Тоня. Што запяе наша электрастанцыя, калі ён не дадуць торфу?—запытала яна.

Анатоль слухаў звонкі Тончын галасок і разам адчуў непарушную моц магутнага ланцуга, зьвеньнямі якога зьяўляюцца яны:

машынабудаўнічы завод,
тарфяны завод,
электрычная станцыя,

яна—Тонька, і ён—Толька.

Ён нічога не адказаў. Далей пайшлі моўчкі. Ланцуг гэты паўстаў перад яго вачыма ва ўсёй сваёй магутнасьці, монолітнасьці. І Анатолю здавалася быццым гэта не ланцуг, а зачаравананае кола. Але ён ведаў, што яно мае выйсьце.

— Мы кіраўнікі ланцугу, мы яго гаспадары,—сказаў ён зусім голасна.

Тоня не пачула, а мабыць незразумела сэнс яго слоў і спытала:

— Што?

— Твая праўда, сорам нам—прыняў ён пакрыўджана. Толькі табе прызнаюся. іншаму-б ніколі не сказаў... Твая праўда,—паўтарыў ён і заламаў брыль кепі з такім выглядам, быццам адважыўся на штосьці рызыкоўнае.

Тоня паглядзела на яго сваімі вострымі вачыма і адчула гэту няўпэўненасьць.

— Сьмялей! Ты быццам чагосьці не дагаварваеш.

— Што цябе прымусіла думаць аб нашым заводзе?—спытаў ён замест адказу.

Тоньцы пытаньне паказалася наіўным, простым. Адказ штодня даюць газэты.

— Торф—справа ўсяго беларускага комсамолу, справа кожнага комсамольца.

Ня прыкмецілі як падышлі да Тоньчынае кватэры.

— Зайдзем да мяне, Толь! Валькі сёньня няма, паехала з брыгадай на торфзавод. Заходзь!

— Ня варта. Заўтра на працу трэба. А цяпер пазнавата...

— У мяне перасьпіш...

— Позна. А заўтра на працу трэба,—паўтараў Анатоль.

— Табе-ж бліжэй на завод ад мяне,—угаварвала Тоня.

Анатоль ня ведаў што рабіць. Пад „гальштукам“ на працу ня

пойдзеш. Спэцвопратка ў хаце. У замяшанасьці, ён узяўся за гузік паліто і пачаў яго круціць „Ісьці або не?“.

„Так і быць“—рашыў ён.

— Дай пяць, Тонька! Не магу! Заўтра на працу ў касьцюме прыдзецца. Каб перад выхадным...

Тонька залілася тонкім сьмехам, які дробнымі струменьнямі пакаціўся ўздоўж вуліцы.

— Дай пяць!

Рукі пацiснулі адна адну, і разам адчулі адзінасьць.

— Бывай,—праказала Тоня,—а Анатоль адказаў яшчэ больш гучным:

— Бывай!

## IV

Ён сьпяшаецца.

Ногі плаўна і лёгка ступаюць на асьнежаную зямлю, тулава падалося ўперад, высока ўзьлятаюць рукі, здаецца вось-вось ён адарвецца ад зямлі і плытка паплыве ў сінім ранішнім паветры.

Ён сьпяшаецца,—спазьніцца нельга.

Успомніў, як прышоў на завод, калі ўжо ўсе пачалі працаваць. Ішоў да свайго варштата і здавалася ўсе глядзяць на яго маўкліва, пытаючы: „чаму?“.

Адрэзвае сырэна ад васьмі пяць мінут—і ён супакойвае сябе думкай: Ужо блізка, значыць пасьпею“. Мінуў ужо „Бальшавік“ з яго клеяварнай, якую нос адчувае за сотні крокаў,—падбягаў да заводзкае аркі... І раптам яна завыла. Завыла галосна, загадваючы распачаць працу. А ён яшчэ толькі ўзяўся за ручку дзьвярэй кантрольнай будкі.

— Ты спазьніўся,—падае з боку.

— Не! Якое там!

— Ты спазьніўся!!

Але ён не зьвяртае ўвагі; здымае марку і ідзе далей.

— Ты спазьніўся—адбівае сэрца, яшчэ пасьля таго, як ён праскочыў кантрольную будку.

Не!

„А можа і так“,—адказвае з нутры няўпэўнены голас.

„Ты ўкраў сам у сябе пятнаццаць мінут часу,“—здаецца яму, скажа табэльшчыца, калі ён павесіць марку на цэхавым табэлі.

Яна маўчыць.

Не!

„А можа і так“,—адказвае няўпэўнены голас.

Але ён ведае, што гэта праўда. Ён мімвольна адчувае гэта. І неяк нялоўка становіцца яму, уваходзячы ў цэх.

Як і ў мінулы раз, яму здалося, што на яго ўсе глядзяць. Ногі ступалі на падлогу між рэек вузкакалейнай дарогі асьцярожна і ціха. Рабочыя стаялі каля сваіх варштатаў. Пілы і натоўкі сьпявалі сваю магутную песьню давяршальнаму году.

Ён падыйшоў да сваіх ціскоў, скінуў кажух, адчуў сябе больш вольна. Казік пытліва паглядзеў на яго і нічога не адказаў.

Анатоль падаўся да замка, той дзынкнуў (адскочыла пружына). Рука пацягнула скрынку, быццам у ёй ляжала пудоў дзесяць інструманту. Яна ня вытрымала, са стукам, звонам паляцела ўніз.

А Норд быццам і чакаў гэтага

Анатоль на „чарапасе“ досыць нацёр яму вочы. І яму здавалася, што штодзенка на Анатоля не падзейнічала, быццам ён сапраўды меў чарапашую броню. Норд лічыў гэта простым ігнараваньнем штодзенкі.

Ён прышоў да Ангарава, сур'ёзна ўпіўся ў яго сваімі вострымі вачыма, аглядзеў яго і ўсьміхнуўся.

— Што, Ангараў, сільцы няма куды дзяваць?—запытаў Норд.

Толька стаяў моўчкі і не глядзеў на Норда. Балела галава, вочы засьцілаў туман. Скрынка, інструмант рассыпаны на падлозе, цэх—адыходзіў кудысьці ў бок...

— Што?—нездаволена перапытаў Анатоль.

Норд—стары тавырыш Анатоля, разам профшколу канчалі. Ён ужо брыгадзір, а Анатоль яшчэ толькі па пятым разрадзе працуе. Анатоля Норд ведаў як сваіх пяць пальцаў. Ён здаваўся яму нейкім раздвоеным. Сёньня ён мог гаварыць так, ягаджацца на тую ці іншую справу; заўтра ён мог перақазваць інакш—супярэчыць з тым, на што ўчора даў згоду; а пасьлязаўтра, зноў стаяць на першым. І такая хістакасьць рабіла Анатоля няцьвёрдым, бы няўпэўненым ва ўсіх сваіх рашэньнях. Усё гэта добра ведаў Норд.

— Як? Прыемна падарожжа на чарапасе?—кальнуў ён.

Чарапаха, якая дагэтуль не мяшала Анатолю, недавала цяпер яму спакою. „Кожны ў вочы з ёю лезе“,—думаў Анатоль. Яна яму стала раптам абрыдлай, няпрыемнай.

— Чаму ў цябе за работай, быццам сапраўды на чарапахах едзеш... Трэці дзень валік зьбіраеш, і не сабраў. А твая група, паглядаючы на такога групавода, не адстае ад яго,—працягваў Норд. Ён гаварыў, быцца чытаў нейкую сьмешную байку: проста чотка, зразумела.

Анатоль слухаў і ў думках параўнаў учарашні вечар. „Тоня казала тое-ж, другімі словамі“,—здавалася яму,

— Я таварыш твой, а павінен буду давесьці да ведама майстра цэху,—дадаў ён, паглядваючы на Анатоля, які зьбіраў інструмант.

Апошнія словы Норда прагучэлі Анатолю пагрозай, якую ён не чакаў пачуць ад таварыша. Норд-жа лічыў сваім прамым абавязкам папярэдзіць магчымае здарыцца ў будучым.

Анатоль загарэўся:

— Ты мне ўказваць будзеш? Хто ты такі? Нашоўся спэц!— выпаліў ён, зьбіраючы інструмант.

Норд такога адказу не чакаў. Ён выпусьціў з-пад увагі, што мае справу з Анатолем.

— Я брыгадзір!—адказаў Норд на першае пытаньне,—і адказваю за выкананьне заданьня. А гэта табе не колёнія бяспрытульных, дзе ты „глаўкомам“ быў... Гэта табе не профшкола... Гэта завод!— адказаў ён на другое і пачаў закурваць.

Толька прыпадняў скрынку, уставіў яе ў гняздо. Яна павольна паехала на сваё месца. Рой думак апанаваў ім.

„А што калі сапраўды так здарыцца? Баня будзе ад усіх: ад комсамолу, ад саюзу, ад таварышоў. Не, ня будзе. Будзе інакш,“— разважаў ён пра сябе.

Норду ён нічога не адказаў,—нібы згадзіўся з ім. Рука яго пацягнулася за муфтай, якая ляжала ў кутку ля акна. Вочы яго не маглі глядзець прама на Норда, быццам Анатоль яму быў нешта павінен.

А Норд, змахнуўшы рукой попел, які упаў з папяросы на спэцоўку,—прагаварыў:

— Трэба яшчэ з цябе бяспрытульныя вольнасьці выветрываць. Так і нясе імі ад цябе.

— Вольнасьці,—паўтарыў Анатоль.—Якія вольнасьці?— І сам вышаў на двор.

„Ён ведае, што гэта такое, і з чым гэта ядуць“,—падумаў Норд.

## V

— Што ён з цябе, Апанас, рагоча?—заўважыў Норд Апанасу Фазану, слухаючы стрекат перабору.

— Часам бывае, што рагоча,—згадзіўся Апанас.

— А як у цябе наогул дзялы?

— Чыгун—як сталь, адказаў Фазан, гледзячы на разец.

Норд глянуў, як рассыцаецца стружка пылам, чуў як рыпіць разец і згадзіўая з Апанасам, што чыгун сапраўды цьвёрды і сказаў яму, чаму ён такі.

— Так, так. З лому, таму і цьвёрды—паўтарыў Апанас.

— А ты рад, што на вярблюдзе да соцыялізму едзеш?—прыкінуўся Норд няведаючым.

— Ня надта што надзейная язда. Можна і не даехаць.

Норд перакінут у брыгаду партыйнай ячэйкі. Ужо другі месяц як ён кіруе брыгадай. Першы месяц працы ён скончыў выкананьнем на сто, але квартальнае недавыканана і гэта не дае яму пакою. За гэты месяц ён азнаёміўся з машынай, ўладаў яе тэхнікай. Заклаў фундамант для ўладаньня тэхнікай рабочымі брыгадамі, стварыў тэхнічны гурток, падабраў для яго кіраўніка, пераканаў большую частку рабочых брыгады наведваць гурток.

Апанасу пагляд Норда сёньня не спадабаўся: ён быў надзвычай гострым, пранізываючым і сур'ёзным.

— У тваёй групе людзей хапае?—запытаў Норд.

— Хапаць то хапае, але ня зусім.

Норд зразумеў, што Апанас хацеў гэтым сказаць „людзі ёсьць, але не такія патрэбныя“.

— Што з імі рабіць? Патрэбны яны табе альбо не?

Апанас быў такога складу чалавек: „Сам нікога не чапай, і цябе ніхто не зачэпіць“. За апошнія часы ён стаў неяк сьмялей, выступаў на сходах. А асьмялеў ён пасьля таго, як групы перайшлі на зьдзельную аплату. З Нордам, праўда, ён быў сьмялей, але звычка старая зрабіла яго да такога роду пытаньня глухаватым.

— Як кажаш Сьцёпка?

— Патрэбны яны табе альбо не?

— Дасі лепшых, бяры...

— А калі не?

Апанас апынуўся на шкляным ільдзе, ня ўмеючы коўзацца на каньках. А Норду такія становішчы надзвычайна падабаліся. І кожны раз ён умеў прывесьці пытаньне да такога пункту. Гэтым ён пазнаваў чалавека.

Апанас крыху падумаў і адказаў:

— Як па-твойму, так і рабі.

— Ты як дзіцянё малое, якое хадзіць ня ўмее і поўзае. Так і ты. Гавары проста: так альбо не.

Апанас заставаўся зусім ціхім, яго нібы не кранула. Ён адчуваў, што калі ад яго забяруць гультаёў, яму стане лягчэй. Але тое,

што Рымка пачне аб ім плёткі разносіць, калі парушыць яе пакой, непадабалася яму.

— Але чаму, Апанас, ты такі нерашучы, каго баішся? На табе адказнасьць за выкананьне заданьня групы, а ты марудзіш.

— Мая група ня з-заду,—апраўдваўся Апанас... Каб іншыя ўперадзе ішлі, неяк няёмка было-б. А так...

Сьцепка пачуў у гэтым „а так“ нейкую няўпэўненасьць Апанаса. А астатнія групы, якія з-заду Апанасавай ідуць. У якіх групаводы прыкладу на рабоце не паказваюць. „Сем гадзін адрабіў і дамоў“, якое штодня ад іх чуе—гаварыла само за сябе. Ненаведваньне тэхнічнага і політгуртка ставіла іх не на вышыню становішча. Гэта выцякала і з Фазанавага „а так“. Але ён цьвёрда верыў, што яно павінна зьмяніцца, як толькі якая-небудзь група перапаўзе Апанасаву.

... Голас Апанаса абарваўся і ён скончыў:

— Забірай.

— Значыць ты згодзен?—запытаў яшчэ раз Норд.

Уся гэта перамоўка са Сьцёпкай не заставіла на Апанаса, знадворку, ніякага сьледу. Твар яго як быў румяным, так і застаўся. Вочы як наглядалі за разцом, так і ня сыходзілі з яго гарэньня.

Сьцёпка ў гэтым задумлёным твары ўбачыў сваю перамогу.

— Ці пазнаеш Апанаса—учора, сёньня, заўтра?

— Не!—адказаў задумёны твар.

## VI

Нібы вострым напільнікам пацягнуў Норд па Анатолю. Пасыпаліся думкі.

„Штосьці рабіць трэба. Далей так працягвацца ня можа“.

Назаўтра, калі сырэна гула на восем, у Анатоля ўжо было цьвёрда вырашана: склікаць сход, каб абгаварыць становішча, якое атрымалася ў групе. Хлапцом з Анатолевай групы, яно не падабалася. Загадзя паведаміўшы, што ў часе абеду сход,—Анатоль пасьля гудка прысеў на толькі што скончаны валік. Ён выцягнуў з кішэні лісток паперы, на якім быў коратка накінут плян працы ў будучым і быў упэўнен, што група з ім згодзіцца.

Злажыўшы інструмант у скрыні, хлопцы адразу-ж зьявіліся.

— Нам баня будзе!—сказаў Анатоль, адчыняючы сход.

Таварышы па групе ніколі ня чулі з вуснаў Анатоля падобных сказаў і ўразумелі, што нешта здарылася з Анатолем.

Двое сядзелі побач з Анатолем, тры насупроць на варштаце.

— Што ты кажаш?

— За што? Жартуем?—перабілі таварышы.

Анатоль некалькі прыпыніўся, а потым працягваў.

— Вядома за што—за тое, што на чарапасе едзем. А ці да твару нам на дапатопных сродках перасоўваньня шлях да соцыялізму трымаць.

— А табе галава баліць—зноў умяшаўся Янка.

Анатоль не зьвярнуў увагі і гаварыў далей:

— А ад каго таксама вядома: па комсамольскай лініі нагрузкі ня выконваем. Галоўная нагрузка—выкананьне вытворчай програмы. Раз ня выконваем—значыць не комсамольцы. Зразумела?—запытаў канчаючы Анатоль.

Хлопцы нічога не адказалі. Анатоль гэта прыняў за згоду і працягваў:

— Ужо 10, а мы толькі распачалі зборку за мінулы месяц. Астатнія групы наперадзе ідуць, у іх напалову работа зроблена.

Нас шасьцёра: пяць комсамольцаў і дзядзька Забела. Я ўношу прапанову,—гаварыў далей Анатоль:—абвясьціць нашу групу ўдарнай па ліквідацыі прарыву; павесьці спаборніцтва між сабой з тым, каб ня толькі нагнаць астатнія групы, але і перагнаць іх. Чулі? Як ваша думка?—скончыў Анатоль, пытаючы групу.

— Значыць дагнаць і перагнаць іх, тады мы і заробім лепш,—выказаўся дзядзька Забела.

— Тое, што заробім лепш, само сабой разумеецца,—сказаў Казік. Я прапаную разьбіць нашу групу на тры: па два чалавекі ў кожнай і павесьці спаборніцтва паміж падгрупамі.

Янку не спадабалася.

— Зачым гэтыя групы? З мяне і падзенка хопіць.

— А, нябось, пасьля палучкі шыпіш, што няма прырабатку—папракнуў Янку Забела.—Па-мойму трэба адкрыта казаць; „дагнаць і перагнаць“ астатнія групы, альбо не?

Зноў стаў гаварыць Анатоль.

— Паспрачаецеся пасьля працы,—зьвярнуўся ён да Забелы і Янкі?

— А цяпер скажы, Янка, што ты хацеў сказаць.

Янка штосьці адказаў, але ніхто не разабраў што іменна.

— Дык гавары сьмялей. Свае людзі,—сказаў Мотка.

— Я-а ня-а суп-п-роць. Але наша справа маленькая: адрабіў сем гадзін і баста. Вось што я хацеў сказаць. Але калі я адзін, дык я ня супроць.

— Гэта мы потым пабачым. „Сем гадзін і баста“—зусім не па ўдарніцку. На тэхнічны гурток трэба хадзіць. На політгурток неабходна,—адказаў Алесь Гарачы.—Па-мойму групы па прынцыпу добраахвотнасьці складзем. Хто з кім хоча працаваць, з тым і будзе дадаў Анатоль.

— Я з Мотай,—сказаў Казік.

— А я адкрыта кажу, што з Алесем буду...

Значыць падзяліліся: Казік з Мотай, Алесь з Забелай, ну, а я з Янкай,—сказаў Анатоль.

Янка быў злосны сам на сябе.

„Хай-бы я лепш пайшоў абедаць. А так груп нейкіх нарабілі. Ды яшчэ з Анатолем, гэта-ж не адарвацца. Хай сабе папрацуем, пабачым“,—думаў Янка, ідучы абедаць.

*

Норд прыкмеціў сёньня па Анатолю: ён, як ніколі хмуры. „Нешта думае зрабіць. Вынаходзтва якое“,—усплыла думка.

І сапраўды, ідучы на абед, ён бачыў, што Анатоль пакінуў сваю групу на сходзе.

„Для чаго? Не паабедаўшы?—Хітра... Каб ніхто ня ведаў ці што? Штосьці адкалоць задумаў... Сапраўды па-баявому з месца ў кар'ер“.

А калі, паабедаўшы, уваходзячы ў цэх, сустрэўся вачамі з Анатолем, ён убачыў у іх нейкі агонь, на тварах яго таварышоў нешта новае, сьмелае, бы нідзе невыпрабаванае.

— Задумалі хлопцы мяне з аўто ссадзіць. Ну, што? Хай сабе Я буду вельмі здаволен.

## VII

Раней работа ў групе „подвігаў“ распачыналася так:

— Што сёньня рабіць?—пыталі яго таварышы.

Адказ Анатоля кожны раз не адрозьніваўся ад ранейшага.

— Няма работы?—На двор дзіркі сьвідраваць.

А пачуўшы „на двор“, той, хто пытаў, адказваў:

— У мяне работа ёсьць, я гэта так сабе пытаў.

А на двары работа стаяла на адным месцы.

Зрух наступіў тады, калі для кіраўніцтва брыгадай быў пастаўлен Норд. Ён заўважыў на гэта Анатолю. Анатоль згадзіўся з ім. Цэлы месяц на двары стала працавалі тры чалавекі, на чале з Мотай.

Працаваць прыходзілася на дваццаці пяці градусных марозах, але Мота даручаную яму работу выканаў у тэрмін.

Марозы загартавалі іх да барацьбы.

*

Сёньня пасьля абеду яны распачалі зусім нязвычайна. Ціха—без размоў, нібы загадзя абмеркаваным плянам.

— Значыць мы з табой?—зьвярнуўся Анатоль да Янкі.

Янка агрызнуўся.

З табой, начальнік.

— Значыць на кожнага па валіку? Добра!

— Валік—за дзень норма... А мы пасьля абеду пачынаем, адказаў Янка.

Ня верылася Анатолю, што за чатыры гадзіны нельга сабраць валік, хоць на ранейшы валік ён страціў пятнаццаць.

— Якое шмат... Ты скончыш раней—мне дапаможаш, я—табе дапамагу.

Янка нічога не адказаў. Распачалося яно зусім нечакана для Анатоля... Янка ўвесь аддаўся рабоце.

Напілак закоўзаўся па валіку,—гаворка спынілася, толькі зрэдку чуўся глухі звон.

Рухі рабіліся як па графіку: дакладна, каротка бяз сьпеху.

— Дзе падшыпнікі?—спытаў Янка Анатоля, яшчэ ня скончыўшы ачыстку другой зубчаткі.

— Вунь!—паказаў Анатоль пальцам на скрынку, каля якой у парадку былі складзены падшыпнікі.

— Бяры і для мяне,—дадаў ён.

— А ты ня можаш схадзіць?

Анатоль паклаў напілак і пайшоў за падшыпнікам.

Прынёс пару, завярнуўся і ўзяў яшчэ пару. Янка глядзеў на гэта і змаўчаў,—неяк нялоўка стала. Анатоль-жа лічыў, што німае аніякага значаньня—хто прынясе: ён альбо Янка.

Праз гадзіну пасьля абеду ўсё было на валіку. Засталася самая вялікая частка работы—зрабіць нацяжныя шпонкі.

Шпонкі распачалі ў адзін час.

Цёмна-бурая адкоўка жалеза з крывымі галоўкамі ператваралася ў іх руках у роўныя, бліскуча-гладкія, з правільна апілаванымі галоўкамі—нацяжныя шпонкі.

— Ну, хто раней скончыць валік? у часе работы спытаў Янка.

— Потым пабачым!

— Глядзець нечага. Раз я сказаў—кончана.

Пачалося спаборніцтва.

Напільнікі хадзілі ўпэўнена, цьвёрда, размашыста. Янка і сам забыўся аб тым, што ўчора гаварыў на сходзе. Свае нездавальненьні ён ператвараў у энэргію, якая прымушае зіхацець мэталь.

І сапраўды. Калі Янка скончыў другую, Анатоль канчаў апілоўваць галоўку.

— Ну, трымай,—зьвярнуўся Янка да Анатоля.

Твар Янкі сьвяціўся ўсьмешкай; ён задаволен, што яго перамога.

Анатоль паглядзеў на яго і быў пераконан, што Янка—другі, ня той, што бузіў на сходзе.

Янка падрыхтаваўся. Упёрся, у руках вялікі бабітавы молат. І толькі Анатоль крануўся валіка, молат адышоў крыху назад і потым праз сэкунду, абрушыўся ўсёй сілай сваёй вагі і Янкавых мышц на зубчатку.

Глухі звон нясецца пасьля кожнага ўдару, а яны ідуць адзін за адным да таго часу, пакуль шпонка не схаваецца пад зубчаткай.

— Пайшла раз!—нясецца зычны голас Янкі.

— Пайшла два!—І ўдар за ўдарам грукаюць з разьмернай дакладнасьцю.

— Пайшла тры!!!—кідае Янка, калі застаецца відаць толькі галоўка.

А Янку чакае сюрпрыз.

— Цяпер трымай ты.

Яны мяняюцца месцамі. Янка моцна трымае Анатолеў валік. Зноў нясецца глухі звон. Молат плаўна ходзіць па штучнай крывой.

— Пайшла раз!

— Пайшла два!

— Пайшла тры!!!—і сыплюцца ўдары.

*

За паўгадзіны да гудка таль падымала сабраны валік Янкі. Ён зіхацеў ад радасьці. Міжвольна ўспаміналіся словы вершу.

„Неадстаць, перагнаць і т. д.

І ён, нібы жадаючы падчапіць Анатоля, кінуў:

— Ну, а што скажаш?—зроблена? Во як трэба рабіць!

— Мы даўно ведаем, што захацеўшы, можна зрабіць на першы погляд намагчымае,—адказаў Анатоль.

А яшчэ праз хвілін дзесяць, скончыў свой Анатоль.

Група „подвігаў“ цьвёрда парашыла сесьці на аўто.

## VIII

Апанас ішоў дамоў адзін. Звычайныя спадарожнікі Янка і Анатоль засталіся на заводзе.

У галаве мітусіліся розныя думкі.—„Чаму Янка застаўся на заводзе, ён такі-ж, як і я—„сем гадзін адпрацаваў і дамоў“. Але ён застаўся, значыць ён не такі, значыць ён не са мною,—значыць ён супроць мяне“,—рабіў Апанас лёгічны вывад. Але як ён можаісьці супроць мяне, калі я яго не чапаў, калі ён твой сябр“—працягваліся яны далей. Затым яны абрываліся і Янка і Анатоль уплывалі кудысьці далёка.

Ён ішоў далей, апусьціўшы галаву. Вачамі ўперся ён у ногі, якія паслухмяна ішлі ўперад і ўперад.

Гэта было так. Але яму здавалася, што яны то ідуць уперад, то стаяць на адным месцы. Потым прад ім паўставалі зноў вобразы Янкі і Анатоля.

— Хай што хочуць робяць. Я еду сьпераду,—супакойваў сябе Апанас.—Анатоль мяне не дагоніць,—барматаў ён. І нёяк няўпэўнена гаварыліся апошнія словы, бо па Янку заўважыў Апанас (Янка быў баромэтрам Анатолевай групы), што група „подвігаў“ нешта мяркуе, нешта прадпрыймае.

— Будзе бура!

Група „подвігаў“, некалькі дзён назад рознакаляровая, расшрубаваная, здавалася яму чамусьці цяпер моцна зьвязаным ланцугом, які мае толькі адно імкненьне: абагнаць яго. Ды ня толькі абагнаць, але і потым павесьці яго.

„Ня вельмі прыемна за аўто прывязаным ляцець“, думаў ён.

Міма яго праляталі гэтыя аўто, абдаваючы яго пахам перагарэўшага бэнзіну, і ён з нейкім здавальненьнем удыхаў гэты пах.

Вецер ляцеў з-заду і падганяў Апанаса, прымушаючы ісьці шпарчэй, і час-ад-часу асыпаў яго камякамі сьнега.

А перад ім усё мітусіліся: Анатоль і Янка: аўто і вярблюд; „подвігі“ і прэс Рогава“.

Ён і не заўважыў, як прайшоў двор, у якім жыў. І толькі тады, калі перад ім апынулася гара (ён вельмі мала меў ахвоты ўзьбірацца на яе), ён успомніў, што гара яму не па дарозе.

Яму здалося, што ён пайшоў ня тэй дарогай і пачаў спачатку ўзьбірацца на яе. Але ўзыйсьці аказалася не такой простай задачай і ён ня думаючы супраціўляцца, павярнуў назад.

Колькі часу яшчэ Апанас мерыў кварталы ён ня памятае. Дамоў прыйшоў ён а палове шостай, звычайна-ж прыходзіў на гадзіну раней.

Няпрыветліва сустрэў яго пакой, другі дзень ня палены. Ложак Янкі быў чысты і акуратна прыбраны.

„Шгосьці з Янкам робіцца“,—падумаў Апанас Фазан і, не распрануючыся, лёг на Янкаў ложак.

*

Уся група „подвігаў“ засталася на занятках тэхнічнага гуртка.

Акулярысты кіраўнік заўважыў, што лік асоб, якія наведваюць гурток, раптоўна павялічыўся.

— Што, новыя?—спытаў кіраўнік Норда.

— Але, старыя,—адказаў Норд.

— Супакойцеся, таварышы,—зьвярнуўся кіраўнік да прысутнічаючых.

Змоўклі.

— Сёньня пазнаёмімся з пабудовай чарцяжоў вашае машыны,—распачаў кіраўнік.

Анатоль ведаў чарцяжы і бяз гуртка (у профшколе вучыўся), але на занятках застаўся.

Заняткі адбываліся пэ месцы працы. Анатоль сядзеў на карыце і паглядаў на вісеўшую супроць яго новую штодзенку, побач з ёй засталася вісець на „дошцы ўдарніка“ і старая з вярблюдам, валамі і чарапахай.

Пасьля сходу сваёй групы, яна ўжо яго больш не чапала, яна была нэйтралізавана.

Андрэя Мікіценка яна ўсё больш непакоіла. Валы, валы, так і хацелі ўсадзіць яго на рогі, а Фазан хадзіў і пасьмяхаўся над ім.

— Валы, валы! Даганяй!

Аднойчы Андрэй ня вытрываў і кінуў са злосьцю:

— Пачакай, асэсар! Праз Казакстан ужо Турксіб залёг!

Кіраўнік працягваў:

— Перад намі чарцёж элеватара... Вось гэта падшыпнік—гэта зубчаткі, гэта шпонкі, а гэта валік—абвёў ён алоўкам белыя лініі.

## IX

З заняткаў Янка і Анатоль ішлі разам. Час-ад-часу яны перакідваліся гутаркай наконт кіраўніка тэхнічнага гуртка (Янку ён вельмі спадабаўся), працы ў групе і потым неяк выпадкова Янка сказаў:

— Сумна дамоў ісьці было сёньня Апанасіку.

— Сумна-сумна. А ён нейкі дзівак,—хоча супроцьставіць сябе брыгадзе. Ні на заняткі, ні на сход.

— Сапраўды дзівак. Носіцца з сваім вярблюдам як...

— А пасадзім яго ў калёшу, паносіцца тады.

— Па-мойму, гэта бясспрэчна. Вось сёнешнія заняткі, і то мне колькі далі.

Вецер зьмяніў кірунак і біў у твар. Пайшлі хутчэй. Спынілі гаворку.

— Сьвятла няма, няўжо куды пайшоў,—заўважыў Янка, падыходзячы да дому, у якім ён жыў з Апанасам.

— А мо' і пайшоў,—адказаў Анатоль.

Разьвіталіся.

*

Янка быў зьдзіўлен, калі, увайшоўшы ў пакой, запаліў сьвятло. Апанас замурзаны ўзьбіўся на яго чысты ложак і хроп, нібы ў якую трубу.

„Што за сіла ўсьцягнула яго“,—думаў Янка.

Ён падышоў да Апанаса і пачаў яго трэсьці.

— У цябе свой ёсьць! Чуеш?

— Га,—павярнуўся Апанас тварам да сьценкі.

— Злазь!

— Га?

— Злазь! Чуеш?—і, ня доўга разважаючы, хапіў за Апанасаў бот. Апанас і ня думаў паддацца. У Янкі ў руках застаўся толькі бот.

— Злазь! —крычэў Янка, ухапіўшыся за Апанасаву нагу. Апанас ня вытрымаў, і пасунуўся. Прачнуўся ён тады, калі прысеў на падлозе, апіраючыся на ложак.

— Чаго гэта цябе ўперла на мой ложак!—спытаў Янка, садзячыся на зэдлік.

— Гм... што?—замармытаў Апанас.

— Янка ледзь стрымліваў накіпаўшую злосьць.

Злосьць яго брала не ад таго, што Апанас узьбіўся на яго ложак, а чаму ён так зрабіў, што яго прымусіла гэта зрабіць.

Што толькі з цябе будзе Апанас?

Апанас пацягнуўся, устаў.

— Ой! сьніўся мне сон, хай ён прападзе. Быццам ты ўжо ня той Янка, а брыгадзір. І вось ты мяне чамусьці з брыгады пагнаў... І што Анатоль на аўто імчыцца па шт·дзенцы нескладана сказаў Апанас.

„Гэта здарыцца ў бліжэйшым будучым, калі я застануся такім,“— прабегла ў Апанаса такая думка.

— Ты памыліўся! Я яшчэ не брыгадзір, але я такі-ж член брыгады, як і Анатоль, як і Норд,—распачаў Янка.—Калі пазнаеш,—працягваў ён далей,—усю цікавасьць работы, калі ўсьвядоміш, што робіш ня толькі для сябе... І калі работа стане для цябе ня нешта такім, якім яна была мне некалькі дзён назад,—тады навошта тыя брыгадзіры,—толькі для таго, каб хто небудзь быў адказным. Але адказнасьць на нас усіх ляжыць. Інакш і быць ня можа.

Апанас выслухаў, пакруціў галавой.

— Так!—падумаў ён.

— А тое, „што Анатоль на аўто імчыцца“ і быццам я цябе з брыгады прагнаў,—працягваў Янка,—гэта справа часу.

А тое, што я-б цябе з пакою прагнаў, каб меў сілу, дык напэўна. Як гэта—зьмяніў Янка тон—на чысты ложак з бруднымі нагамі ўзьбіцца, не памыўшыся.

— Апанасу прамова Янкі была незразумелай.

„Дзе гэта сьмеласьці набраўся хлапец“,—думаў Апанас.

— Дзе ты быў,—спытаў ён.

— Застаўся на тэхнічным гуртку.

А хто табе параіў гурток наведваць?

— Як пачалі мы з Анатолем спаборнічаць, дык пабачыў я, што ён на шмат больш мяне ведае, чарцяжы лепш разумее. Мне гэта не спадабалася... Я раблю гадзіну, ён за сорак хвілін пасьпявае. Вось і парашыў я наведваць гурток па аўладаньню тэхнікай.

Янка распаліў прымус. У пакоі станавілася цяплей. Апанас маўчаў, Янка пазіраў на яго.

— Чаму ты такі гультай?

— Я? Гультай?—непаверыў Апанас.

— Як прышоў—ужо тры гадзіны і не прапаліў печ, і не памыўся... як-жа цябе назваць?

— Дома я трошкі... нічога ня значыць. А на заводзе я ўперадзе вас,—зноў уставіў свайго вярблюда Апанас.

Янку ён ужо прыеўся з ім. Янка змаўчаў.

— Значыць ты пад маскай на заводзе, проста кажучы. Ці можна так жыць?—спытаў Янка і сам адказаў.

— Не! Нельга!

Ніколі паміж Янкам і Апанасам ня было спрэчак,—яны былі падобны адзін да аднаго, яны адзін ад аднаго нічым ня розьніліся. І нешта накшталт сьцяны ўстала паміж імі цяпер.

Панурлівы ўстаў Апанас і, не адказваючы, паплёўся ў сенцы. Вярнуўся ён з ахапкам дроў.

„Адстаў ад жыцьця“,—думаў Янка, льлючы гарачую ваду ў таз.

Памыўшыся і пераадзеўшыся, ён стаў каля сталаі пачаў пісаць натату ў шматтыражку.

Перамяніўшы некалькі загалоўкаў, ён урэшце вывеў „Ударнік каля варштата—ударнік у быту“.

І гэта неабходна, каб сесьці на аўто!

## X

Норд бачыў, з якой хуткасьцю яго заўвагі ператвараліся ў конкрэтныя справы. З кожным днём разьбег групы „подвігаў“ рабіўся ўсё больш нястрыманым. Штодзёнка адзначыла гэта новым малюнкам.

Сьпераду на аўто, па-ранейшаму мчаўся Норд, за ім на пары рысакоў ляцеў Ангараў з сваёй групай, за ім на вярблюдзе ехаў Андрэй Мікіценка, а з-заду ў галошы апынуўся Апанас.

„Група Ангарава ідзе ўперад“,—казаў загаловак пад штодзенкай.

Норд адчуваў, што група „подвігаў“ ліквідуе запазычанасьць балотам. І тады аўто за Ангаравым. Апанас-жа па-ягонаму нешта спусьціўся.

Бой будзе за першае месца ў брыгадзе,—думаў Норд.

Выпадкова ў часе абедзенага перапынку Норд сустрэўся з Анатолем у габінэце сакратара комсамольскага комітэту. Норд прышоў абмеркаваць далейшы плян дзеяньняў; Анатоль задумаў вопыт работы сваёй групы перадаць астатнім групам брыгады.

— Ведаеш, Сёмка! У мяне да цябе справа,—зьвярнуўся Анатоль да сакратара.

Норд прысеў на дыване, які стаяў з другога боку стала.

— Выкладвай,—проста адказаў сакратар.

Анатоль нясьмела распачаў:

— Тыдзень назад мне Норд заўважыў, што мая група, маючая ў складзе амаль выключна комсамольцаў,—заданьне ня выконвае-

Спачатку я супярэчыў, ня ведаю цяпер чаму, Норд ад мяне нічога не дабіўся.

Норд сядзеў на дыване і ўсьміхаўся. Сакратар паглядзеў на яго і ледзь стрымліваў усьмешку.

— Але на справе,—працягваў апавяданьне Анатоль,—я ўсе ўказаньні Норда выканаў і бачу, што ў выкананьні іх няма нічога складанага, непасільнага. Цяпер я парашыў,—што мая група павінна быць першай.

— Як рэалізаваў яго ўказаньні? Правёў сход... На сходзе Янка Казлоў бузіў, але на рабоце, працуючы са мной, выправіўся...

— Так што ты хочаш гэтым сказаць,—перабіў уважліва слухаўшы сакратар.

— Гэта ўступ. Цяпер працу можна лічыць наладжанай... Усе—як адзін... Вось хачу—каб уся брыгада ішла гэтым шляхам... Таму я думаю абвясьціць нашу групу ўдарнай і выклікаць астатнія на соцспаборніцтва альбо ўзяць астатнія на грамадзкі буксір.

— Справа вельмі добрая—спаборніцтва, і індывідуальнае спаборніцтва паміж групаводамі... І ты ўпэўнен, што твая група ня здасьць?—спытаў сакратар.

Адказаў Норд, які дагэтуль сядзеў моўчкі.

— Упэўнен, я!

— Дык, вось паслухай ліст ад комсамольцаў торфзаводу „Чырвоны Тарфянік“ на наша імя,—працягваў сакратар.

### ДА ЎСІХ КОМСАМОЛЬЦАЎ ЧЫРВОНАШТАНДАРТНАГА ЗАВОДУ ІМЯ ВАРАШЫЛАВА

**„Ваш завод абавязаўся да 1-га сакавіка даць нам пяць гідраэлеватарных установак. Тэрмін выкананьня даўно прайшоў, але да гэтага часу машыя няма.**

**Невыкананьне вашым заводам нашага заказу ставіць пад пагрозу плян торфаздабычы. Такая пляма не да твару комсамольцам Чырвонаштандартнага заводу.**

**Мы ўносім прапанову:**

**Вам, камсамольцам, узяць пад свой контроль выкананьне заказу.**

**Паставіць комсамольскія пасты ў цэхах, брыгадах з тым, каб заказ выканаць у найхутчэйшы тэрмін.**

**Ад імя комсамольцаў заводу „Чырвоны Тарфянік“.**

**Вольга Малаэсава.**

Сакратар выпіў шклянку вады, выцер вусны і працягваў.

— Гэты ліст нас абавязвае дзейнічаць, і таму твая прапанова якраз да часу. Заўтра ў вашай брыгадзе па гэтым пытаньні сход. Ты выступіш і скажаш, аб чым ты гаварыў тут.

Значыць мне можна прымаць выклік тарфянікаў і выклікаць астатнія групы,—адказаў Анатоль?

— Так і ёсьць,—пацьвердзіў сакратар, а Анатоль кінуў на хаду.

— Бывай!—панёс вестку сваёй групе.

## XI

Трохвугольнік цэху быў на месцы сходу адразу-ж пасьля таго, як прагула сырэна на чатыры. Рабочыя загадзя былі паведамлены.

— На сход,—крычаў профорг брыгады, Алесь Гарачы.

Адны спрачаліся:

— Кожны дзень сходы. Што за ліха?

— Сёньня вельмі важная справа,—адказаў Алесь.

— Ты мне і ўчора казаў, што вельмі важная справа... А талён далі,—спрачаўся другі.

— Прычым тут талёны? Хіба талёнамі справы вырашаюць?—даваў зразумелы адказ Алесь і працягваў:

— На сход!

Другія без паўторных запрашэньняў накіраваліся туды, куды іхклікалі.

Ішлі не памытымі.

Сход адчыніў Алесь Гарачы.

— Справа ў нас сёньня вельмі важная. У газэтах кожны дзень пішуць, што завод не дае торфзаводам машыны. Выходзіць, што ганьбім увесь завод.

— Зусім правільна кажаце, адазваўся стары Паўлюк, выціраючы бруднай хусткай рыжыя вусы, якія ад пылу пачарнелі.

— Дадзім слова сакратару цэхавай партячэйкі,—працягваў Алесь Гарачы.

Той сур'ёзна правёў вачыма па сходзе.

— Ужо ня першы раз прыходзіцца талкаваць па гэтым пытаньні, ужо ня раз шматтыражка пісала, што вы зрываеце прамфінплян цэху, ужо зьмянілі кіраўніцтва—і што мы маем... распачаў сакратар цэхавай партыйнай ячэйкі.—Справа палепшылася толькі ў адной групе, дзе сапраўды перабудавалі працу,—працягваў сакратар.

Далей ён пачаў гаварыць аб значэньні гэтых машын для торфазаводаў, аб тым, што будзе сарван плян здабычы торфу.

— А торф ва ўмовах Беларусі—найтанейшы апал,—гаварыў ён.

Далей ён сказаў, што барацьба за торф, датычыцца ня толькі рабочых торфзаводаў, а гэта справа ўсёй партыйнай арганізацыі.

— Мы лічым, што кіраўніцтва з боку Норда дастатковае, трэба толькі ў працы ажыцьцявіць яго ўказаньні,—скончыў сакратар.

Норд напружана слухаў яго.

Анатолева група стаяла ззаду іншых і нешта між сабой абмяркоўвала.

— Ты скажаш ад нашай групы,—намагаўся Анатоль.

— Я ніколі не гаварыў. Не змагу,—адказаў Янка.

— Зможаш. Навучышся. Прамоўцамі ніхто не раджаўся—даказваў Анатоль.

— Хай Алесь альбо ты.

Анатоль нічога не адказаў і перадаў Янку запэцканы ліеток паперы. Той зірнуў на яго і раптам рашыўся.

— Так і быць. Паспрабуем.

Алесь, старшыня сходу, заўважыўшы, што там ідзе свой сход папрасіў:

— Тут здаецца ідзе адзін сход. Просьба цішэй, і перадаў слова Норду.

Звычайна ціхі, ён сёньня быў нечым усхваляваны. Шырокія плечы, здавалася, яшчэ больш раздаліся. Вочы настойліва абмацоўвалі сход.

— Ці ня сорам нам,—распачаў Норд, і пералічыў усіх тых, хто зьявіўся на сход, акрамя Анатолевай групы,—калі ў дзесяты раз прыходзіцца гаварыць аб адным і тым-жа.

— Прарыў!..

— Прарыў!..

. . . . . . . . . . . .

— Праўда, мінулы месяц скончан на 100. Але за квартал замест трыццаці дана толькі дваццаць.

Ён быў абуран. Словы рэзалі кожнага прысутнічаючага.

— Як мы працуем? Па-мойму, дрэнна,—адказваў Норд і гаварыў далей.

— Але ёсьць у нас з каго браць прыклад: група „подвігаў“ тыдзень нічым не адрозьнівалася ад іншых. А цяпер,—ён націскаў з усіх сіл,—яна лепшая. Па ёй павінны раўняцца астатнія. Яе вопыт павінны пераняць адстаючыя.

— Мы-ж пастанавілі, кажучы адкрыта, дагнаць і перагнаць астатнія,—перабіў Норда дзядзька Забэла.

— Чуеце, што ён кажа: „дагнаць і перагнаць“ вас. Ці можаце вы гэта дапусьціць? Па-мойму не,—скончыў Норд.

Слова папрасіў Янка.

— Сып,—кінуў нехта з боку.

— Тыдзень назад я быў зусім другі Янка. На сходзе групы, а вы напэўна і ня ведаеце, што ён быў, мы абгаварылі становішча групы. Усім яно было як на далоні вядома. Група—горшая. Група—хвост... гаварыў ён далей.

Апанас, стаяўшы ззаду, думаў пра сябе. Дзе гэта ён слоў набраўся.

„А казаў што гаварыць ня ўмее.—Нябось разьвязала язык яму“ —гаварыў шэптам Анатоль Казіку.

... — Ангараў тады прапанаваў разьбіць групу на тры... Я сам быў супроць. Не разумеў, што яно дасьць. А дало яно тое, што кожная за сваю работу адказвае,—працягваў Янка. І як падлічыў Ангараў продукцыйнасьць працы ўзьнялася ў нас больш як у два разы... Дык вось ад імя групы я зачытаю наш выклік вас на соцыялістычнае спаборніцтва.

Ен дастаў запэцканы лісток паперы і распачаў чытаць.

**ВЫКЛІК**
**НА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СПАБОРНІЦТВА**

**Мы—група „подвігаў“—улічваючы вялікае значэньне торфу для беларускай прамысловасьці, абвяшчаем нашу групу ўдарнай і выклікаем астатнія на соц.-спаборніцтва.**

**З свайго боку мы абавязуемся:**

**1) Поўнае зьнішчэньне прагулаў і спазьненьняў.**

**2) Узьняць продукцыйнасьць працы і ліквідаваць прастоі.**

**3) Наведваць політзаняткі і гурток па аўладаньні тэхнікай.**

**4) Ліквідаваць прарыў у групе да 1-га мая.**

— Прымайце наш выклік! Адказвайце праз штодзёнку,—скончыў Янка.

Мова Янкі была зразумелай сходу. Ён гаварыў аб тым, чым дыхае на гэты дзень група, чым яна жыве і гэта раздула полымя барацьбы за ліквідацыю прарыву. Сход заварушыўся.

— Выклік прымем абавязкова,—гаварыў стары Паўлюк.

— І ўсё прыняць павінны... Інакш быць ня можа.

— Хто яшчэ жадае гаварыць?

Выступіў сакратар комсамольскага комітэту. Рабочыя яго паважалі і заўжды, калі чулі, што выступіць Сёмка, іх неяк цягнула застацца, паслухаць яго. Мова яго была простай, погляд пранізваючым і здавалася, што калі ён гаворыць, сход зьліваецца з ім у адно, падтрымлівае, згаджаецца на ўсе яго прапановы. Гэту павагу ён атрымаў працуючы каля варштата і цяпер, калі ён—сакратар комсамольскага комітэту, яна больш замацавалася за ім.

— Учора ад комсамольцаў заводу „Чырвоны Тарфянік" атрымалі ліст. Дазвольце яго зачытаць.

Чытаў ён выразна і кожнага калола, як іголкамі. А калі скончыў чытаць, спытаў:

— Зразумела?

Яму адказалі гучным „Так".

— Ці можна як вы надалей працаваць? Ён паглядзеў на ўсіх. Твары маўкліва адказвалі „не".

— Павінны вы прарыў ліквідаваць?—ён зноў паглядзеў на ўсіх. Адказ быў зусім другі: „Павінны".

— Ітак, вазьміце на сябе абавязак ліквідаваць прарыў да першага мая.

— Яго думка прасьвідравала ўсіх. Апанас, сядзеўшы моўчкі пачаў нешта барматаць... потым папрасіў слова.

— Абавязуюся ліквідаваць хвасты!—сказаў ён коратка.

— У каго будуць прапановы?—спытаў Алесь Гарачы.

— Слова для прапановы дамо Ангараву.

— Я прапаную запісаць проста: „Заключыць паміж групамі сацдагаворы, правесьці ўнутры групавое спаборніцтва з тым, каб да першага мая машыны былі на заводах,—па-першае. Па-другое,—працягваў Анатоль,—прапаную адпісаць ліст тарфянікам.

— Хто яшчэ мае?.. Ніхто?.. Згодзімся з імі...

— Хто за прапановы Ангарава?..—Каму-ж даручым адпісаць?—запытаў Алесь Гарачы.

— Ангараву... Норду... Ангараву... Гарачаму... Норду...

## XII

Дваццаць дзевятага красавіка Алесь Гарачы мантыраваў фотанарыс пад назвай:

„ШЛЯХ ПЕРАМОГІ".

# ЗЬМЕСТ

